


Штандар музея выкананы ў характэрнай для музея сіне-блакітнай гаме па матывах слуцкага пояса.
Гімн, сцяг, медаль і штандар з'яўляюцца элементамі карпаратыўнага стылю Нацыянальнага мастацкага музея.

Дызайн – Уладзімір Васюк, аўтар ідэі – Уладзімір Пракапцоў.
Лён, тканіна, шаўковыя ніткі, вышыўка з ручной мадэліроўкай.
2019.

Выканаўцы – майстры Барысаўскага камбіната дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя Аляксандра Кішчанкі Вікторыя Купрыянчык, Галіна Харытоненка, Ала Купрыянчык.



Слуцкі пояс. Фрагмент.
Шоўк, ткацтва, металічная нітка. Слуцк.
Мануфактура Леа Маджарскага. Канец XVIII ст.



**ЗАСНАВАЛЬНІК ЧАСОПІСА** — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Выдаецца са студзеня 1983 года. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 638 выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Спецыялізацыя (тэматыка) — грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая.

**ВЫДАВЕЦ** — Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «КУЛЬТУРА І МАСТАЦТВА»
**Дырэктарка** ІРЫНА АЛЯКСЕЕЎНА СЛАБОДЗІЧ
**Першая намесніца дырэктаркі** ЛЮДМІЛА АЛЯКСЕЕЎНА КРУШЫНСКАЯ



**РЭДАКЦЫЯ: Галоўная рэдактарка** АЛЕНА АНДРЭЕЎНА КАВАЛЕНКА
**Намеснік галоўнай рэдактаркі** Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ,
**рэдактары аддзелаў** Алеся БЕЛЯВЕЦ, Таццяна МУШЫНСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Антон СІДАРЭНКА, **мастацкі рэдактар** Вячаслаў ПАЎЛАВЕЦ,
**літаратурная рэдактарка** Лідзія НАЛІЎКА, **фотакарэспандэнт** Сяргей ЖДАНОВІЧ,
**набор:** Іна АДЗІНЕЦ, **вёрстка:** Аксана КАРТАШОВА.

*Адрас выдавецтва і рэдакцыі: 220013, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 77, пакоі 9, 10, 4 паверх. Тэлефон 292-99-12, тэлефон/факс 334-57-35 (бухгалтэрыя). www.kimpress.by/mastactva. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор прыведзеных фактаў, а таксама за змешчаныя даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтараў. Падпісана ў друк 16.10.2019. Фармат 60x90 1/8. Папера мелаваная. Друк афсетны. Гарнітура «PT Sans Narrow». Ум. друк. арк. 7,0. Ум.-выд. арк. 11,78. Тыраж 941. Заказ 2541. Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»». 220013, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004. E-mail: art_mag@tut.by.*

SUMMARY

The 10th, October issue of *Mastactva* is special: it is dedicated to a major event — the 80th anniversary of the National Art Museum of the Republic of Belarus. The readers are greeted by Uladzimir Prakaptsow, director of this institution so important for the cultural life of Belarus (***The Museum of the 21st Century***, p. 2).
Then follows the **1939—2019 Time Tape** — a kind of the Museum's chronicle (p. 8).
**33 Items of Curiosity** — so many curious facts about the Museum and people working there were collected by Nadzieya Usava with the assistance of museum archive experts. Some of the curious facts will surprise even those who think that they know everything about the National Art Museum (***Bisons, Dali and Germans***, p. 14).
The rubrics in our special issue are also special. Thus, the general theme **The Museum History** embraces a range of substantial materials reflecting different points of view on the history of the National Art Museum, which creates a dimensional and variegated image of the Museum: Nadzieya Usava writes about the first director Mikalai Mikhalap and the prewar period of the Museum (***The Red Gallery***, p. 18), Dzmitry Monich describes Alena Aladava's "gold times" and the Museum of the 1940s—1960s (***Winners Are Not Judged***, p. 24), Alena Shapashnikava depicts the BSSR State Art Museum in the 1970s—1990s (***On the Way to the National***, p. 30), Katsiaryna Izafatava presents the National Art Museum in the new millennium (***A Temple of Art vs a Mall of Culture***, p. 34).
Naturally, the **Museum's branches** are also within the scope of our attention. Sviatlana Yatsevich talks about the history and the present-day life of "The Vankovich House" Museum Estate (p. 40), Darya Illinich, on the pages of the magazine, conducts an excursion to the Belarusian Folk Art Museum in Raubichy (p. 42), and Sviatlana Strogina invites the readers to make a virtual tour of Vitold Bialynitsky-Birulia's Museum in Magiliow (p. 44).
The October museum rubric **Restoration** prepared a research article, as it were, a journey into the times of hoary antiquity to bring back valuable treasures of Belarusian and world art. Katsiaryna Isayeva describes the indispensable profession of a restorer artist — a responsible and difficult job, almost a kind of magic (***Discovery of the Genuine***, p. 46). Its best representatives, no doubt, work at our National Art Museum.
**International Exhibition Activity** is an inalienable part of a contemporary museum, and our Art Museum can justly pride itself in it: the Belarusian do have what to show the world and how to amaze it. If you do not believe it, read Liubow Sysoyeva's article on this subject (***The Country's Positive Image***, p. 52).
Another essential component of museum activities nowadays is **Marketing Strategies**. Alena Maschonak prepared for the anniversary issue a special account of the country's leading Museum's projects that have been successfully implemented and planned on a large scale (***"I Choose the Art Museum!"***, p. 54).
The publication is concluded with the **Art Map**, where the 2019—2025 Museum Block happened to get (p. 56).


1.

# Музей XXI стагоддзя

КОЖНЫ З ДЫРЭКТАРАЎ НАШАГА ГАЛОЎНАГА МУЗЕЯ СТАЎ УВАСАБЛЕННЕМ СВАЁЙ ЭПОХІ. МІКАЛАЙ МІХАЛАП ЯК ПАЧЫНАЛЬНІК, АЛЕНА АЛАДАВА ЯК ЗБІРАЛЬНІЦА СТРАЧАНАГА, ШТО ПА КРУПІНКАХ УЗНАЎЛЯЛА КАЛЕКЦЫЮ ПАСЛЯ ВАЙНЫ, І ЮРЫЙ КАРАЧУН, ЯКІ ПЕРАФАРМАТАВАЎ МУЗЕЙ ДЛЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ КРАІНЫ. МОЙ СУРАЗМОЎЦА УЛАДЗІМІР ПРАКАПЦОЎ – ТАКСАМА ПРАДСТАЎНІК ЦЭЛАЙ ЭПОХІ, ШТО АХОПЛІВАЕ 20 ГОД НАПРУЖАНАЙ ПРАЦЫ З САМАГА КАНЦА XX СТАГОДДЗЯ. ЯКІ ГЭТА БЫЎ ЧАС, У ЯКІМ СТАТУСЕ МУЗЕЙ СУСТРАКАЕ СВАЁ 80-ГОДДЗЕ, КУДЫ РУХАЕЦЦА, ЯК ПАШЫРАЛІСЯ ПЛОШЧЫ І ЗМЯНЯЛІСЯ КАНЦЭПТЫ – ПРА ЎСЁ ГЭТА ГУТАРЫМ З ДЫРЭКТАРАМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

**Ваш музей сёння перажывае дынамічныя трансфармацыі, удасканальваецца інфраструктура, пашыраюцца функцыі, завяршаецца будаўніцтва музейнага квартала... Музей мяняецца, і адбываўся гэты працэс паступова. Вы былі прызначаны дырэктарам у 1998 годзе, стаўшы пераемнікам Юрыя Карачуна. Што працягвалі, а што новага ўвялі ў параўнанні са сваім папярэднікам? Як развівалася стратэгія музея з прыходам новага дырэктара?**

– Першае, што я зрабіў, калі стаў дырэктарам, – ушанаваў сваіх папярэднікаў. Паставіў бюсты Мікалаю Міхалапу, Алене Аладавай і Юрыю Карачуну. На фасадзе галоўнага будынка ўсталявалі мемарыяльную дошку, прысвечаную Аладавай, а таксама ўшанавалі архітэктара музейнага будынка Міхаіла Бакланава.

Адначасова я прааналізаваў і перагледзеў усю гаспадарку музея: мы мелі восем філіялаў у розных рэгіёнах Беларусі. У Мазырскім раёне ў вёсцы Гурыны (былы будынак 8-гадовай школы) знаходзілася карцінная галерэя, дзе размяшчаліся творы беларускіх мастакоў XX стагоддзя. У адным з будынкаў комплексу Гальшанскага касцёла таксама быў філіял. Я зразумеў, што грошы размываліся, эфекту не было ніякага. Таму патраціў пяцьшэсць гадоў на тое, каб скараціць філіялы, аддаць іх на мясцовае кіраванне. Напрыклад, Музей-майстэрня Заіра Азгура перададзена гораду Мінску, Лошыцкі музейны будынак – таксама сталіцы. Нам, праўда, у спадчыну застаўся Мірскі замак, у якім мы на працягу 12 год рабілі рэстаўрацыю, музеефікацыю, а ў 2010 годзе ён стаў асобнай рэспубліканскай установай. У Гальшанах будынак быў перададзены касцёлу, бо ён першапачаткова яму належаў. Пакінулі ў якасці філіялаў толькі музей Ваньковіча ў Мінску, Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах і Музей Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве. Калі філіялаў стала менш, з'явілася магчымасць сканцэнтраваць усе сродкі на галоўным корпусе музея, дзе таксама было шмат праблем. І адна з істотных заключалася ў тым, што музей – адзін з найбуйнейшых навуковых і культурна-асветных цэнтраў краіны, які ў 1993 годзе атрымаў пачэснае найменне «нацыянальны», не мог плённа развівацца з-за недахопу плошчаў.

Дзякуючы наведванню музея ў 1999 годзе Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам аднавілася раней «замарожанае» ўзвядзенне прыбудовы да галоўнага будынка. Па просьбе кіраўніцтва музея ў 2000-м нам быў перададзены суседні 5-павярховы дом 1954 года пабудовы на вуліцы Леніна, 22, дзе размяшчаўся інстытут «Геасэрвіс».

Хачу падкрэсліць важны аспект: на працягу гэтых дваццаці двух гадоў музей з'яўляўся замоўцам. Мы самі адказвалі за ўсе працэсы, звязаныя з будаўніцтвам, за фінансы, за своечасовае іх асваенне. Гэта даволі складана, і аналагаў у краіне я не ведаю, але за гэтыя гады я набыў яшчэ адну прафесію: стаў і прарабам, а не толькі адміністра-

тарам, мастаком, мастацтвазнаўцам. Такім чынам мы ўводзілі прыбудову, праводзілі рэканструкцыю і музеефікацыю Мірскага замка, у апошнія тры гады зрабілі капітальны рамонт і музеефікацыю Музея Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, і сёння гэтак сама будуем музейны квартал. Для нас важна, што мы не даем магчымасці пускаць працэс на самацёк.

**А вы задаволены новым корпусам музея, які быў адкрыты ў 2006 годзе?**

— Новы корпус мае клімат-кантроль, кругласутачнае відэаназіранне, сучасную сістэму асвятлення, плошча складае 7130 м$^2$ , у тым ліку экспазіцыйная — 2640 м$^2$ , дэпазітарый — больш за 1000 м$^2$ з сучасным абсталяваннем. Ён стаў лагічным працягам і доўгачаканым дапаўненнем да асноўнага будынка музея 1957 года.

Што тычыцца архітэктурнага вырашэння: там ёсць пытанні… Але праект быў зроблены да мяне, і на яго былі выдаткаваны вялікія грошы. Нешта я змог змяніць па ходзе спраў. Калі б ад мяне залежала, я б зрабіў праект іншым. Узяў бы за аснову бакланаўскі будынак, скампанаваў бы яго наадварот: усталяваў вялікую лесвіцу, закальцаваў галерэю. На жаль, атрымалася шмат вольнага месца, але ўсё з цягам часу перафарматуем. Дэкору не будзе, італьянскага дворыка — таксама, будзе нармальны музейны інтэр'ер, спадзяюся.

**Вы некалі казалі, што тры разы мянялі свой штат…**

— Не штат, а сваіх намеснікаў. Тры разы, таму што той аб'ём работ і адпаведную адказнасць не ўсе вытрымлівалі. Кожны год з'яўляліся новыя праблемы, іх трэба было вырашаць штодзённа, штодзень канкрэтнай справай даказваць сваё прызначэнне. Не ўсе гэта могуць вытрымаць, музею трэба аддавацца цалкам, бо гэта не толькі тваё рабочае месца, а фактычна — і твой родны дом. Я гэта асабістым прыкладам даказваю сваім падначаленым. Таксама я тры разы перафарбаваў залы рускага мастацтва ў старым корпусе, сам выбіраў колеры і ў астатніх залах музея. Сёлета былі вымушаны па ўсім бакланаўскім будынку рабіць абследаванне з экспертызай сцен, столі, падлогі. На працягу трох месяцаў гэты будынак быў закрыты, карціны — вынесены. Пасля экспертызы шматлікія нішы ў сценах былі зашпакляваны, паркетная падлога таксама шмат дзе аднаўлена. Усё было пафарбавана зноў, і я застаўся задаволены гэтай вялікай работай — залы музея сёння выглядаюць як новыя і адпавядаюць тым колерам, якія я хацеў бачыць. Нарэшце і першая зала набыла сапраўдны колер «бардо», як я і хацеў.

**Вы прыйшлі пасля сур'ёзнага фінансавага крызісу: зразумела, гаспадарчыя пытанні патрабавалі неадкладнага вырашэння. А якія адбыліся праграмныя змены ў музейнай палітыцы?**

— Па-першае, я адразу паставіў кропкі над «і» ў выставачнай дзейнасці. Калі раней, у часы БССР, музей быў амаль адзіным месцам, дзе можна было арганізоўваць выставы, то сёння маюцца Палац мастацтва, разнастайныя галерэі, НЦСМ, таму


2.

аўтары з сучаснымі праектамі могуць выстаўляцца ў іншых месцах. Бо напрамак музея — класічны. Не акадэмічны. Праўда, мы арганізуем эксперыментальную лабараторыю ў арт-кафэ для маладых аўтараў, таксама падчас Ночы музеяў мяняем фармат на больш вольны.

Зараз мы ўвогуле пераглядаем выставачныя формы працы з мастакамі. Бо наш музей з цягам часу ператварыўся ў карцінную галерэю, стаў пляцоўкай, дзе выстаўляюцца ўсе юбіляры. Менавіта таму мы вырашылі ладзіць экспазіцыі толькі класікаў беларускага мастацтва: напрыклад, да 95-годдзя Віктара Грамыкі, да 100-годдзя Віталя Цвіркі, плануем у наступным годзе адзначыць 90 гадоў Мая Данцыга, Арлена Кашкурэвіча і Леаніда Дударэнкі. Каб дарасці да выставы ў Нацыянальным мастацкім музеі, трэба мець адпаведнае імя, дастаткова высокі прафесійны ўзровень. Некаторых мастакоў нават са званнямі мы не рэкамендуем на вучонай радзе. Бо не павінны ператварацца ў прахадную галерэю.

У нас вялікія музейныя зборы, якія нам важна паказаць гледачу, і мы ладзім на аснове калекцый тэматычныя выставы. Летась паказалі «RELAX, або 6 практык расслаблення вачыма мастакоў» — выставу на аснове нашых фондаў. Два разы паказалі творы Айвазоўскага. Першы раз падалі яго як марыніста. Па заяўках паўтарылі, але ўвялі іншых мастакоў, звязаных з тэмай мора. Такія выставы звычайна доўжацца тры месяцы, і гэта дае нам магчымасць арганізоўваць інтэрактыўныя праграмы — лекцыйныя, музычныя, экскурсійныя. Сярод удалых экспазіцый згадаю «Гульні. Игры. Games» прысвечаную спорту, дзе былі паказаны творы і савецкага перыяду з нашых фондаў, старое кіно і працы сучасных мастакоў. Кантраст раскрыў новыя аспекты тэмы. Таму наша перспектыва — не проста развесіць работы на сценах, а стварыць свайго роду адкрыты падручнік, карысны для студэнтаў. Сёння, на жаль, зніжаецца ўзровень выкладання ва ўстановах мастацтваў, таму важна паказаць, як працавалі нашы старыя майстры. Вельмі важная частка нашай дзейнасці — замежныя выставы. Не ўсе гледачы могуць наведаць Ліхтэнштэйн ці нейкую іншую краіну.

Таксама плануем паказваць сваіх класікаў, чые творы апынуліся за межамі Беларусі. У наступным годзе ў рамках ЮНЕСКА будзем адзначаць 150 гадоў Фердынанда Рушчыца. Актыўна вядзём перамовы з польскімі і літоўскімі музеямі наконт выстаў і канферэнцый. Плануецца гашэнне маркі, выпуск манеты, прысвечанай мастаку. Арганізуем мы і выставы з іншых музеяў. Напрыклад, у рамках святкавання стагоддзя УНОВИСа вядзём перамовы з установамі блізкага і далёкага замежжа. Міністэрства культуры даводзіць нам план платных паслуг. Мы гэты план павінны выконваць: чым больш будзе інтэрактыўных праектаў, у тым ліку і замежных, тым больш наведвальнікаў, тым больш сродкаў, з якіх выплачваем супрацоўнікам прэміі, з пазабюджэтных грошаў аплачваем часткова камунальныя паслугі і трымаем аўтатранспарт.

**На якія выставачныя кампрамісы вы гатовы пайсці ў пошуку фінансавых сродкаў?**

— Ні на якія. Напрыклад, я ўпэўнены, што камерцыйны мастак Нікас Сафронаў не будзе ў нас выстаўляцца, а расійскія мастакі, такія як Валянцін Сідараў, Таір Салахаў, Зураб Цэрэтэлі, браты Ткачовы, Дзмітрый Жылінскі і іншыя, будуць, бо гэта сапраўды высокі прафесійны ўзровень. Такая выстава, дарэчы, плануецца ў наступным годзе.

**Якраз вось хацела спытаць: вы некалі сказалі, што павінны рабіць праекты з такімі знакавымі музеямі, як Траццякоўка, Эрмітаж. Чаму не з еўрапейскімі музеямі? Вялікіх сусветных паказаў хранічна тут не хапае.**

— Каб арганізаваць такі еўрапейскі праект, патрэбныя вялікія грошы, бо вельмі высокія страхоўкі. Гэта мы ведаем па нашых музейных выставах Марка Шагала. Зараз вось з Францыяй будзе сумесная выстава, прысвечаная Надзі Лежэ, але там графіка, яе танней прывезці. Пытанне тут толькі ў фінансах. Мы стараемся браць творы з іншых музеяў, але гэта галоўным чынам абменныя выставы. Напрыклад, графіка выбітнага швейцарскага мастака з Ліхтэнштэйна Іагана Людвіга Блойлера «Падарожжа па Рэйне» экспанавалася сёлета ў адказ на нашу выставу абразоў (XVII—XX стагоддзяў). Прычым яна ўпершыню за два стагоддзі пакінула сцены музея Ліхтэнштэйна. У наступным годзе адбудзецца выстава Карнэлія Баба з Бухарэсцкага нацыянальнага мастацкага музея. Ёсць дамовы з Арменіяй, Узбекістанам, Украінай…

**Якім чынам арганізуюцца ў вас выставы? Хто ініцыятар?**

— Вучоная рада разглядае заяўкі беларускіх мастакоў, якія выконваюцца толькі на 15-20 адсоткаў. Выставы з фондаў ладзяць супрацоўнікі, па міжнародных — дамаўляемся са сваімі калегамі. Расстаўляем наступныя прыярытэты: напачатку міжнародныя выставы, а тыя плошчы, што застаюцца, аддаём беларускім класікам.

**Самае значнае ваша дасягненне на пасадзе дырэктара.**

— За гэтыя два дзесяцігоддзі набыты пэўны аўтарытэт музея не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. А самае галоўнае — распачата будаўніцтва музейнага квартала, у ажыццяўленне якога мала хто верыў нават з маіх калег.

**Які плануецца адкрыць ужо ў наступным годзе… У чым яго ўнікальнасць?**

— Гэта будзе адзіны музейны комплекс з пяці будынкаў, злучаных паміж сабой пераходнымі галерэямі і прыбудовамі. Такім чынам мы задаволім нашы ўзрослыя патрэбы, станем сапраўдным музеем XXI стагоддзя. Зоймеем належныя ўмовы для захавання твораў мастацтва дзеля будучых пакаленняў. Сёння ў музеі ўтрымліваецца больш за 33 тысячы адзінак захавання, сярод іх шмат сапраўдных шэдэўраў — як беларускіх, так і сусветных.

Важна разумець, што захаванне музейных прадметаў ідзе поруч з іх рэстаўрацыяй, гэта рэчы цалкам узаемазвязаныя. Сфарміраваць упершыню ў Беларусі буйны рэстаўрацыйны цэнтр, забяспечыць яго найноўшым абсталяваннем і кваліфікаванымі кадрамі — надзённая патрэба, і яна, упэўнены, дасць штуршок развіццю айчыннай музейнай рэстаўрацыі.



3.

Мы нарэшце зможам паказаць многія скарбы, якімі валодае музей. Агульная экспазіцыйная плошча павялічыцца на 3263 м$^2$, ці на 43% у параўнанні з цяперашняй, і наш музей зможа паказаць каля 8% свайго збору пры сённяшніх 3%. А гэта азначае, што наведвальнікі змогуць пабачыць шматлікія творы, некаторыя з якіх раней экспанаваліся толькі на часовых выставах, а многія ўвогуле ніколі не



паказваліся публіцы. Найперш гэта, вядома, датычыцца нацыянальнай мастацкай спадчыны. Гледачы ўбачаць беларускае мастацтва такім, якім яны яго яшчэ не бачылі, у той паўнаце і разнастайнасці, у якой яно ніколі нідзе не экспанавалася.

І гэта далёка не ўсе нашы задумы. У другой палове 2020 года плануецца адкрыццё першай чаргі — будынка па вуліцы Карла Маркса, 24, дзе будуць праходзіць самыя розныя выставачныя праекты на плошчы 845 м$^2$, з развітай інфраструктурай: арт-кавярняй, крамай сувенірнай прадукцыі. Паралельна з гэтым вядуцца работы па ўводзе ў эксплуатацыю музейнага будынка па вуліцы Кірава, 25, што ўвабраў у сябе элементы архітэктуры XIX—XX стст. Тут запланавана размясціць рэстаўрацыйныя майстэрні, архіў і бібліятэку, памяшканні пад захаванне асобных фондавых калекцый.

У далейшым будуць рэканструяваны цяперашнія адміністрацыйны і галоўны будынкі музея. У цэнтры комплексу пасля аб'яднання галерэямі ўсіх аб'ектаў музея з'явіцца ўтульны ўнутраны дворык, які стане паркам скульптуры.

Такім чынам, праз некаторы, спадзяюся, непрацяглы час будзе скончана рэстаўрацыя і прыстасаванне ўсіх аб'ектаў музейнага комплексу Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, які і знешне, і вонкава будзе адпавядаць высокаму званню апірышча муз. Для самых розных наведвальнікаў, у тым ліку і для людзей з інваліднасцю, будзе спецыяльны ліфт, будуць прадстаўлены высокамастацкія экспазіцыі, што раскрыюць гісторыю нацыянальнага і замежнага мастацтва, міжнародныя выставачныя праекты, а таксама прастора для іншых форм музейнай актыўнасці. І ўсё гэта з выкарыстаннем найноўшага мультымедыйнага абсталявання.

Мяркую, праз нейкі час новая генерацыя музейных экскурсаводаў будзе гаварыць наведвальнікам: «Яшчэ на пачатку XXI стагоддзя пастаянная экспазіцыя музея займала ўсяго пяць залаў...»

**Што з запланаванага не ўдалося рэалізаваць на пасадзе дырэктара?**

— Усё ўдалося, і самае галоўнае — атрымалася развіццё музейнай інфраструктуры. Калі б я на працягу сваёй дзейнасці не займаўся гэтым стратэгічным пытаннем — пашырэннем музейнай плошчы, — то заўтра ў майго пераемніка не выйдзе нічога. Урэшце ўсё можна купіць — і Шагала, і Кікоіна. Важна, каб сцены і музейнае абсталяванне адпавядалі ўзроўню XXI стагоддзя.

Нацыянальны мастацкі музей — візітоўка краіны, ён падвышае яе імідж. Мы павінны годна паказаць нашы набыткі замежным турыстам, каб яны мелі ўяўленне, што ў краіне развіваецца не толькі рэальны сектар эканомікі, але і мастацтва, а пра яго за мяжой мала ведаюць. Важна выхоўваць пачуццё гонару за нашу культуру, гісторыю, мастакоў у нашых гледачоў, асабліва моладзі.

Наша місія — навукова-асветніцкая, адукацыйная, эстэтычная — папулярызацыя мастацтва, у тым ліку і беларускіх аўтараў, не толькі праз выставы. Мы выдаём каталогі, альбомы, выходзіць серыя кніг «Нашы славутыя мастакі з Беларусі», за 9 гадоў выпусцілі больш за 30 на трох мовах — беларускай, рускай, англійскай, так званы беларускі іканастас нашых ураджэнцаў.

**Гісторыя музея даволі трагічная, першапачатковая калекцыя была амаль цалкам страчана. Якім чынам папаўняюцца музейныя зборы сёння, ёсць свайго роду звышідэя — кампенсаваць страту знакавых рэчаў для беларускай культуры?**

— Мы пастаянна шукаем на гэта сродкі. Слуцкіх паясоў у нас толькі два, а было да вайны 48. З твораў ураджэнцаў Беларусі — адзін Рушчыца. З мастакоў Парыжскай школы маем два графічныя аркушы Марка Шагала, якія падарыў Белгазпрамбанк. Спонсары набываюць па нашай замове той ці іншы твор, дораць яго нам. Беларус-калекцыянер з Масквы Аляксандр Валадчынскі падараваў работу Бялыніцкага-Бірулі, два нацюрморты ўраджэнца Гродна, мастака Парыжскай школы Восіпа Любіча набытыя Ганаровым консулам Беларусі ў Цюрыху Анастасіасам Акратасам, тры творы Надзі Хадасевіч-Лежэ («Абстрактная кампазіцыя з чырвоным шарам», 1928 год, «Партрэт», 1935 год, «Мір», 1948 год), работа Кікоіна, карціна Крэменя і твор Глюкмана набыў Ганаровы консул Беларусі ў Лазане Андрэй Нажэскін.

Расійскі бізнэсмен, беларус па паходжанні Георгій Хацанкоў пры пасрэдніцтве Пасольства Беларусі ў Францыі падараваў 12 прац сучасных беларускіх мастакоў з уласнай калекцыі: тры творы народнага мастака Аляксандра Кішчанкі, адзін — Аляксея Марачкіна, а таксама скульптараў Галіны Гаравой (чатыры творы), Уладзіміра Слабодчыкава, Леаніда Давыдзенкі і Станіслава Ларчанкі.

Нам не трэба, напрыклад, закупляць палотны Шышкіна ці іншых рускіх мастакоў, акрамя, канешне, падарункаў музею, бо кожны з іх каштуе каля мільёна долараў. За гэтыя грошы можна купіць, скажам, тры працы Рушчыца ці Майсенкі.

Мы ведаем, чаго ў нас не хапае, аднак на ўсё не стае фінансавых магчымасцей. Таксама мы павінны збіраць творы і сучасных мастакоў — знакавых аўтараў. Але звычайна атрымліваем такія работы ў дар.

Культавы твор, які б я хацеў выстаўляць у нашым музеі і на які б прыязджалі нават замежныя турысты, — гэта «Габелен стагоддзя» Аляксандра Кішчанкі.

**Бліжэйшыя планы тычацца, верагодна, адкрыцця квартала.**

— Так, зацвердзіць у наступным годзе палову музейнага квартала, а затым і другую. Мне і калектыву музея пад сілу адкрыць і квартал, і нават музейны мікрараён.

Асабіста я атрымліваю на сваёй пасадзе асалоду, таму што ўсё сышлося ў маёй працы: мастак, мастацтвазнаўца, арганізатар, добрая школа ў апараце Савета Міністраў. Выдатная базавая адукацыя і набыты вопыт дазваляюць мне сёння на роўных размаўляць з любым мастаком, са сваімі замежнымі калегамі, весці перамовы дзеля роднага музея Беларусі.

**Тады будзем чакаць адкрыццяў у абноўленым музеі.**

*Гутарыла Алеся Белявец.*

**1. Уладзімір Пракапцоў.**
*Фота Сяргея Ждановіча.*
**2. Інтэр'ер галоўнага корпуса.**
**3. Праект скульптурнага дворыка музейнага квартала.**

Архітэктар Міхаіл Бакланаў. Праект будынка ДКГ БССР. 1949.



Будаўніцтва музея. 1955.



Іван Ахрэмчык. Абаронцы Брэсцкай крэпасці. Алей. 1957–1958.



**1939**
*24 студзеня*
Пастанова аб адкрыцці Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР.
*9 сакавіка*
Мікалай Міхалап зацверджаны як дырэктар ДКГ.
*5 лістапада*
Урачыстае адкрыццё ДКГ у будынку былой жаночай Марыінскай гімназіі па вуліцы Карла Маркса.

**1940**
*Красавік*
Паступленне ў фонды 48 паясоў слуцкага тыпу з нацыяналізаванай калекцыі Радзівілаў у Нясвіжы і іншых магнатаў.
Выстава «Мастацтва Беларускай ССР». Да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве.
Выстава «Ленін і Сталін — арганізатары БССР».

**1941**
Выстава «Мастацкія рамёствы народаў СССР». З Дзяржаўнага гісторыка-мастацкага музея-запаведніка. Загорск.
*22 чэрвеня*
Пачатак вайны. Падрыхтоўка да эвакуацыі галерэі.
*26 чэрвеня*
Эвакуацыя музейных супрацоўнікаў. Да 22 чэрвеня ў фондах ДКГ БССР налічвалася звыш 4000 твораў. Разграбленне галерэі акупацыйнымі фашысцкімі ўладамі. Вываз калекцыі ў Германію.

**1944**
*16 мая*
Пастанова СНК БССР №247 аб аднаўленні Беларускай Дзяржаўнай карціннай галерэі і аднаўленні яе дзейнасці з часовай базай у Гомелі. Дырэктаркай галерэі прызначана Алена Аладава (1944–1977).

*10 кастрычніка*
Перадача на часовае карыстанне ДКГ БССР часткі будынка Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Перадача галерэі 8 пакояў будынка Дома Прафсаюзаў на плошчы Свабоды.

**1945**
Выстава твораў мастакоў Беларусі, прысвечаная 25-годдзю ўтварэння БССР. Закупка першых твораў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Да канца года набыта звыш 317 твораў рускіх і беларускіх мастакоў.

**1946**
Выстава графікі беларускіх мастакоў перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

**1947**
*15 лістапада*
Адкрыццё пастаяннай экспазіцыі ДКГ БССР. Калекцыя галерэі налічвае 829 твораў. У пяці экспазіцыйных залах прадстаўлена больш за 60 твораў дарэвалюцыйнага і савецкага, беларускага і рускага мастацтва.

**1948**
Рэспубліканская выстава, прысвечаная 30-годдзю БССР.

**1949**
*15 кастрычніка*
Пастанова СМ БССР №1213 аб аднаўленні будынка Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. Першы праект музея (архітэктар Міхаіл Бакланаў).
Выстава твораў беларускіх мастакоў, прысвечаная 70-годдзю Сталіна.

**1950**
Выстава твораў савецкіх мастакоў, прысвечаная вызваленню Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1951**
Выстава пейзажаў беларускіх мастакоў.

**1952**
Па вуліцы Леніна закладзены падмурак і ўзведзены сцены першага паверха будынка ДКГ БССР (архітэктар Міхаіл Бакланаў).

**1953**
Выставы выяўленчага мастацтва і народнай творчасці БССР. Да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве.

**1954**
Выстава твораў заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Уладзіміра Кудрэвіча. Да 70-годдзя з дня нараджэння.

**1955**
Выстава заходнееўрапейскага мастацтва XV–XIX стст. З Дзяржаўнага Эрмітажа. Ленінград.
Выстава польскага выяўленчага мастацтва канца XVIII–XX стст. З музеяў і прыватных збораў Польшчы.
Дэкадная выстава беларускага мастацтва ў Траццякоўскай галерэі ў Маскве.
Экспанаванне карціны Валянціна Волкава «Мінск. 3 ліпеня».

**1956**
Выстава твораў Льва Лейтмана. Да 60-годдзя з дня нараджэння.

**1957**
Пастанова СМ БССР №423 аб адкрыцці Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

*5 лістапада*
Адкрыццё па вул. Леніна, 20, Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Зборы музея налічваюць 2886 адзінак захавання.

**1958**
Выставы твораў заслужаных дзеячаў мастацтваў БССР Яўгена Зайцава і Анатоля Шыбнёва. Да 50-годдзя з дня нараджэння мастакоў.

Заір Азгур. Ларыса Александроўская. Мармур. 1940.



Вітольд Бялыніцкі-Біруля. Зімні сон. Алей. 1911.



Віталь Цвірка. Каложа. Архітэктурны помнік XII стагоддзя. Алей. 1969.



**1959**
Выстава сучаснага прыкладнога мастацтва Югаславіі з Бялграда.
Выстава выяўленчага мастацтва Румыніі. Да Дзён румынскай культуры ў Беларусі.

**1960**
Выстава твораў Яна Матэйкі. З музеяў Польшчы.
Выстава «Прыкладное мастацтва Кітая XVII–XIX стст.». З Дзяржаўнага Эрмітажа. Ленінград.
Вяртанне ў музей некалькіх дзясяткаў твораў з даваенных калекцый, знойдзеных у Германіі.

**1962**
Выстава твораў народнага мастака РСФСР і БССР Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Да 90-годдзя з дня нараджэння. З музеяў і прыватных калекцый СССР.

**1963**
Выстава твораў народнага мастака БССР Віталя Цвіркі. Да 50-годдзя з дня нараджэння.

**1964**
Выстава твораў Абрама Архіпава. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З музеяў СССР.

**1965**
Выстава твораў заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Паўла Масленікава. Да 50-годдзя з дня нараджэння.

**1966**
Выстава «Мастацтва Галандыі і Фландрыі XVII ст.». З Дзяржаўнага Эрмітажа. Ленінград.

**1967**
Выстава французскага мастацтва XVII–XIX стст. З Дзяржаўнага Эрмітажа, ДМВМ імя А.С. Пушкіна і ДММ БСССР.
Выстава керамікі Пікаса і рэпрадукцый заходнееўрапейскага мастацтва. Дар музею ад Інстытута мастацтваў імя Марыса Тарэза і Надзі Лежэ. Парыж.

**1968**
Рамонт будынка. Падрыхтавана 18 камплектаў перасоўных выстаў, якія экспанаваліся ў 41 пункце рэспублікі.
Выйшаў у свет першы даведнік па музеі.

**1969**
Выстава «Жывапіс Савецкай Беларусі» ў Ювяскюлі. Фінляндыя.

**1970**
Выстава «Сучаснае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Венгрыі». З музеяў і прыватных збораў Будапешта.

**1971**
Выстава твораў народнага мастака СССР Заіра Азгура. Да 60-годдзя з дня нараджэння.

**1972**
Выстава твораў народнага мастака РСФСР і БССР Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З музеяў і прыватных збораў СССР.
Усесаюзныя выставы, прысвечаныя 100-годдзю Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў («Пейзажны жывапіс перадзвіжнікаў», «Жанравы жывапіс перадзвіжнікаў», «Партрэтны жывапіс перадзвіжнікаў»). З музеяў СССР.

**1973**
Выстава заходнееўрапейскага мастацтва і ЗША. Са збору Арманда Хамера. ЗША.
Выстава «Малюнкі Надзі Рушавай» (1952–1969). Са збору Рушавых. Масква.

**1974**
Выстава злепкаў «Шэдэўры сусветнай скульптуры». Дар музею Надзі Лежэ.
Выстава твораў народнага мастака БССР Міхаіла Савіцкага. Да 50-годдзя з дня нараджэння.

**1975**
Выстава твораў Мікалая Рэрыха. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З музеяў і прыватных збораў СССР.
Выстава «Скарбы Дрэздэнскай галерэі». ГДР.

**1976**
Выстава «Заходнееўрапейскі і амерыканскі жывапіс з музеяў ЗША». З Нацыянальнай карціннай галерэі ды іншых калекцый Амерыкі.

**1977**
Загад МК БССР аб стварэнні філіяла Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у былым культавым будынку, размешчаным у раёне спартыўна-аздараўленчага комплексу ў вёсцы Раўбічы Мінскага раёна.
Юбілейны вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння і 50-годдзю творчай дзейнасці Алены Аладавай.
Выстава «Польскі партрэт канца XVI–XVIII ст.». З музеяў Польшчы.
Дырэктарам музея прызначаны Юрый Карачун.

**1978**
Распараджэнне СМ БССР №698-р аб адкрыцці ў Магілёве мастацкага музея Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.
Рашэнне Мазырскага райвыканкама №130 аб рэканструкцыі і пашырэнні Мазырскай карціннай галерэі ў в. Гурыны.
Выйшаў у свет каталог беларускай савецкай скульптуры (складальніца Аліса Наркевіч).

Арлен Кашкурэвіч. Партызанскія маці. З цыклу «Партызаны». Афорт. 1970.



Гаўрыла Вашчанка. Матчыны крылы. Алей. 1970.



Андрэй Заспіцкі. Гімнасткі. Алюміній. 1971.



**1979**
*12 снежня*
Адкрыццё Музея беларускага народнага мастацтва ў в. Раўбічы.
Выстава твораў заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Гаўрылы Вашчанкі да 50-годдзя з дня нараджэння.
Выстава твораў Мікалая і Святаслава Рэрыхаў. З Акадэміі мастацтваў СССР. Масква.
Выдадзены каталог беларускіх народных тканін (складальніца Таццяна Сцепіна).

**1980**
Створаны аддзел старажытнабеларускага мастацтва пад кіраўніцтвам кандыдата мастацтвазнаўства Надзеі Высоцкай.
Выстава твораў Леаніда Шчамялёва, габеленаў Міхаіла Савіцкага і Аляксандра Кішчанкі, прадстаўленых на спашуканне Дзяржаўнай прэміі БССР.

**1981**
Выстава твораў народнага мастака БССР Андрэя Бембеля. Да 75-годдзя з дня нараджэння.
Выстава керамікі Пабла Пікаса. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З фондаў ДММ БССР.

**1982**
Адбылося адкрыццё Музея Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве.

**1983**
Усесаюзная выстава твораў Івана Шышкіна. Да 150-годдзя з дня нараджэння.
Выстава твораў Апалінарыя Гараўскага. Да 150-годдзя з дня нараджэння.
Выстава твораў Леаніда Саламаткіна. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З музея ДММ БССР.
Рашэнне Ашмянскага выканкама аб прыняцці на баланс будынкаў былога кляштарнага комплексу.
Стварэнне філіяла «Архітэктурны комплекс XVI–XVIII стагоддзяў у в. Гальшаны» Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці.

**1984**
Выстава твораў народнага мастака БССР Івана Ахрэмчыка. Да 80-годдзя з дня нараджэння.

**1985**
Выстава «Заходнееўрапейская гравюра XV–XVIII стст.». З Дзяржаўнага Эрмітажа. Ленінград.

**1986**
Выстава «Тыбецкае мастацтва XIII–XIX стст.». З Дзяржаўнага Эрмітажа. Ленінград.
Загад МК БССР №109 аб перадачы помніка «Лошыцкая сядзіба» на баланс ДММ БССР.
Выхад у свет каталога Надзеі Высоцкай «Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV–XVIII стагоддзя ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР».

**1987**
Выстава твораў народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага.
Усесаюзная выстава твораў Зінаіды Серабраковай. Да 100-годдзя з дня нараджэння.
Прыняцце на баланс комплексу будынкаў і архітэктурных помнікаў у г.п. Мір Гродзенскай вобласці.

**1988**
Выстава «Дары Арманда Хамера Савецкаму фонду культуры» (сумесна з Беларускім фондам культуры).
Выстава твораў Язэпа Драздовіча. Да 100-годдзя з дня нараджэння. З фондаў ДММ БССР, Гісторыка-этнаграфічнага музея Літоўскай ССР, Дзяржаўнага музея БССР, Музея старажытнабеларускай культуры АН БССР, Літаратурнага музея Якуба Коласа.

**1989**
Створаны аддзел рэстаўрацыі, сектар фізіка-хімічных даследаванняў, інжынерная група, пашыраны аддзел захавання, пачалася работа па стварэнні АСУ (аўтаматызаванай сістэмы ўліку экспанатаў).
Выстава «Заходнееўрапейскае прыкладное мастацтва XI–XX стагоддзяў са збору Дзяржаўнага Эрмітажа».
Створаны рэстаўрацыйны аддзел музея пад кіраўніцтвам рэстаўратара алейнага і тэмпернага жывапісу Мікалая Ведзянеева.

**1990**
Выстава «Мастацтва Рэнесансу ў Беларусі». Да 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны. Са збору ДММ БССР, музеяў рэспублікі і ДБ БССР.
«На галерэі — 90». Выстава твораў маладых беларускіх мастакоў.
Выхад у свет альбома-каталога Ірыны Паньшынай і Алены Рэсінай «Іван Хруцкі».

**1991**
Выстава «Чалавечае вымярэнне. Генры Мур. Гравюры і літаграфіі 1949–1984 гг.». Фонд Генры Мура. Брытанскі Савет. Лондан, Вялікабрытанія.

**1992**
У жніўні 1992 года Указам Старшыні Вярхоўнага Савета РБ быў перададзены на баланс музея будынак па вуліцы Кірава, 25.
Выстава твораў Івана Айвазоўскага, Івана Шышкіна, Архіпа Куінджы. З нагоды юбілейных дат. Са збору ДММ РБ.
Адкрыццё першых 6 экспазіцый у Мірскім замку.

Першая экспазіцыя старабеларускага мастацтва. 1980.



Андрэй Бембель. Герой Савецкага Саюза Мікалай Гастэла. Метал, ліццё. 1981.



Міхаіл Савіцкі. Партызанская Мадонна Мінская. Алей. 1978.



**1993**
30 лістапада 1993 г. Дзяржаўны мастацкі музей РБ перайменаваны ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь (Пастанова СМ РБ №810).
Выстава «Гістарычныя асобы XVIII–XX стст.». Выстава васковых фігур. Санкт-Пецярбургскі гістарычны музей васковых фігур (маскоўскі філіял). Расія.
Выстава «Брытанская скульптура за 40 гадоў». Брытанскі Савет. Лондан, Вялікабрытанія.

**1994**
Выстава твораў Эрнста Барлаха (1870–1938). Літаграфіі, гравюры на дрэве. Інстытут замежных сувязей Штутгарта пры пасрэдніцтве Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў Мінску.
Навуковая канферэнцыя да 100-годдзя з дня нараджэння Хаіма Суціна. З удзелам супрацоўнікаў АМ РБ, ІМЭФ АН РБ.
Створаны навуковы архіў музея.
Выдадзены першы выпуск «Сообщения Государственного художественного музея БССР» (усяго ўбачыла свет 8 выпускаў).

**1995**
Выстава «Мастацтва Беларусі XVI–XIX стст. Знаходкі Альберта Іпеля». НММ РБ, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Беларускі фонд культуры.
Загад Міністэрства культуры №340 аб перадачы на баланс НММ РБ майстэрні народнага мастака Беларусі Заіра Азгура.
Выхад у свет каталога «Рускі дарэвалюцыйны і савецкі жывапіс» пад рэдакцыяй Алены Рэсінай.

**1996**
Выстава «Мастацтва Беларусі XVI–XVIII стст. Знаходкі М. Шчакаціхіна». Да 100-годдзя з дня нараджэння гісторыка мастацтва Міколы Шчакаціхіна.

**1997**
Першая на Беларусі выстава твораў Марка Шагала «Творы міжземнаморскага перыяду. 1949–1985». Уласнасць сям'і і са збору Нацыянальнага музея Марка Шагала «Біблейскае пасланне» ў Ніцы.
Выстава «Мастацтва Беларусі XII–XVIII стст. Знаходкі Алены Аладавай». Да 90-годдзя з дня нараджэння. Са збору НММ РБ.

**1998**
Выстава «Францыска Гоя. Капрычас». Серыя афортаў. Культурны цэнтр Sa Nostra, Пальма-дэ-Маёрка, Іспанія.
Выстава «Шлях да Міцкевіча». Да 200-годдзя з дня нараджэння паэта. Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў.
Выхад у свет каталога Надзеі Высоцкай «Скульптура і разьба Беларусі XII–XVIII стст.».
Дырэктарам музея прызначаны Уладзімір Пракапцоў, кандыдат мастацтвазнаўства.

**1999**
Выстава «Мясцовашанаваныя на Беларусі абразы Багародзіцы XIII–XVIII стст.». Са збору НММ РБ.

**2000**
Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі музею быў перададзены будынак па вул. Леніна, 22.
Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №1904 аб перадачы ў камунальную ўласнасць філіяла музея «Лошыцкая сядзіба XVI–XX стст.».
Урачыстае святкаванне 200-й гадавіны з дня нараджэння Валенція Ваньковіча.
Адкрыццё філіяла НММ РБ «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.».
Выстава «Марк Шагал. Прысвячэнне Парыжу». Уласнасць сям'і.
Пачалася работа па складанні электроннага каталога музейнага збору па праграме комплекснай аўтаматызацыі музеяў.

**2001**
Падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве з Кампаніяй British American Tobacco Trading Company.
Выстава «Украінская ікона трох стагоддзяў з фондаў Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага запаведніка і Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Украіны».

**Выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Невядомы майстар. Партрэт Льва Сапегі. Алей. 1617(?).**



**Выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Фердынанд Рушчыц. Каля касцёла. Алей. 1899.**



**Выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Мікола Селяшчук. Дарога дадому. Алей. 1996.**



**Выстава «Mater Dei. Іканаграфія адной любві». Невядомы умбрыйскі мастак. Мадонна з дзіцем. Дрэва, тэмпера. XV ст.**



**2002**
Выстава «Натхненне эцюда». Да 130-годдзя з дня нараджэння Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Са збору НММ РБ.

**2003**
Выстава «Шэдэўры Траццякоўскай галерэі. Жывапіс XVIII — пачатку XX стагоддзя».
Выстава жывапісу народнага мастака Беларусі Івана Ахрэмчыка да 100-годдзя з дня нараджэння.

**2004**
Выстава твораў Аляксандра Шылава (Расійская Федэрацыя). Жывапіс.
З фондаў Галерэі Аляксандра Шылава. Масква.
Візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.
Выстаўка «Юдаль Пэн. Жывапіс». Да 150-годдзя з дня нараджэння. Са збору НММ РБ.
«Зямля і людзі». Жывапіс і графіка Марціроса Сар'яна. Са збораў Дома-музея Сар'яна ў Ерэване. Арменія.
Выстава «Беларусь. Грань паміж небам і зямлёй. Абразы НММ РБ». Трыест (Італія).
Створаны першы ў краіне сайт музея.
Распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб пераводзе з рэспубліканскай у камунальную ўласнасць майстэрні народнага мастака Беларусі Заіра Азгура.
Выйшаў у свет першы том альбома «Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва XV — пачатку XX стагоддзя».

**2005**
Выстава «Шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея ў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі».
Выстава «Мінск 3 ліпеня 1944 года». 1945–1955. Выстава адной карціны народнага мастака БССР Валянціна Волкава, эскізаў, жывапісных і графічных эцюдаў да яе, дакументаў, фотаздымкаў, скульптурных медалёў.
«Юбілей». Да 100-годдзя з дня нараджэння Андрэя Бембеля.
Першая міжнародная акцыя для моладзі і маладых сем'яў «Ноч музеяў» пад дэвізам «Святло ўначы».

**2006**
Адкрыццё ў снежні новага корпуса (архітэктар В. Бялянкін) — прыбудовы да галоўнага гістарычнага будынка Міхаіла Бакланава.
Візіт кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі.
Выставачныя плошчы музея павялічыліся ў чатыры разы.
Выстава «Чорная быль. Міхаіл Савіцкі». Да 20-годдзя Чарнобыльскай катастрофы.
Зачынены філіял — Раённая карцінная галерэя ў в. Гурыны Мазырскага раёна Гомельскай вобласці.
Выйшаў у свет другі том альбома «Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мастацтва XV — пачатку XX стагоддзя».
Выдадзены каталог меднага ліцця Алены Карпенка «Образ литой, старинный…».

**2007**
Урачыстае ўручэнне спецыяльнай прэміі Прэзідэнта РБ Аляксандра Лукашэнкі калектыву з шасці супрацоўнікаў за музеефікацыю новага корпуса (прыбудовы) НММ РБ.
Выстава «Палоннікі прыгажосці».
Жывапіс са збораў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і НММ РБ.
Святкаванне 100-гадовага юбілею легендарнага дырэктара Алены Аладавай: вечар памяці , прэзентацыя кнігі «Елена Аладова. Музей — ее судьба».

**2008**
Выстава «Слуцкія паясы». Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква, Расія) і НММ РБ.
Выстава «Ніко Пірасмані. Жывапіс». Са збору Нацыянальнага музея Грузіі.
Выстава «Праваслаўная ікона Расіі, Украіны і Беларусі». З найбуйнейшых музейных збораў трох краін — Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.
Выдадзены каталог «Скульптура краін Заходняй і Усходняй Еўропы ў зборы НММ РБ» (складальнік Святлана Пракоп'ева).

**2009**
Выстава жывапісных твораў Аляксея Лявонава, лётчыка-касманаўта СССР, першага чалавека, які крочыў у адкрыты космас.

**2010**
Урачыстае адкрыццё 39 экспазіцый філіяла музея Замкавага комплексу «Мір» з удзелам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.
Згодна з Пратаколам даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі №32 ад 2 лістапада 2010 года з балансу Міністэрства адукацыі на баланс музея перададзены 4-павярховы будынак былога студэнцкага інтэрната БДУ па вуліцы Карла Маркса, 24.
Выйшаў у свет альбом-каталог Тацяны Рэзнік і Аляксея Харака «Творы Івана Хруцкага ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь».

**2011**
Выстава «Зямля пад белымі крыламі». Візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.
Выстава «Жывапіс Івана Хруцкага». Да 200-годдзя з дня нараджэння. З фондаў НММ РБ.
Выстава «Жывапіс у Нармандыі». Нармандыя, Францыя.
Пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь аб стварэнні самастойнай установы «Замкавы комплекс "Мір"».
Передача на баланс музея будынка былога інтэрната БДУ па вуліцы Карла Маркса, 24.
Пачатак вялікага выдавецкага асветніцкага праекта альбомаў «Славутыя мастакі з Беларусі» (на беларускай, рускай і англійскай мовах) сумесна з выдавецтвам «Беларусь».

Выстава «Час і творчасць Льва Бакста». Эскіз касцюма Жар-птушкі. Папера, аловак, акварэль, гуаш. 1922. З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка.



Выстава «Васіль Сумараў. Настаўнік і вучні». Васіль Сумараў. Мой дом. Алей. 1972.



Выстава «Іканапіс Беларусі XVII—XXI стст.» з калекцыі НММ у Музеі Ватыкана.



Выстава «Сусвет Язэпа Драздовіча». Язэп Драздовіч. Францыск Скарына. Са свету з навукай. Алей. 1944.



**2012**
Выстава «Каралеўскія скарбы: Еўрапейскія шэдэўры 1600—1800». З калекцыі Музея Вікторыі і Альберта (Лондан).
Выхад у свет каталога Галіны Кірэевай і Наталлі Трыфанавай «Книги кирилловского шрифта XVII — начала XX в. в собрании Национального художественного музея Республики Беларусь».

**2013**
Выстава твораў Язэпа Драздовіча, прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння (з фонду НММ РБ).
Выстава «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага» са збору Львоўскага гістарычнага музея, Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў, Валынскага краязнаўчага музея (Луцк), Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

**2014**
Выстава «Настаўнік і вучні. Павел Васільевіч Масленікаў», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння мастака.
Выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Са збораў Белгазпрамбанка, беларускіх музеяў і прыватных калекцый. Дар ад Белгазпрамбанка дзвюх падпісных літаграфій Марка Шагала.

**2015**
Выстава «Mater Dei. Іканаграфія аднаго кахання». Жывапіс і графіка майстроў эпохі Рэнесансу і мастакоў XV—XIX стагоддзяў. Са збораў Перуджы і НММ РБ.
Выстава «Хрысціянства і хрысціяне ў творчасці рускіх і беларускіх мастакоў сярэдзіны XIX — пачатку XX стагоддзя».
Выстава іканапісу, жывапісу і скульптуры, прымеркаваная да 80-годдзя з дня нараджэння Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі (з фондаў НММ РБ).

**2016**
Выстава «Гоя... Пікаса». Гравюры на метале Гоі і афорты Пікаса з калекцыі Музея каралеўскай акадэміі прыгожых мастацтваў Сан-Фернанда (Мадрыд, Іспанія).
Выстава «Час і творчасць Льва Бакста». Да 150-годдзя з дня нараджэння Льва Бакста. Са збораў НММ Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага музея тэатральнага і музычнага мастацтва, Латвійскага Нацыянальнага мастацкага музея, Літоўскага мастацкага музея, Нацыянальнага музея ў Кракаве, Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, прыватных збораў і галерэй Беларусі, Літвы, Расіі.
Выстава «Свет нябесны на зямлі». Творы царкоўнага мастацтва XVII—XXI стст. Міжнародны праект (у складзе выставы — частка абразоў, паказаных у Музеі Ватыкана).

**2017**
Выстава «Радзівілы: лёсы краіны і роду». Жывапіс, графіка, мініяцюра, медалі, мастацкія тканіны. (Марчэла Бачарэлі, Францішак Ксаверый Лампі, Дамінік Кусто). З калекцый Мацея Радзівіла, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.
Выстава «Даторы. Шагал. Суцін. Хадасевіч-Лежэ. Энергія, экспрэсія, сімволіка і сны. Погляд на мастацтва Італіі і Беларусі пач. XX ст.».
Выстава «Эрнст Барлах — Кётэ Кольвіц. Пераадольваючы існаванне». Міжнародны мастацкі праект-дыялог. З калекцыі Інстытута міжнародных адносін Штутгарта, музеяў Эрнста Барлаха ў Ратцэбургу і Ведэлі і прыватных збораў Германіі.

**2018**
Рэтраспектыўная выстава твораў Ізраіля Басава «Прамудрасць збудавала сабе дом...», прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння.
Выстава «Сусвет Язэпа Драздовіча» з фондаў музеяў Беларусі.
Адкрыццё пасля пяцігадовага капітальнага рамонту філіяла «Музей Вітольда Бялыніцкага-Бірулі» ў Магілеве.

**2019**
Завяршэнне будаўнічых работ двух будынкаў музейнага комплексу па вуліцах Кірава, 25, і Карла Маркса, 24.
Выстава скульптур, графікі і прыкладнога мастацтва Сальвадора Далі (Італьянскі фонд «Сусвет Сальвадора Далі»).
Выдадзены альбом Вітольда Бялыніцкага-Бірулі «Вновь зацвела весна» (складальнік Уладзімір Пракапцоў).
Міжнародная выстава твораў Надзі Хадасевіч-Лежэ «Надзя».
Выстава да II Еўрапейскіх гульняў «Гульні. Игры. Games».

*Падрыхтавалі*
*Наталля Радзівонава,*
*Надзея Усава,*
*Таццяна Хоміч.*

# Зубры, Далі і немцы

САМЫ КАШТОЎНЫ ТВОР? ПЕРШЫ НАБЫТЫ ЭКСПАНАТ? САМАЯ ПАПУЛЯРНАЯ ВЫСТАВА?
МЫ САБРАЛІ ЎСЁ НЕЗВЫЧАЙНАЕ, ШТО ВЫ ХАЦЕЛІ ВЕДАЦЬ ПРА МУЗЕЙ, АЛЕ НЕ НАВАЖВАЛІСЯ СПЫТАЦЦА



## 1 Скульптурны «Зубр» Мікалая Міхалапа — першага дырэктара музея

Першым дырэктарам музея быў кераміст Мікалай Пракопавіч Міхалап. Мала каму вядома, што, акрамя фарміравання калекцый Дзяржаўнай карціннай галерэі, ён — пад уражаннем ад паездак у Белавежскую пушчу і знаёмства з творам Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» — выканаў сімвал Беларусі: скульптурную выяву «Зубр» (1915). Пасля вайны гэты вобраз стаў эмблемай МАЗа.



## 2 Гасцініца для немцаў і рэйхсканцлер Гімлер у Карціннай галерэі

Карцінная галерэя была адкрытая ў будынку былой гімназіі па вуліцы Карла Маркса. Адразу ж пасля акупацыі Мінска спачатку другі паверх, а потым і ўвесь дом занялі пад пастой нямецкія афіцэры. Побач з будынкам былой партшколы размясціўся абвер. Ужо праз два тыдні былі зняты невялікія карціны чамаданнага фармату і выразаны з рам палотны. Усё, што можна было пагрузіць у вялікія ваенныя машыны, — скульптуру, творы народных майстроў, — вывезлі ў жніўні 1941 года афіцэры вермахта. Творы з гіпсу выкінулі з вокнаў, карціны знішчылі...

Як ні жахліва, але адзіныя здымкі інтэр'ераў Карціннай галерэі сталі вядомыя па фатаграфіях Вальтэра Фрэнца, асабістага фатографа Гітлера. Ён адлюстраваў Гімлера на фотаплёнцы падчас уваходу ў галерэю побач з гіпсавай фігурай Леніна работы Аляксандра Грубэ і карцінай Валянціна Волкава «Сярго Арджанікідзэ на гістарычным пасяджэнні кампартыі ў 1919 годзе».



## 3 Мастак Марк Кліонскі і яго карціны

На цяперашнім месцы музея да вайны знаходзіўся жылы дом, у якім прайшло дзяцінства вядомага ў ЗША мастака Марка Кліонскага (1927–2017). Ён не мог і ўявіць, што якраз на месцы спаленага гітлераўцамі бацькоўскага і іншых суседніх дамоў вырасце будынак мастацкага музея і ў ім будуць захоўвацца дзве яго карціны 1950-х. Прычым аўтар у 2015 годзе звярнуўся па пацвярджэнне аб іх месцазнаходжанні: пасля эміграцыі ў ЗША ён не верыў, што яго раннія творы не былі выключаны з калекцыі музея. Кліонскі заваяваў вядомасць як майстар партрэтнага жывапісу. Яго працы ўключаюць партрэты такіх лідараў у свеце палітыкі, як Голда Меір, Вернан Джордан і Элі Візель; музыкантаў Мсціслава Растраповіча, Дзізі Гілеспі і Бі Бі Кінга; бізнэс-лідараў Арманда Хамера, Малькольма Форбса — малодшага, Дуэйна Андрэаса і многіх іншых. Партрэты пэндзля Марка Кліонскага знаходзяцца ў пастаянных калекцыях Нацыянальнай партрэтнай галерэі ў Вашынгтоне, Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу і Музеі сучаснага мастацтва ў Лазане, Швейцарыя.



## 4 Планы на Гомель

Яшчэ ў часы вайны, пасля вызвалення Гомеля ў канцы лістапада 1943 года, у сакавіку 1944 года выйшла пастанова беларускага ўрада ў Маскве аб стварэнні Дзяржаўнай карціннай галерэі з часовай базай у Гомелі. Але рэальна пераехаць з Масквы ў Гомель супрацоўнікі галерэі не паспелі: праз 4 месяцы быў вызвалены Мінск.



## 5 Архітэктурныя інспірацыі

Малады архітэктар Міхаіл Бакланаў, якому быў даручаны праект музея, ствараў фасад пад уражаннем рымскіх храмаў, а вестыбюль — натхніўшыся парадным вестыбюлем Адміралцейства, працай рускага дойліда XIX стагоддзя Андрыяна Захарава. Ён стварыў капітэль, дадаўшы да яе пяціканцовую зорку. Наш будынак — першы прыклад музейнага будаўніцтва ў СССР. Да гэтага музеі займалі дваранскія асабнякі і палацы. Фасад будынка дэкарыраваны з выкарыстаннем тэхналогіі гэтак званай каляровай (шэрай) тэразітавай тынкоўкі, якая імітавала магутныя блокі з пясчаніку і магла абараніць ад пераменаў надвор'я.



## 6 Супрэматычная брошка Надзі Лежэ

Старыя супрацоўнікі музея расказваюць, што беларуска Надзя Лежэ, удава знакамітага французскага мастака Фернана Лежэ, міліянерка, падарыла мінскаму музею мноства каштоўных экспанатаў, злепкі, свае супрэматычныя шаўкаграфіі і літаграфіі мужа. Неяк падчас яе прыезду ў Мінск дырэктарка музея Аладава паскардзілася ёй, што не хапае сродкаў на закупку і рамонт будынка. Лежэ зняла з сябе плацінавую супрэматычную брошку свайго дызайну і працягнула яе Аладавай са словамі: «Тут на ўсё хопіць!» Аладава спалохалася і не ўзяла брошку — найкаштоўнейшы цяпер на сусветным антыкварным рынку мастацкі прадмет... Потым часта ўспамінала гэты выпадак.

## 7 Музей — кузня навуковай інтэлігенцыі

З 1957 да 2019 год музейнымі супрацоўнікамі былі 16 кандыдатаў і 2 дактары навук.



## 8 Віталь Чарнабрысаў: ад вахцёра да экспанента

Мастак-нонканфарміст мінскага андэграўнду Віталь Чарнабрысаў уладкаваўся на працу ў музей пажарным у 1972 годзе. 14 гадоў ён выконваў і абавязкі начнога вахцёра, затым дворніка, аж да 1986 года. А ў дзённы час пісаў карціны, якія куплялі ленінградскія калекцыянеры і музеі. Калі мастаку споўнілася 75 гадоў, яго прызналі і ў Мінску. Цяпер яго творы знаходзяцца ў калекцыі музея: 6 скульптур і некалькі жывапісных работ.



## 9 Рэкорды даўгалецця

47 гадоў працавала наглядчыцай музея (да 2010 года) Марыя Чарняўская, у 2018 годзе ёй споўнілася 96 гадоў.

Самай старой наглядчыцай музея была Антаніна Кубанцава 1919 г. нараджэння, якая працавала да 86 гадоў. Мастацтвазнаўца Алена Рэсіна прапрацавала ў музеі роўна 50 гадоў.



## 10 Сталяр — заслужаны работнік культуры

Кіраўнік сталярнай майстэрні Вячаслаў Зелянко прапрацаваў у музеі больш за 40 гадоў, апрануў у рамы мноства карцін рускага і заходняга жывапісу. Спакойны, надзейны і добры, ён быў сапраўдным майстрам на ўсе рукі. Аладава дабілася, каб яму прысвоілі званне заслужанага работніка культуры. Гэта ўнікальны выпадак, калі рабочы атрымаў такое званне.



## 11 Шкодная праца

Праца мастацтвазнаўцы звязана з рызыкай не толькі для здароўя, але і для жыцця. У 1981 годзе Алена Аладава расказала ў тэлеперадачы, як у 1950-я яны з галоўным захавальнікам Пятром Герасімовічам прыехалі ў манастыр брыгітак у Гродне, каб яшчэ раз праверыць наяўнасць твораў. Заставалася агледзець толькі сутарэнне, заваленае шматгадовым пластом смуроднага смецця. Туды баяліся заходзіць, таму што кагосьці ўкусіў шалёны пацук. Смецце Аладава і Герасімовіч прыбралі, і адкрыўся ўваход з прыступкамі ў склеп — цёмны і сыры. Аладава, маці траіх дзяцей, бясстрашна з ліхтарыкам спусцілася ў сырую цемру і ўбачыла дошкі, на якіх віселі ў абрыўках палотны. Яны ўдваіх асцярожна вынеслі тры творы. Гэта былі фундатарскія партрэты Весялоўскіх. Пасля філіграннай рэстаўрацыі ў Эрмітажы яны занялі ганаровае месца ў нашай экспазіцыі.



## 12 Музей і яго супрацоўнікі ў мастацтве

Музей — родны дом для мастакоў, а супрацоўнікі музея часта станавіліся мадэлямі для карцін беларускіх жывапісцаў. Асабліва любіў адлюстроўваць музей Ігар Рымашэўскі: фрагмент яго карціны з відам музея і нават выявай яго дырэктара змешчаны на турыстычным аўтобусе ды прыцягвае ўвагу сваёй незвычайнасцю. У пачатку 2000-х сталі вельмі моднымі вясельныя фотасесіі ў музеі на фоне карцін: у суботу НММ прымаў больш за 20 пар! Гэты характэрны сюжэт таксама трапіў на палатно Ігара Рымашэўскага. Многія мастакі выбіралі сваімі мадэлямі музейшчыкаў. Іван Ахрэмчык у 1960 годзе напісаў партрэт мастацтвазнаўцы Ірыны Назімавай, віцебская мастачка Таццяна Берагейка — партрэт вучонай сакратаркі Таццяны Дашкоўскай, Віктар Варламаў — галоўнага захавальніка ў 1970-я Аляксандра Сакалова, Міхаіл Савіцкі і Леанід Шчамялёў — Алены Аладавай, Уладзімір Альшэўскі — Юрыя Карачуна, а самавук Сяргей Каваль — партрэты дырэктара музея Уладзіміра Пракапцова, музейнай наглядчыцы Святланы Лойка і мастацтвазнаўцы Кацярыны Ізафатавай. Партрэт музейнага наглядчыка — унікальны для беларускага жывапісу. Акрамя таго, многія супрацоўнікі музея маюць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную мастацкую адукацыю: гэта генеральны дырэктар Уладзімір Пракапцоў, афарміцель Яўген Мішчанка, графікі Кацярына Дасько і Святлана Ржэвуская, навуковыя супрацоўнікі Юрый Піскун, Ірына Казлова, Святлана Пракоп'ева.



## 13 Дарунак для галерэі

Што падарыць дырэктару мастацкага музея ў дзень нараджэння? Вядома, карціны! За 21 год дырэктарства ў кватэры Уладзіміра Пракапцова спантанна ўтварыўся цэлы міні-музей. Жонка, мастацтвазнаўца Вера Паўлаўна, пастаянна нагадвала: карціны няма дзе захоўваць! Уладзімір Іванавіч знайшоў выйсце: перадаў усе палотны вядомых беларускіх мастакоў на сваю малую радзіму, у горад Добруш Гомельскай вобласці. Цяпер там дзейнічае Карцінная галерэя Уладзіміра Пракапцова. Горад нечакана і цалкам бясплатна атрымаў галерэю ў 50 палотнаў. Усе задаволеныя, у тым ліку і мастакі, бо іх работы цяпер выстаўлены для ўсеагульнага агляду.



## 14 Музей у кветках

Каля музея з 1950-х любілі высаджваць клумбы з цюльпанамі, цяністыя вербы і ліпы, а ў 2003 годзе на асфальце былі выкладзены нават кветкавыя дываны. Экалогія горада паступова звяла на нішто азеляненне гэтага ўчастка вуліцы. У 2004 годзе ў гонар 100-годдзя Алены Аладавай была пасаджана дугласія. Пасля рэканструкцыі музея гэтаму дрэўцу знойдуць годнае месца.



## 15 Танкава-камп'ютарная гісторыя

Музей супрацоўнічае з рознымі буйнымі арганізацыямі, напрыклад з камп'ютарнай фірмай Wargaming. Сусветна прызнаная камп'ютарная гульня «Танкі» — гэта іх брэнд. На 70-годдзе Перамогі Нацыянальны мастацкі музей прадаставіў фірме каля 80 твораў беларускіх мастакоў

з выявай танкаў і танкавых бітваў для віртуальнай выставы. Мы верым, што і нашы карціны — бясцэнны мастацкі і дакументальны матэрыял — дапамаглі распрацоўшчыкам гэтай гульні ў перадачы праўдзівых дэталяў Другой сусветнай вайны. Кіраўнікі фірмы не засталіся ў даўгу: яны падарылі музею 10 новых камп'ютараў.



**16 Прывабная прапанова «Уорнер Бразэрс»**

У 2004 годзе, калі стаў працаваць сайт музея, паступіла нечаканая прапанова ад кінакампаніі «Уорнер Бразэрс» аб рэкламе фільма «Аляксандр Македонскі». Яны прасілі дазвол на выкарыстанне для рэкламы фільма карціну Семірадскага з музейнай калекцыі «Давер Аляксандра Македонскага да ўрача Філіпа». Гэтая прапанова паставіла ўсіх у тупік. Сабралі бухгалтэрыю на нараду — меркавалі і пастанавілі: запрасіць ад фірмы па афіцыйных дагаворных расцэнках 70 долараў! Менеджараў тады не было і ў паміне. Фільм сабраў мільёны долараў прыбытку... Цяпер нам самім смешна ўспамінаць пра сваю наіўнасць.



**17 Самыя шматлюдныя выставы**

Найбольш наведвальнымі ў гісторыі нашага музея сталі выставы Мікалая Рэрыха да яго 100-годдзя і Дрэздэнскай галерэі ў 1975-м. У гэты год музей выканаў рэкордны план — 222 тысячы чалавек. Хоць тады ў музеі было ўсяго 10 залаў!




**18 Музейная нумізматыка**

Музей трапіў у гісторыю нумізматыкі. Успомнім знакамітую беларускую папяровую купюру ў мільён рублёў пачатку 2000-х, з'едзеную дэнамінацыяй 1 ліпеня 2016 года. Яе знікненне было адзначана вырабам спецыяльнага сувеніра — кубка з надпісам «Бывай, рубель!». Мала ў каго ён захаваўся. А ў нашым музейным архіве ён ёсць, бо на ім адлюстраваны будынак музея. Музей з'яўляецца пастаянным генератарам ідэй для беларускага манетнага двара. Па просьбе музея ўжо адчаканены 6 памятных манет.



**19 Мірскі замак — сімвал Беларусі**

У 1987 годзе на баланс Мастацкага музея трапілі архітэктурныя помнікі ў гарадскім пасёлку Мір Гродзенскай вобласці, самым значным з якіх быў замак XVI стагоддзя, што ляжаў у руінах. Гэты патрыятычны жэст Юрыя Карачуна, які ўзяў на сябе адказнасць за лёс гістарычнага помніка, многія лічылі рамантызмам. Мала хто верыў у рэальнасць адраджэння замка. «Каб яго адрэстаўраваць, спатрэбіцца не менш за 100 гадоў», — пісалі журналісты ў 1990-я. Тым не менш ужо ў 1992 годзе былі адкрыты першыя экспазіцыі ў Паўднёва-заходняй вежы, а ў 2010-м Мірскі замак з 39 экспазіцыямі прыняў наведвальнікаў, паток якіх расце з года ў год. Над рэстаўрацыяй замка працавалі, акрамя музейных работнікаў (якім прыйшлося стаць і гісторыкамі), больш за 80 арганізацый, на яго музеефікацыю пайшло 2 мільёны долараў з бюджэту краіны, якія акупіліся ўжо праз 5 гадоў працы замка як турыстычнага аб'екта. Адроджаны замак адразу стаў сімвалам Беларусі.



**20 Самы дарагі водгук**

Кніга ганаровых наведвальнікаў змяшчае мноства водгукаў: у ёй можна знайсці каментарыі і П'ера Кардэна, і іншых вядомых асоб, напрыклад вынаходніка лазернага променя Жарэса Алфёрава, нобелеўскага лаўрэата па фізіцы. Самым дарагім аўтографам ад амерыканскага мастака рускага паходжання Міхаіла Шамякіна стаў яго водгук-малюнак, які ён за 38 секунд намаляваў у Кнізе водгукаў. Ён ацэньваецца экспертамі ў 5000 долараў. Нядаўна гэтая старонка была вынятая з Кнігі водгукаў, акантаваная і размешчаная ў фондзе рускай графікі.



**21 Магія лічбаў**

Музейшчыкі, як і аўтааматары, схільныя да магіі нумералогіі. Тым больш што журналісты заўсёды пытаюцца: які першы твор паступіў у музей? КП № 1 — карціна Малявіна, яна была перададзена ў іншы музей, і гэта расчароўвае... Затое 30-тысячным экспанатам сталі беларускія саламяныя вароты — копія XVIII стагоддзя працы майстрыхі саломапляцення Ларысы Лось — знакавы экспанат для беларускага мастацтва.



**22 «Эратычная» карціна**

Калі ў 1970—1980-я маладыя супрацоўнікі прыходзілі ў музей, ім часам паказвалі «эратычную» карціну Фірса Жураўлёва «Дзявочнік у лазні», утоеную ад вачэй у рэстаўрацыйнай майстэрні. Цяпер немагчыма зразумець, чаму яе трымалі пад забаронай: з-за цноты і сарамлівасці савецкіх 1970-х?

**23 Чатыры дырэктары**

За ўсе 80 гадоў у музеі было ўсяго 4 дырэктары, прычым першы, Мікалай Міхалап, дырэктарстваваў усяго 2 гады і 4 месяцы. 33 гады музеем кіравала Алена Аладава, больш за 20 гадоў — Юрый Карачун і Уладзімір Пракапцоў. Кожны дырэктар ідэальна ўпісваўся ў свой час, умеў працаваць у прапанаваных абставінах, годна выконваючы сваю місію.



**24 Самыя папулярныя ў Еўропе**

Самымі вывазнымі экспанатамі ў Мастацкім музеі з'яўляюцца беларускія абразы XVI—XVIII стагоддзяў. Яны ўжо пабывалі ў Венгрыі і Італіі. У Ватыкане за пяць месяцаў экспанавання выставу наведала больш за 2 мільёны чалавек. Гэта абсалютны рэкорд наведвальнасці ў 80-гадовай гісторыі нашага музея.



**25 Самы маленькі і самы вялікі экспанат**

Самым маленькім экспанатам стала археалагічная скульптурка з косці «Барабаншчык» вышынёй крыху больш за сантыметр. А самым вялікім — «Габелен стагоддзя» Аляксандра Кішчанкі. Ён жа стаў і самым дарагім экспанатам музейнага фонду Рэспублікі Беларусь (2 мільёны долараў). Праўда, музею належыць толькі верхняя трэць унікальнага твора: астатнія дзве — яго спадчыннікам і спонсарам.

**26 У дар музею**

Аднымі з крыніц папаўнення фондаў з'яўляюцца дары і перадачы ад органаў мытні. За апошнія 20 гадоў такіх твораў паступіла ў дар амаль 5 тысяч, а канкрэтна — 4972. Гэта адна шостая частка ўсёй калекцыі музея.



**27 Экспанат, выкапаны з зямлі**

Унікальнасць гэтага экспаната — алебастравай статуі «Амур і Псіхея» па арыгінале італьянскага скульптара Антоніа Кановы — у тым, што ён літаральна выкапаны з зямлі ў агародзе былога сядзібнага дома Эдгарда Ваньковіча па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 33. Жыхар дома выпадкова наткнуўся на закапаную ў садзе скрыню, якую, відавочна, былыя ўладальнікі пакінулі ў 1919 годзе, калі з'язджалі з Мінска пры наступленні Чырвонай арміі. Скульптура паступіла ў музей, і разам з кнігай з бібліятэкі Эдварда Ваньковіча з'яўляецца аўтэнтычным экспанатам, што калісьці прыналежаў гэтай сядзібе.



**28 Самы малады мастак у экспазіцыі музея**

З якога ўзросту творцы маюць шанец патрапіць у музей? Доўгі час у Мастацкім выстаўлялася карціна 20-гадовага Апалінарыя Гараўскага «Пейзаж з ракой і дарогай», напісаная на трэцім курсе Імператарскай Акадэміі мастацтваў. Ёсць у музеі і дыпломнае палатно Генрыха Семірадскага «Давер Аляксандра Македонскага да ўрача Філіпа». У XX стагоддзі такіх прыкладаў навучальных работ у экспазіцыі музея ўжо няма.



**29 Самая вядомая карціна**

Самая вядомая карціна ў музеі, яго візітная картка — партрэт Марка Шагала пэндзля Юдаля Пэна 1910-х. Яе найбольш часта просяць для рэпрадуктавання ў розныя альбомы і навуковыя выданні ўсяго свету.



**30 Музейная філатэлія**

Каля 60 экспанатаў з нашай калекцыі надрукаваны на марках Рэспублікі Беларусь, такім чынам папулярызуецца музейны збор Беларусі.



**31 Філіялы**

Мала хто памятае, што ў музеі ў XX стагоддзі было 8 філіялаў — архітэктурны манастырскі комплекс у Гальшанах, сядзібны дом у Лошыцы, Карцінная галерэя ў Гурынах Гомельскай вобласці, Музей народнага мастацтва ў Раўбічах, замкавы комплекс у Міры, Музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, музей Ваньковічаў у Мінску, Музей Заіра Азгура ў Мінску.



**32 Сацрэалізм і сюррэалізм**

У 1967-м, калі адкрылі музей, ніхто не мог сабе нават у страшным сне ўявіць, што праз 60 гадоў перад будынкам музея будзе стаяць велізарны «Трыумфальны слон» Сальвадора Далі — жупела савецкай прапаганды. Лішні раз пераконваешся ў слушнасці выразу «ніколі не кажы ніколі». Звярнуліся з заклікам сабраць па 1 еўра, каб выкупіць «Слана» Далі для горада (за яго прасілі 1 млн 200 тысяч еўра), але не хапіла арганізацыйнага рэсурсу, каб падтрымаць гэтую ўнікальную акцыю: кожны мінчанін павінен быў здаць па адным еўра. Не ўсе любяць Далі.



**33 Мастацтва ў кішэні**

З 2012 года музей выпускае ўнікальную серыю кніг «Славутыя мастакі з Беларусі» (20-35 ілюстрацый), што ўжо налічвае 30 кніг пра беларускіх мастакоў XIX—XX стагоддзяў, якія нарадзіліся на Беларусі, — Хруцкага, Жукоўскага, Рушчыца, Орду, Бялыніцкага-Бірулю, Гараўскага, Жоўтак, Малішэўскага, Ахрэмчыка, Кожуха, Басава, Майсеенку і г.д. Серыя на трох мовах кішэннага фармату стала калекцыйнай, бо знаёміць з біяграфіяй і асноўнымі творамі мастакоў Беларусі са збору музея і інш.

Яна можа працягвацца бясконца, бо нам ёсць чым ганарыцца — у фондах музея захоўваецца больш за 30 тысяч экспанатаў.

*Падрыхтавала Надзея Усава.*

# Чырвоная галерэя

## МІКАЛАЙ МІХАЛАП І ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ У ДАВАЕННЫ ПЕРЫЯД (1939—1941)

**Надзея Усава**

ПЫТАННЕ АБ «САМАСТОЙНЫМ БЕЛАРУСКІМ МУЗЭІ ВЫЯЎЛЕНЧЫХ МАСТАЦТВАЎ, ХАЦЯ Б ПРЫ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГІСТАРЫЧНЫМ МУЗЭІ БССР» УЗДЫМАЛАСЯ БЕЛАРУСКІМІ СКУЛЬПТАРАМІ (АЗГУРАМ, АРЛОВЫМ, БРАЗЕРАМ, ГРУБЭ, КАРПЕНКАМ) УЖО Ў КАСТРЫЧНІКУ 1932 ГОДА, НЕЎЗАБАВЕ ПАСЛЯ ЗАКРЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА МУЗЕЯ (БДМ) У МІНСКУ І АРЫШТУ Ў 1930-М ЯГО ДРУГОГА ДЫРЭКТАРА – «НАЦДЭМА» ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА. У БДМ, ЯК ВЯДОМА, МЕЎСЯ ВЯЛІКІ МАСТАЦКІ АДДЗЕЛ, НА АСНОВЕ ЯКОГА МОЖНА БЫЛО СТВАРЫЦЬ ГАЛЕРЭЮ.

1.



2.

Тады пытанне пра асобную Карцінную галерэю не вырашылася: музей быў выселены са свайго будынка на Архірэйскім падвор'і ў чатыры пакоі Дома калгасніка і ў 1934-м атрымаў назву Дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея БССР. Але паколькі месца было мала, то ён не функцыянаваў як публічная ўстанова. Усебеларускія мастацкія выставы, што перыядычна адкрываліся з 1925 года, праходзілі ў непрыстасаваных памяшканнях то Камуністычнага ўніверсітэта, то Клуба працаўнікоў асветы, то Дома калгасніка ці Дома Чырвонай арміі. Маладая беларуская сталіца патрабавала асобнай мастацкай пляцоўкі: наступалі часы грандыёзных ідэалагічных юбілейных экспазіцый — напрыклад, да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі «Ленін і Сталін — арганізатары БССР». Упершыню гэтае пытанне разглядалася на Бюро ЦК КП(б)Б у чэрвені 1936-га. У 1937 годзе пры Інстытуце літаратуры, мастацтва і мовы АН БССР пачала працу спецыяльная група па арганізацыі Карціннай галерэі БССР.

24 студзеня 1939 года выйшла пастанова Саўнаркама БССР «Аб арганізацыі карціннай галерэі ў г. Мінску»: галерэя павінна была размясціцца ў пяці пакоях былога будынка Акадэміі навук БССР пасля пераезду Акадэміі ў новыя карпусы, узведзеныя Іосіфам Лангбардам. Увесь фонд карцін і скульптур, акрамя музейных экспанатаў з сістэмы Наркамасветы ды іншых наркаматаў, загадвалася перадаць Кіраўніцтву па справах мастацтваў пры СНК БССР. Ужо праз два тыдні паводле акта ад 8 лютага 1939 года ў Карцінную галерэю было перададзена больш за 400 твораў мастацтва з Дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея. Гэта работы, што мелі мастацкую вартасць, — нацюрморты, краявіды, партрэты негістарычных асоб, жанравыя кампазіцыі і працы сучасных мастакоў. У пастанове пра арганізацыю Дзяржаўнай карціннай галерэі прозвішча яе кіраўніка яшчэ не называецца. Мікалай Міхалап быў зацверджаны як дырэктар праз паўтара месяца пасля пастановы асобным распараджэннем СНК БССР ад 9 сакавіка 1939 года. Нягледзячы на тое, што ён не з'яўляўся «вытрыманым партыйцам», Міхалап,

спецыяліст мастацкай прамысловасці, прапанову прымае як загад: адмаўляцца ў тыя гады не было прынята. Акалічнасці менавіта гэтага прызначэння сёння невядомыя.

**Асоба ў фокусе**

Мікалай Міхалап адыграў выключную ролю ў стварэнні галерэі. Мінчук і інтэлігент у першым пакаленні, ва ўсіх шматлікіх анкетах ён пазначаў сябе беларусам. Маладосць яго прайшла пад уплывам ідэй беларускага адраджэння.

У 1905 годзе ён паступіў у прыватную пецярбургскую Цэнтральную вучэльню тэхнічнага малявання барона Шцігліца. Вучні займаліся па праграме Акадэміі мастацтваў, заняткі афортам вёў выдатны майстра гравюры Васілій Матэ.

Міхалап любіў згадваць маладосць і нялёгкія, але цікавыя гады жыцця ў Пецярбургу: беларускі гурток студэнцкай моладзі, які Мікалай наведваў разам з Янкам Купалам, удзел у афармленні першай пастаноўкі пецярбургскай «Паўлінкі». У гуртку ён зацікавіўся беларускім арнаментам на кафлі і слуцкіх паясах, адшукваў іх у старых выданнях збораў Імператарскай публічнай бібліятэкі.

Пасля доўгіх назіранняў за жывёламі ў Белавежскай пушчы ён зрабіў для дыплома фаянсавую статуэтку «Зубра» (1915). У той жа год упершыню прадстаўляе свае творы, восем керамічных вырабаў, на мінскай выставе 1915 года «Мастакі — воінам».

1925—1930-я прысвечаны працы ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, куды Міхалап быў запрошаны Міхаілам Керзіным, загадчыкам навучальнай часткі. Ён узначальвае керамічны аддзел, стварае керамічную майстэрню, выкладае тэхналогію керамікі і кампазіцыю да тых часоў, пакуль аддзел «за ненадобностью» не закрываюць. У жніўні 1930 года Міхалапу прапануюць новую працу ў сталіцы БССР — загадчыкам керамічнай лабараторыі ў аддзеле мінеральнай тэхналогіі Навукова-даследчага інстытута прамысловасці. Ён узначальвае групу па даследаванні вогнетрывалай і тонкай керамікі, вывучае пытанне вырабу безвінзовай глазуры для абліцовачных плітак.

У 1933 годзе Мікалая Міхалапа абіраюць дэлегатам на савецка-германскую канферэнцыю фарфорава-фаянсавай прамысловасці, у 1937-м ён член Навуковай рады Інстытута прамысловасці, дзе адказвае за вывучэнне фарфоравай масы з беларускай сыравіны на Дулеўскім заводзе, з'яўляецца адным з арганізатараў міжнароднай выставы ў Парыжы «Мастацтва і тэхніка ў сучасным жыцці» (1937), да якой рыхтаваў «спецыяльныя мастацкія экспанаты па кераміцы». На ўсіх гэтых пасадах Міхалап паказаў сябе выдатным арганізатарам.

**Новы будынак па вуліцы Карла Маркса**

Новаму дырэктару акрэслілі задачу — стварыць да 20-годдзя БССР галерэю з адпаведнымі савецкімі экспанатамі і экспазіцыяй, што лёгка б дэмантавалася пад маштабныя ідэалагічныя выставы, прызначаныя ў тым ліку і для паказу ў сталіцы СССР. Створаны ў 1938 годзе Саюз мастакоў БССР, хоць і меў сярод сваіх сяброў 100 асоб (40 мастакоў пражывала ў Мінску), не мог прафесійна выконваць такога кшталту задачы. У 1939-м пачалася падрыхтоўка да выставы «Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржаўнасці», прымеркаванай да 30-годдзя БССР. На пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б ад 16—17 жніўня 1939 года было вырашана арганізаваць выставу выяўленчага мастацтва да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў чэрвені 1940-га.

З першых дзён кіравання Мікалай Міхалап выявіў моцны арганізатарскі талент. Галерэю планавалася стварыць у былым малым будынку Інбелкульта. Але Міхалап дабіўся большага. Газета «Звязда» ад 15 чэрвеня 1939 года паведамляе, што для галерэі перададзена новае памяшканне — трохпавярховы дом былой Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы па вуліцы Карла Маркса. Будынак, што да рэвалюцыі быў жаночай гімназіяй, меў 15 вялікіх па плошчы і высокіх пакояў, у ім маглі размясціцца каля 400 экспанатаў.


3.

**Аддзел мастацкай прамысловасці**

У галерэі напачатку былі створаны тры аддзелы — старажытнага, народнага і сучаснага выяўленчага мастацтва. Дырэктар арганізуе экспедыцыі, падчас іх ідзе пошук прадметаў народнага мастацтва — посцілак, ручнікоў, народных ікон. А потым на сваю рызыку пашырае ўласныя паўнамоцтвы: дабіваецца асаблівай пастановы (у чэрвені 1939 года) аб стварэнні аддзела мастацкай прамысловасці, у які прапаноўвалася перадаваць усе керамічныя вырабы, шкло, творы з дрэва, тканіны і мэблю з ліку тых, што не экспанаваліся ў абласных музеях. Міхалап просіць перадаць з Дзяржаўнага Эрмітажа паўсотні работ дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у тым ліку мэблю з «Сіняй спальні» Аляксандра II у Зімнім палацы.

**Перадачы з музеяў СССР**

У ліпені пачаліся рамонт і прыстасаванне новага памяшкання для размяшчэння экспанатаў. У першай палове чэрвеня ў галерэю ўжо прывезлі каля 600 карцін (трэба адзначыць прафесійны выбар твораў), гравюр і скульптур, у тым ліку 50 гравюр заходніх майстроў XVII—XVIII стагоддзяў. Некалькі дзясяткаў карцін еўрапейскіх майстроў з уласных фондаў былі перададзены з маскоўскага Музея выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна. Вядомы савецкі мастак Барыс Іагансон ахвяраваў мінскай галерэі эскіз вялікай панарамы «Пераход праз Сіваш», масквіч Фёдар Мадораў — карціну «Канал гатовы». Спецыялісты з Траццякоўскай галерэі і «супрацоўнік-жывапісец» галерэі Адольф Гугель, выхаванец Віцебскай мастацкай вучэльні, пачалі рэстаўрацыю твораў, якія паступілі.

У жніўні 1939 года ў галерэю з музеяў Віцебска і Магілёва дадаткова былі перададзены дзве карціны Рэпіна, працы перасоўнікаў Якабі, Башылава, Лемаха, Катарбінскага, Клевера, Піманенкі і Архіпава, а таксама два краявіды італьянскай школы, «Забойства св. Стэфана» Сальватора Розы, тры мармуровыя статуі («Венера Медыцэйская», «Венера Галіцыцэйская» і «Меркурый і Аргос») і дзевяць карцін Януарыя Сухадольскага з Гомельскага гістарычнага музея. У 1939-м агульная колькасць твораў, што паступілі з Гомеля, дасягнула 55-ці.

Дзяржаўны рускі музей у Ленінградзе перадае 30 верасня 1939 года Карціннай галерэі 85 эстампаў рускіх мастакоў XIX—XX стагоддзяў з дуплетнага фонду. З арыгінальных дошак у Пецярбургу былі надрукаваны гравюры «Icones» Гірша Лейбовіча.

У 1939 годзе ў галерэю былі перададзеныя некалькі твораў з былога Музея пралетарскай культуры ў Віцебску і больш за 60 — з расфарміраванага ў 1930-м у Ленінградзе Музея яўрэйскага гісторыка-этнаграфічнага таварыства, у тым ліку матэрыялы этнаграфічных экспедыцый 1928 года і такія шэдэўры пачатку XX стагоддзя, як «Развод»

Юдэля Пэна, «Пахаванне ў мястэчку» Абрама Маневіча, фармальныя экспрэсіяністычныя акварэлі Ісахара Бера Рыбака і Льва Зевіна. Міхалап, які нейкі час працаваў у Віцебску, добра ведаў многіх тамтэйшых мастакоў. Шкада, што з добра выбранай калекцыі захаваліся лічаныя работы. Цяпер усе яны знаходзяцца ў экспазіцыях музеяў у Мінску і Віцебску.

**Адкрыццё Дзяржаўнай карціннай галерэі**

8 лістапада 1939 года адбылося ўрачыстае адкрыццё галерэі, прымеркаванае да 22-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і 30-годдзя БССР. Тыднёвік «Літаратура і мастацтва» падрабязна апісвае гэтую падзею і распавядае пра першых візітораў: «...прысутнічалі байцы і камандзіры мінскага гарнізона, стаханаўцы, пісьменнікі-ардэнаносцы Змітрок Бядуля і Міхась Лынькоў, скульптары заслужаныя дзеячы мастацтваў Керзін і Грубэ... У гэты дзень карцінную галерэю наведалі сакратары ЦК КП(б)Б т. Панамарэнка, Малін, Грэкава».

На час адкрыцця ў галерэі мелася больш за 1200 экспанатаў. Палову твораў у першыя гады складалі калекцыі старажытнага і прыкладнога мастацтва. Пра ўзровень экспазіцыі можна меркаваць з падрабязнага артыкула Мікалая Міхалапа ў «ЛіМе». Ён нібы ведаў, што гэтыя звесткі будуць каштоўнымі для нашчадкаў – гісторыкаў мастацтва. Напрыклад, у экспазіцыі рускага мастацтва XVIII–XIX стагоддзяў прысутнічалі: «Мужчынскі партрэт» Антропава, «Партрэт Загражскай» Рокатава, бюст фельдмаршала Румянцава-Задунайскага Шубіна, «Бітва пры Кангуце» Растрэлі, гравюры Зубава, Чэмесава, Ухтомскага, Сакалова. Дакладна вядомы і склад беларускіх залаў: «Майстар гадзіннікаў» Пэна, аўтапартрэт і краявід Альпяровіча, партрэты дачок Волкава, «Калгасны статак» Геды, «Апошні дзень Чапаева» Зайцава, «Уступленне Чырвонай арміі ў Мінск» Манасзона, «Паранены таварыш» Пашкевіча, «Парыж» і «Манмартр» Цукермана.


5.


6.

Праз два гады праца была наладжана, галерэя мела ўласны грузавік з кіроўцам і дастатковы штат супрацоўнікаў. Міхалап надаваў кадравым пытанням шмат увагі, у галерэі працавалі навуковыя супрацоўнікі з універсітэцкай адукацыяй: Аляксандра Васілеўская, Ганна Главацкая, Сендэр Палеес, Алена Аладава. Абавязкі намесніка дырэктара па захаванню экспанатаў выконваў Дзіперштэйн, захавальніцай фондаў была Зоя Канапацкая, мастаком-рэстаўратарам – Адольф Гугель.


7.

**Творы з Заходняй Беларусі**

Пасля 17 верасня 1939 года – далучэння да БССР Заходняй Беларусі і Беластока – Карцінная галерэя папоўнілася мастацкімі каштоўнасцямі з ліку нацыяналізаванай маёмасці шляхецкіх маёнткаў і замкаў Заходняй Беларусі. Гэта былі мэбля эпохі Людовіка XIV і майстэрні Жакоб, камінныя гадзіннікі, статуэткі са слановай косці (64 адзінкі), 480 прадметаў рускага фарфору. Збор заходнееўрапейскага мастацтва налічваў 800 адзінак, у тым ліку 210 – мейсенскага фарфоравага заводу, меліся збор кітайскага фарфору, каўказскія дываны і французскі габелен XVIII стагоддзя, 30 прадметаў урэцкага шкла, 200 посцілак беларускіх ткачых, паясы фабрык «Леа Маджарскі ў Слуцку», Пасхаліса ў Ліпкаве, Францыска Маслоўскага ў Кракаве. Асаблівую каштоўнасць уяўлялі мастацкія творы з Нясвіжскага замка. Сярод узятых на ўлік 264 карцін і партрэтаў спецыяльнай камісіяй адзначаны як высокамастацкія каля 40 фамільных партрэтаў XIV–XVIII стагоддзяў, 20 гуашаў і малюнкаў Фалата, 32 слуцкія паясы, мэбля, гадзіннікі і вазы. Са шляхецкіх сядзібаў паступілі таксама «Дажынкі» Рушчыца, карціны Эраста Сукоўскага, Зянона Ленскага, Генрыха Вейсенгофа.


4.


8.


9.

**Слуцкія паясы**

Міхалап пачаў змаганне за перадачу радзівілаўскіх мастацкіх багаццяў галерэі, а не ў маскоўскія музеі, бо стала вядома пра арганізацыю музейных экспедыцый з галоўных мастацкіх скарбніц СССР. Трэба было дзейнічаць хутка. У вопісе маёмасці замка ад 6 кастрычніка 1939 года ідзе гаворка пра 32 паясы з Рыцарскай залы, якія маюць высокую мастацкую якасць. Але лёс замка яшчэ не быў вядомы. 27 снежня 1939 было прынятае рашэнне пра арганізацыю ў замку музея, але ўжо 10 студзеня 1940 года «во изменение решения» пастанавілі перадаць замак пад Дом адпачынку НКУС БССР, «оставив временно на месте исторические ценности». І вось нарэшце пастанова: «...наиболее ценные художественные картины, коллекцию слуцких поясов, часть мебели и представляющие ценность скульптуры и вазы передать Управлению по делам искусств при СНК БССР для Республиканской картинной галереи».

Гэтыя дакументы даюць уяўленне пра намаганні дырэктара далучыць каштоўныя экспанаты да фондаў галерэі. Безумоўна, дапамагла дэкадная выстава ў Маскве, на якой Мікалай Міхалап марыў паказаць паясы – беларускую адметнасць, сенсацыю, як потым пісалі газеты, «узор выдатнай творчасці беларускіх прыгонных ткачых». Ён нездарма ганарыўся гэтым зборам: «Па сваёй паўнаце, багацці і разнастайнасці рысункаў гэта калекцыя адзіная ў свеце», – пісала газета «Звязда» 10 мая 1940 года.

**Навуковыя дасягненні**

За два з паловай гады нястомнай працы зборы галерэі дасягнулі трох тысяч адзінак захавання. Гэта быў сапраўдны подзвіг музейшчыкаў першага пакалення, якія здолелі за 9 месяцаў у неверагодных умовах жорсткай ідэалогіі, рэпрэсій і барацьбы з рэлігіяй назапасіць у сваіх фондах шмат сапраўдных твораў мастацтва.

Галерэя паспела правесці некалькі вялікіх стацыянарных выстаў і рыхтавала перасоўныя для абласных гарадоў Беларусі – Брэста, Магілёва і Віцебска. Вялася асветніцкая праца. Алена Аладава падрыхтавала і здала ў друк кароткі каталог-даведнік па галерэі. Са снежня 1939 года пачаў працаваць лекторый па гісторыі мастацтва XVIII–XIX стагоддзяў і савецкім перыядзе.

Кожны навуковы супрацоўнік вёў уласную тэму: Васілеўская рыхтавала даследаванне пра творчасць Заіра Азгура, Аладава – пра старажытнае мастацтва Магілёўшчыны, Палеес – біябібліяграфічны слоўнік мастацтва Беларусі з XII стагоддзя і манаграфію пра трох старэйшых мастакоў Беларусі – Пэна, Кругера і Альпяровіча. Ён жа склаў і каталог твораў Пэна ў галерэі.

**Ідэалагічныя выставы 1940 года**

Пасля адкрыцця галерэі ўсе сілы яе супрацоўнікаў былі аддадзены падрыхтоўцы выставы да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў чэрвені 1940 года. Часу было толькі паўгода. Газета «Літаратура і мастацтва» ад 23 красавіка 1940 года ў артыкуле «Да выстаўкі выяўленчага мастацтва ў Маскве» паведамляе, што скончаны адбор экспанатаў, сабрана каля 1000 твораў. «У аддзеле народнай твор-


Рапапорт Н. Я. Вызваленне Заходней Беларусі.
10.


УПРАВЛЕНИЕ ПО ДЕЛАМ ИСКУССТВ ПРИ СНК БССР

ВСЕБЕЛОРУССКАЯ ВЫСТАВКА ИЗОБРАЗИТЕЛЬНОГО ИСКУССТВА „ЛЕНИН и СТАЛИН ОРГАНИЗАТОРЫ БССР"

ЖИВОПИСЬ • ГРАФИКА • СКУЛЬПТУРА • АРХИТЕКТУРА

Государственная Картинная Галерея БССР
МИНСК • 1940

7(064)(476)
1940

...ННЕ ПА СПРАВАХ МАСТАЦТВАЎ ПРЫ СНК БССР

УСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА „ЛЕНІН і СТАЛІН АРГАНІЗАТАРЫ БССР"

ЖЫВАПІС • ГРАФІКА • СКУЛЬПТУРА • АРХІТЭКТУРА

Дзяржаўная Карцінная Галерэя БССР
МІНСК • 1940
11.

часці — выдатныя слуцкія паясы. Сабраныя творы экспаніраваны ў Карціннай галерэі БССР». Быў падрыхтаваны і выдадзены каталог «Изобразительное искусство Белорусской ССР» з уступнымі артыкуламі Аладавай і Палееса («Слуцкія паясы»). На выставе, акрамя сучаснага беларускага мастацтва, меліся раздзелы старога мастацтва і асобна — паказ слуцкіх паясоў з радзівілаўскай калекцыі. У 1940 годзе выдалі каталог вялікай выставы — «Ленін і Сталін — арганізатары БССР» з прадмовай Главацкай. Экспазіцыя аб'ядноўвала 50 скульптур і 221 твор жывапісу. Гэта бясцэнныя для гісторыкаў Беларусі дакументальныя крыніцы нашых ведаў пра даваенны перыяд існавання галерэі.

Дэкадная выстава праходзіла ў Маскве ў выставачным павільёне Цэнтральнага парка культуры і адпачынку, архітэктурна аформленым брыгадай мастакоў пад кіраўніцтвам Валерыя Алтуф'ева. Сярод экспанатаў — старажытныя мініяцюры, кнігі Францыска Скарыны, гравюры Гірша Лейбовіча, копіі насценных роспісаў. Наталля Сакалова ў газеце «Чырвоная Змена» 12 чэрвеня 1940 года піша: «Зверху да нізу павільёна спускаюцца шырокія залататканыя стужкі, упрыгожаныя танчэйшым раслінным арнаментам, — гэта так званыя слуцкія паясы, вядомыя яшчэ задоўга да выставы».

У час Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве Сендэр Палеес прачытаў цыкл лекцый па беларускім мастацтве для супрацоўнікаў Траццякоўскай галерэі. Ад гэтых лекцый захаваўся ілюстрацыйны матэрыял — здымкі 32 слуцкіх паясоў з нясвіжскіх збораў Радзівілаў, якія трапілі ў галерэю.


12.


13.

**Пачатак вайны: рабаўніцтва**

Першыя дні пачатку вайны — самая цьмяная старонка гісторыі музея. У галерэі на той час меліся толькі два навуковыя супрацоўнікі: Аладава і Мядзведзева. Палеес быў у камандзіроўцы ў Брэсце, Васілеўская — з перасоўнай выставай у Магілёве, Главацкая — у адпачынку.

Вайна пачалася нечакана. Бамбіць Мінск пачалі ўжо 24 чэрвеня. З лістоў вядома, што яшчэ 23 чэрвеня Мікалай Міхалап тэлефанаваў беларускім мастакам, з дапамогай якіх спадзяваўся ратаваць галерэю. Але многія былі мабілізаваныя. Тады Міхалап пайшоў у ЦК КПБ, але заспеў там толькі афіцэраў, якія спешна пакавалі партыйныя архівы. Ніякіх загадаў пра эвакуацыю галерэі не паступала.

У чэрвені ў галерэі дэманстраваліся дзве выставы. Адна з іх — «Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржаўнасці», другая — экспазіцыя прыкладнога мастацтва (палехскія шкатулкі) з Загорскага музея. Увесь асноўны фонд знаходзіўся ў сховішчах.

Супрацоўнікі галерэі і некаторыя мастакі (Гугель, Бразер) сабраліся ў газасховішчы Карціннай галерэі. Эвакуяваць зборы галерэі сіламі музейных супрацоўнікаў немагчыма: не было ні транспарту, ні рабочай сілы. Кіроўцу адзінага музейнага грузавіка мабілізавалі, сам грузавік быў перададзены ваенкамату. І ўсё ж нешта здолелі зрабіць. Аладава і Міхалап, паводле пазнейшых успамінаў, запакавалі многія экспанаты, схавалі збор слуцкіх паясоў спачатку ў скрыні, а потым у паляніцы з дровамі. Усе яшчэ разлічвалі на хуткую перамогу Чырвонай арміі, як абяцала савецкая прапаганда. Але партыйным уладам, ад якіх чакалі загаду, было не да галерэі. Мінск гарэў, пачалася паніка, жыхары беглі з горада. Карцінная галерэя згінула не ад снарадаў і бомб, а ад абыякавасці кіраўніцтва, яно не здолела забяспечыць галерэю транспартам.


14.



15.

«Міхалап перад прыходам немцаў зачыніў будынак на ключ і скіраваўся з горада разам з хворай жонкай», — згадвала мастацтвазнаўца Ірына Ялатамцава, якая сябравала з дырэктарам. Мікалай Міхалап, як сведчаць яго падрабязныя запісы, прыняў рашэнне пакінуць горад 26 чэрвеня а 4-й гадзіне вечара. Сем'і Аладавай і Міхалапа выходзілі з ахопленага агнём горада разам.

Гэты трагічны дзень — 26 чэрвеня 1941 года — назаўсёды застаўся ў памяці музейшчыкаў. Ён падрабязна занатаваны і Аладавай, і Міхалапам.

«26 чэрвеня пад націскам надыходзячага катанемца пакінулі наш родны горад. Пакідаючы яго, я адчуваў вельмі падаўлены стан, бо перажываць гэты момант было вельмі цяжка», — пісаў Міхалап у 1943 годзе да пляменніцы. Той жа стан адчаю адчуваецца і ва ўспамінах Аладавай: «Сыходзячы з разбуранага Мінска ў чорныя дні вайны, з намі сустрэліся на ўскраіне горада мастакі Гаўрыленка і Зайцаў. Памятаю, як суцяшалі яны тады нас, музейных работнікаў, што з адчаем азіраліся на палаючыя ўскраіны горада. Там засталося наша тварэнне — толькі набраўшая сілу цудоўная карцінная галерэя з цудоўнай калекцыяй старажытнабеларускага, рускага, замежнага і прыкладнога мастацтва. З вялікім зборам лепшых работ мастакоў рэспублікі».

28 чэрвеня 1941 года фашысты ўвайшлі ў Мінск. Нямецкія часці СС пачалі гвалтоўнае рабаванне галерэі (за два дні да гэтага дзверы ўжо былі зламаны марадзёрамі-мінчукамі, якія павыносілі дываны і шкатулкі палехскіх майстроў). 16 жніўня ў галерэі з'явіўся рэйхсфюрар СС Генрых Гімлер. Як ні прыкра, адзіныя здымкі інтэр'ераў галерэі ў час вайны былі зроблены асабістым фатографам фюрара Вальтэрам Фрэнтцам.

Першыя нямецкія часці толькі часткова пагаспадарылі ў галерэі. Затым у Мінску з'яўляюцца Ганс Пасэ — дырэктар Дрэздэнскай галерэі і асоба, упаўнаважаная па стварэнні асабістага музея Гітлера на яго радзіме, у Лінцы, — і Кай Мюльман, упаўнаважаны па ўліку культурных і мастацкіх каштоўнасцей на ўсходніх тэрыторыях.

Меліся ў горадзе і прадстаўнікі таварыства «Спадчына», якое ўзначальваў сам Гімлер. Жадаючых прысвоіць мінскія калекцыі аказалася шмат, і паміж імі існавала суперніцтва. Лепшыя прадметы прыкладнога мастацтва і палотны, як сведчаць дакументы, былі канфіскаваныя Гансам Пасэ, каштоўныя калекцыі адпраўлены ў Рэйх і ў Кёнігсберг. Да верасня 1941 года збор мастацкай галерэі быў практычна страчаны. У гэты час гаўляйтар Вайсрутэніі (так звалася Беларусь) Вільгельм Кубэ скардзіцца Альфрэду Розенбергу, што горад пазбавіўся мільённых каштоўнасцей, бо неацэнныя «палотны, мэбля XVIII—XIX стст., вазы, вырабы з мармуру, гадзіннікі і г.д. СС аддае на разрабаванне вермахту». Шмат чаго было вывезена ў невядомым кірунку, нешта засталося ў нямецкіх арганізацыях у Мінску.

Вайна раскідала мінскіх галерэйшчыкаў па розных кутках краіны: Аладава трапіла ў Саратаў, дзе скончыла курсы вадзіцеля грузавіка, а потым была прызначаная намесніцай па навуковай частцы музея імя Радзішчава, Палеес — у Фрунзэ, дзе ўзначальваў Карцінную галерэю Кіргізскай ССР. 7 ліпеня 1941 года Мікалай Міхалап з жонкай знаходзіўся ў пасёлку Краж пад Куйбышавам, дзе ўладкаваўся працаваць у школу настаўнікам чарчэння і малявання.

У жніўні 1944 года, пасля вызвалення Мінска, Міхалап звярнуўся да Панамарэнкі, Старшыні Савета народных камісараў, з просьбай пра вяртанне на працу ў Мінск. У лісце ад 22 жніўня 1944 года да дачкі Мікалай Міхалап яшчэ спадзяецца на працяг ранейшай дзейнасці. 19 жніўня ён нечакана атрымаў ліст ад Зарэмы Канапацкай, у якім яна піша, што каштоўныя экспанаты нямецкі вылюдак вывез, але будынак захаваўся.

Толькі ў кастрычніку 1944 года Міхалап даведаўся: дырэктарам галерэі прызначаная Алена Аладава. Паведаміла пра гэта Зарэма Канапацкая, якую новая кіраўніца запрасіла працаваць захавальніцай фондаў. Мікалай Міхалап піша ў адказ: «Ваша праца ў Галерэі прынясе шмат карысці, і Вы будзеце там адным з асноўных работнікаў. Так што выбар т. Аладавай, па-мойму, вельмі ўдалы. Пра сябе магу паведаміць, што перажываю, як ніколі, тугу па родных мясцінах і людзях увесь час знаходжання ў Кражы... І не можаш працаваць так, як гэтага патрабуе сённяшні дзень. А працы ў нас непачаты край! Перадайце прывітанне... усёй вашай сям'і, а таксама ўсім мастакам і работнікам галерэі». Міхалап спакойна і годна паставіўся да прызначэння энергічнай і маладой Алены Аладавай; акрамя таго, першаму кіраўніку галерэі споўнілася ўжо 59 гадоў.

З 1944-га пачынаецца новы перыяд існавання музея — адраджэнне, вяртанне старых і збор новых экспанатаў пад кіраўніцтвам Алены Аладавай, другога легендарнага дырэктара галерэі. М

**1. Будынак Дзяржаўнай карціннай галерэі — былой Марыінскай гімназіі. Вул. Карла Маркса. 1939.**

**2. Мікалай Міхалап — першы дырэктар Карціннай галерэі. 1939.**

**3. Будынак, у якім змяшчалася даваенная Карцінная галерэя. 2014.**

**4. Міхась Філіповіч. Беларускія тыпы. Кераміка, роспіс. 1920-я.**

**5. Арон Касцялянскі. Швачка. Канец 1920-х. Алей. НММ РБ.**

**6. Якаў Кругер. Партрэт ударніка мінскага завода «Ударнік». 1935. НММ РБ.**

**7. Аляксандр Галавін. Маркіза. Папера на кардоне, тэмпера, акварэль. 1908. НММ РБ.**

**8—9. Кунтушовыя паясы слуцкага тыпу (не захаваліся). Фотаздымкі былога збору галерэі. 1940. Дар Вольгі Лабачэўскай архіву НММ РБ.**

**10. Ілюстрацыі да каталога: творы беларускага скульптара Н. Рапапорта (не захаваліся). 1940.**

**11. Каталог выставы «Ленін і Сталін — арганізатары беларускай дзяржаўнасці». Мінск, 1940.**

**12. Ісахар-Бер Рыбак. Вадавоз. 1917. Папера, аловак. Перададзены з Яўрэйскага музея ў Ленінградзе.**

**13. Юдаль Пэн. Развод. 1907—1910. Алей. 1928. Перададзены з Яўрэйскага музея ў Ленінградзе. Віцебскі мастацкі музей.**

**14. Саламон Юдовін. Партрэт старога. Папера, аловак. 1925.**

**15. Манас Манасзон. Сустрэча савецкіх танкістаў у Беластоку. Алей. 1940.**

# Пераможцаў не судзяць

## ЗАЛАТЫЯ ЧАСЫ АЛАДАВАЙ. МУЗЕЙ У 1940—1960-Я

**Дзмітрый Моніч**

«...Быў 1952 год, на ацэнку экспертнай камісіі Мінкульта СССР былі прадстаўлены два жаночыя партрэты: Разнатоўскай і Кутайсавай, аўтарства якіх уладальнік прыпісваў Дзмітрыю Рыгоравічу Лявіцкаму і Фёдару Сцяпанавічу Рокатаву адпаведна. Закупачная камісія відавочна недаацаніла іх мастацкую вартасць і прапанавала ацэнку ў 18 тысяч рублёў. Уладальнік не пагадзіўся і вырашыў забраць карціны, каб прадаць прыватнай асобе, якая прапанавала на 2 тысячы болей.


2.

Алена Васільеўна Аладава і Міхаіл Пятровіч Крысці спрабавалі ўгаварыць уладальніка не спяшацца, пачакаць наступнага пасяджэння камісіі, дзе, магчыма, адбудзецца пераацэнка. Але ён не захацеў чакаць... тады Міхаіл Пятровіч уласнаручна, на свой страх і рызыку, падвысіў кошт да 20 тысяч рублёў, каб потым, на бліжэйшым пасяджэнні камісіі, яго зацвердзіць.

У той самы дзень Аладава адвезла партрэты ў Мінск. Але праз некалькі тыдняў Алену Васільеўну разам з партрэтамі выклікаў у Маскву старшыня Камітэта па справах мастацтваў пры Саўміне СССР Мікалай Бяспалаў. Выклікалі таксама і Міхаіла Пятровіча. Першапачаткова Аладаву і Крысці грозна адчыталі за парушэнне фінансавай дысцыпліны, а калі яны зусім унурыліся, Бяспалаў усміхнуўся і сказаў, што пераможцаў не судзяць, і павіншаваў з цудоўным набыткам».

***

Вось, бадай, самая красамоўная са шматлікіх гісторый, якая дае яскравае ўяўленне пра фарміраванне музея і яго калекцыі ў пасляваенныя гады. Менавіта так усё і адбывалася: шляхам дыпламатычных перагавораў з калекцыянерамі, праз асабістыя знаёмствы і сувязі ў кіруючых колах, часам нават з парушэннем заканадаўства і пад пагрозай судовай справы... Так збіраліся паасобныя пярліны, што сёння складаюць адзіную нізку — музейны збор.

«Пераможцаў не судзяць» — гэтыя словы адрасуюцца ўсім супрацоўнікам музея, тым, хто шляхам удач і памылак, недзе навобмацак і інтуітыўна, але з усім імпэтам аднаўляў-ствараў музей, збіраў калекцыю і адваёўваў для яго права знаходзіцца ў адным шэрагу са скарбніцамі сусветнай спадчыны.


3.

Першыя дні і нават месяцы дзейнасці музея ў 1944 годзе для нас даволі цьмяныя, праліваюць на іх святло нешматлікія дакументы і ўспаміны. Новае жыццё пачалося з Пастановы СНК БССР № 247 ад 16 мая 1944 г. «Аб аднаўленні Беларускай дзяржаўнай карціннай галерэі». Для часовага размяшчэння галерэі быў абраны Гомель, вызвалены напрыканцы 1943 г. Выканаўцай абавязкаў дырэктара Дзяржаўнай карціннай галерэі прызначылі Алену Аладаву, якая на той момант ужо знаходзілася ў Маскве і паралельна сумяшчала пасаду в. а. дырэктара Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Таксама ёсць згадкі аб наяўнасці рукапісных загадаў Дзяржаўнай карціннай галерэі ад 1 жніўня 1944 года і размяшчэнні галерэі ў гэты час у адным з пакояў Маскоўскага музея Новага заходняга мастацтва, таму, хутчэй за ўсё, аднаўленне дзейнасці ў Гомелі засталося толькі на паперы. Тым не менш пачатак быў пакладзены, і былыя супрацоўнікі пачалі зноў гуртавацца вакол Дзяржаўнай карціннай галерэі.

Пасля вызвалення Мінска, яшчэ ва ўмовах вайны, захаваны будынак Дзяржаўнай карціннай галерэі (вуліца Карла Маркса, 29) перадалі для аднаўлення АТС, таму пасля вяртання з эвакуацыі музей цясніўся ў васьмі часовых памяшканнях Дома прафсаюзаў (плошча Свабоды, 23). Даваенная калекцыя


1.



4.


5.

была разрабаваная, засталося ўсяго некалькі скульптур, якія з-за іх грувасткасці не змаглі або не пажадалі вынесці акупацыйныя ўлады.

Рэальнае становішча галерэі адлюстравана ў акце ад 30 верасня 1944 года, які быў складзены ў Мінску начальнікам аддзела выяўленчых мастацтваў Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР Паўлам Гаўрыленкам, в. а. захавальніка Дзяржаўнай карціннай галерэі Зарэмай Канапацкай і былой брыгадзіркай наглядчыкаў галерэі Таідай Канапацкай:

«...пры захопе г. Мінска нямецка-фашысцкімі войскамі ўсе найбольш значныя каштоўнасці Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР былі арганізавана вывезены ў Германію нямецка-фашысцкімі ўладамі.

Скрыні з экспанатамі галерэі адрасаваліся ў Кёнігсберг.

Акрамя экспанатаў з памяшкання галерэі вывезена ўся мэбля, рамы і знішчана абсталяванне службовых памяшканняў. Вывезена і разрабавана вялікая бібліятэка галерэі.

Экспанаты і кнігі, якія па нейкіх прычынах не падыходзілі да адпраўкі ў Кёнігсберг, спальваліся ў ацяпляльных печках галерэі.

Гіпсавыя скульптуры работы савецкіх мастакоў былі выкінуты з трэцяга паверха і разбіты ўшчэнт.

У дні вызвалення г. Мінска ад іга нямецка-фашысцкіх захопнікаў у будынку карціннай галерэі БССР засталіся толькі тры драўляныя скульптуры А.В. Грубэ і знявечаны торвальдсенаўскі "Меркурый" (мармур)».

Гэта ўсё, што засталося з даваеннай калекцыі, якая фарміравалася цягам трох гадоў. Не захавалася таксама і ўліковая дакументацыя, таму ў той самы час супрацоўнікі музея па памяці стварылі вопіс музейных прадметаў і ацанілі страчаную калекцыю ў 8,5 мільёнаў рублёў.

Спадзявацца на поўнае вяртанне даваеннага фонду і чакаць гэтага моманту — неразважна, трэба было дзейнічаць імкліва і рашуча. І Алена Аладава робіць стратэгічны крок — заручаецца падтрымкай прафесіяналаў-мастацтвазнаўцаў. У 1945—1946 гадах Дзяржаўная карцінная галерэя БССР падпісвае некалькі працоўных пагадненняў:

«...з прафесарам, мастацтвазнаўцам Мікалаем Рыгоравічам Машкоўцавым і вучоным захавальнікам Дзяржаўнай закупачнай камісіі Капіталінай Уладзіміраўнай Фраловай аб тым, што першы будзе кансультаваць усю навукова-даследчаю працу галерэі ў якасці кансультанта, аглядаць і даваць заключэнні на прадметы, прысутнічаць на пасяджэннях закупачнай камісіі і несці поўную адказнасць за якасць тых экспанатаў, што закупаюцца; другая бярэ на сябе працу па выяўленні сярод насельніцтва і прыватных калекцыянераў Масквы і іншых гарадоў СССР прадметаў музейнага значэння, будзе выступаць у якасці пасярэдніка паміж галерэяй і ўладальнікамі і захоўваць экспанаты да моманту іх перадачы прадстаўнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР».

«...з мастацтвазнаўцамі Міхаілам Сяргеевічам Кацарам, Сендэрам Давідавічам Палеесам і Іванам Маркавічам Хозерам аб тым, што яны бяруць на сябе працу па выяўленні, фіксацыі і навуковым апісанні прадметаў старажытнага беларускага мастацтва, а таксама будуць збіраць або набываць прадметы выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і народнай творчасці».

Сёння Аладаву з упэўненасцю можна было б назваць добрым менеджарам: яна аб'ектыўна ацэньвала сітуацыю, знаходзіла «правільных» людзей і ставіла іх на адпаведныя месцы. А сітуацыя была наступнай: пасляваенная разруха і голад спрыялі з'яўленню на ўнутраным савецкім мастацкім рынку шматлікіх твораў, якія дзесяцігоддзямі захоўваліся ў прыватных калекцыях і іх месцазнаходжанне было вядома адзінкам; Савецкі Саюз працягваў заставацца закрытым, таму разлічваць на знаёмства з замежнымі калекцыянерамі і іх зборамі заходнееўрапейскага мастацтва не даводзілася; пасля нядоўгага дзеяння храмаў пры акупацыйнай уладзе вярнулася атэістычная


11.


12.

палітыка; дзяржаўная ідэалогія выводзіла новае савецкае мастацтва на першыя пазіцыі. Вось асноўныя вектары, якія накіроўвалі збіральніцкую палітыку музея ў пасляваенныя і наступныя гады.

У 1946 годзе ў падарожжа па краіне выправілася першая навуковая экспедыцыя. Перад ёй стаяла задача выявіць і сабраць помнікі старажытнабеларускага і народнага мастацтва, каб сфармаваць калекцыю беларускага мастацтва XII—XVIII стст. Заручыўшыся падтрымкай мясцовых улад, музейныя супрацоўнікі наведвалі зачыненыя і дзейныя святыні, складалі вопіс помнікаў мастацтва і найбольш каштоўныя творы прывозілі ў музей. Усяго з 1946 да 1989 гг. было праведзена 106 навуковых экспедыцый па ўсіх рэгіёнах Беларусі з удзелам шматлікіх навуковых супрацоўнікаў музея, Акадэміі навук і запрошаных экспертаў. Дзякуючы адданай працы даследчыкаў і рэстаўратараў былі захаваны і ўведзены ў навуковы зварот шматлікія прадметы мастацтва (абразы, алтарныя палотны, скульптуры, царскія брамы, літургічныя кнігі і іншыя прадметы культу).

Большая частка скарбаў сучаснай музейнай калекцыі патрапіла ў зборы ў часы дырэктарства Алены Аладавай шляхам закупкі праз камісію пры Камітэце па справах мастацтваў Савета Міністраў СССР. Сабраць членаў гэтай камісіі было няпроста, але «на Аладаву» (так называлі пасяджэнні, дзе разглядаліся прадметы на закупку для Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР) прыходзілі ўсе. Аднак і гэта было толькі пачаткам, падчас самога пасяджэння не раз трэба было праявіць настойлівасць, дыпламатычнасць або красамоўна прамаўчаць, каб пераканаць усіх і адвезці жаданы скарб у Мінск. Адмоўнае рашэнне або нізкая ацэнка таксама не былі прычынай для адступлення, трэба было заходзіць з іншага боку або заручацца падтрымкай аўтарытэтаў.

У 1962 годзе Аладава піша ліст начальніку аддзела выяўленчых мастацтваў і аховы помнікаў Міністэрства культуры СССР з просьбай пераацаніць «Партрэт Вольгі Фёдараўны Тамара» Валянціна Сярова, «Партрэт Марыі Фёдараўны Андрэевай» і «Партрэт Марыі Клаўдзіеўны Ценішавай» Іллі Рэпіна, якія камісія ацаніла мінімальна, па аналогіі з прыкладамі, што мелі месца раней. Свой зварот яна падмацоўвае меркаваннем народнага мастака СССР, лаўрэата трох Сталінскіх прэмій акадэміка Мацвея Манізера, які выказаўся, што неабходна перагледзець ацэнку і вышэйзгаданыя творы набыць любой цаной. Вынік: партрэты Тамара, Андрэевай і Ценішавай — пярліны пастаяннай экспазіцыі музея сёння.

На жаль, далёка не кожнае пасяджэнне камісіі адбывалася на карысць Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. Так, адным з найбольшых шкадаванняў Аладавай была страта жывапіснага палатна «Апостал Павел тлумачыць дагматы веры ў прысутнасці цара Агрыпы, сястры яго Беранікі і праконсула Феста» Васілія Сурыкава, якое яна вымушана была саступіць Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі пад ціскам вядомага маскоўскага мастацтвазнаўца Уладзіміра Кеменава.

Члены закупачнай камісіі бачылі толькі вяршыню крыгі — сам твор мастацтва, які прадстаўляўся на ацэнку для Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. Гэтаму папярэднічала доўгая карпатлівая праца з уладальнікамі, якія з цяжкасцю развітваліся са сваімі скарбамі. І тут быў вельмі важны чалавечы фактар: трэба было атрымаць прыхільнасць, пераканаць, што мінскі музей стане найлепшым месцам, дзе з належнай пашанай будзе захоўвацца шэдэўр мастацтва. Алена Васільеўна, як ніхто іншы, умела праводзіць доўгія дыпламатычныя перамовы і шляхам угавораў, стрыманай настойлівасці, чакання і, безумоўна, прэзентаў схіляла калекцыянераў на свой бок. Спачатку ты працуеш на імя, а потым імя працуе на цябе — так было ў выпадку з Аладавай, калі ўладальнікі самі выходзілі на яе і прапаноўвалі закупку найперш мінскаму музею. Гэтаму спрыялі яшчэ і чуткі, якія луналі вакол асобы Алены Васільеўны, нібыта яна выязджае ў камандзіроўку з чамаданам грошай і закупляе ўсё, што выбрала.

У архіве музея захоўваецца наступны ліст мастака-рэстаўратара Ганны Крайтар:

«Паважаная Алена Васільеўна!

Падчас працы ў Дзяржаўнай Цэнтральнай мастацка-рэстаўрацыйнай майстэрні мне часта даводзілася бачыць карціны, што Вы набылі для мінскага

музея. Мастацкая якасць гэтых карцін прымушае меркаваць, што мінскі музей сапраўды камплектуе вельмі добрую калекцыю твораў буйных рускіх мастакоў. Гэта ўражанне і падказала мне звярнуцца да Вас у наступнай справе.
У нашым зборы жывапісу ёсць два партрэты (мужчынскі і жаночы) пэндзля Рокатава...
Гэтыя партрэты паступілі да нас ад майго брата, мастака-рэстаўратара Івана Кандрацьевіча Крайтара, які паставіў наступную ўмову, што калі мы будзем вымушаны з імі развітацца, то мы прададзім іх толькі ў музей з добрым зборам рускага жывапісу».
Аднак, пэўна, самай красамоўнай гісторыяй супрацоўніцтва Аладавай з калекцыянерамі з'яўляецца паступленне ў збор музея 43 твораў з калекцыі расійскай спявачкі Лідзіі Русланавай. Заслужаная артыстка РСФСР, «голас эпохі» ў 1930–1940-я, сабрала выбітную калекцыю рускага мастацтва (звыш 130 карцін). Але рэпрэсіўная машына яе не мінула, у 1948 годзе Русланаву арыштавалі па абвінавачванні ў антысавецкай прапагандзе, увесь збор быў канфіскаваны і перададзены Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і Дзяржаўнай закупачнай камісіі. У 1953 годзе разам з рэабілітацыяй спявачкі было падпісана распараджэнне аб вяртанні ўладальніцы ўсіх канфіскаваных рэчаў, што было выканана толькі часткова, некалькі твораў «па вельмі настойлівай просьбе» былі прададзены Траццякоўскай галерэі. Па ўспамінах Алены Васільеўны, гэта паўплывала ў будучым на нежаданне Лідзіі Андрэеўны прадаваць калекцыю ў маскоўскі музей. Гэтая сітуацыя імгненна была выкарыстана няўрымслівай беларускай дырэктаркай, якая сваёй настойлівасцю і прастатой падкупіла Русланаву і змагла прывезці ў Мінск траціну яе збору.
Уся пошукавая праца, бясконцыя перамовы і ўгаворы ўладальнікаў, адпраўка шматлікіх пасылак з прысмакамі калекцыянерам былі б дарэмныя без дзяржаўнага фінансавання. Магчыма, зараз складана ў гэта паверыць, але ў цяжкія пасляваенныя гады, калі краіна была зруйнаваная і патрабаваліся велізарныя сродкі на аднаўленне, дзяржаўны бюджэт фарміраваўся з улікам вылучэння грошай на папаўненне музейнай калекцыі. Аднак кожны рубель трэба было абгрунтаваць і даказаць. Зацверджанае фінансаванне на патрэбы музея часта скарачалася, перанакіроўвалася на іншыя мэты. І тады ў ход ішла партыйная дыпламатыя Аладавай – бясконцыя лісты ў Савет Міністраў і Міністэрства культуры.
Вось фрагмент ліста Алены Васільеўны, адрасаваны Старшыні Савета Міністраў Панцеляймону Панамарэнку:
«...прашу Вашага садзейнічання ва ўключэнні ў бюджэт расходаў на 1947 год на папаўненне фондаў Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР 1 мільёна 500 тысяч рублёў для набыцця работ у вядучых майстроў савецкага мастацтва, папаўненне аддзела рускага мастацтва і збору фонду для аддзела мастацтва Беларусі XII–XIX стагоддзяў».
Жаданні не заўсёды супадалі з магчымасцямі: ёсць грошы – няма годных прадметаў на закупку, з'явіліся вартыя творы – «зніклі» грошы. Некаторыя ўладальнікі гадамі чакалі аплаты, спачатку дасылалі ветлівыя лісты з напамінамі, пазней пагражалі судом. Тым не менш Аладава заставалася аўтарытэтам – калі яна казала, што музей гэта купіць, ёй давяралі і аддавалі карціны без грошай. У пастаяннай экспазіцыі Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР знаходзіліся творы мастацтва, якія яшчэ «стаялі ў чарзе на аплату»: адны – год, другія – два, трэція – яшчэ болей.
Фрагмент ліста міністру культуры БССР Рыгору Якаўлевічу Кісялёву:
«...Карціна Угрумава "Пакарэнне Казані Іванам Грозным" з'яўляецца варыянтам карціны, што знаходзіцца ў Ленінградзе, але па водгуках знаўцаў, надрукаваных у "Часопісе выяўленчых мастацтваў" у 1823 годзе, яна лічылася асабліва ўдалай карцінай праслаўленага майстра...
У цяперашні час Траццякоўская галерэя змагаецца за права набыцця гэтай карціны, якую мастацтвазнаўцы ўжо ахрысцілі Мінскім варыянтам, бо яна трэці год прабывае ў нашым музеі».
Алену Васільеўну часта абвінавачвалі ў тым, што яна набывае найперш творы рускага мастацтва, самі беларускія мастакі лічылі, што «іх грошы ідуць да рускіх калекцыянераў». Падобнага кшталту крытыку можна было пачуць не толькі ў майстэрнях мастакоў і ў кулуарах, але і на старонках афіцыйнай прэсы.


13.

Вытрымка з артыкула «Прапагандаваць выяўленчае мастацтва», надрукаванага на першай старонцы газеты «Літаратура і мастацтва» №78 (1197), 28 верасня 1957 года (арфаграфія арыгіналу захаваная):
«Чым зараз жывуць нашы мастакі, што іх больш за ўсё хвалюе і якія жыццёва важныя творчыя праблемы стаяць перад імі, – вось тыя асноўныя пытанні, якія з'явіліся прадметам размовы на адкрытым партыйным сходзе ў Саюзе мастакоў Беларусі.
...У карціннай галерэі ўвесь час любоўна захоўваюцца, а калі трэба – і рэстаўруюцца работы вядомых класікаў жывапісу (яно так і трэба!), а вось пошукі карцін старых, дарэволюцыйных мастакоў Беларусі і набыццё новых палотнаў у нашых сучасных майстроў – гэта чамусьці мала непакоіць».
Аднак насамрэч усё было інакш. Толькі яна, Аладава, магла сабе дазволіць не пагадзіцца з меркаваннем камісіі, абараніць творы яшчэ маладых Мая Данцыга, Леаніда Шчамялёва і іншых і настаяць на іх набыцці для музея. Яе аўтарытэтнае меркаванне было непахісным довадам, калі на закупку адбіраліся і праглядаліся камісіяй работы беларускіх мастакоў, якія выбіваліся з агульнай лініі партыі. Менавіта ў часы дырэктарства Аладавай у музейны збор патрапілі жывапісныя і графічныя творы самага яскравага прадстаўніка беларускага нонканфармізму Ізраіля Басава.
Прынятыя захады прынеслі свой плён, і ўжо напрыканцы 1940-х калекцыя налічвала звыш 1 500 музейных прадметаў, аднак свайго ўласнага будынка не было, галерэя працягвала туліцца ў васьмі пакоях другога паверха левага крыла Дома прафсаюзаў, пад сховішча адводзіліся пакоі на трэцім паверсе.
Кожнае публічнае выступленне Аладавай нязменна закранала тэму папаўнення калекцыі і неабходнасці асобнага музейнага будынка. З гэтай просьбай яна звярталася ў Міністэрства культуры БССР і Упраўленне па справах мастацтва пры СНК БССР. Нарэшце падтрымка з'явілася з боку старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Васіля Казлова. 15 кастрычніка 1949 года была прынята пастанова Савета Міністраў БССР №1213 «Аб аднаўленні будынка Дзяржаўнай Мастацкай галерэі БССР».
Заказ на праектаванне і будаўніцтва музея атрымаў малады архітэктар Міхаіл Бакланаў. Гэта стала сапраўднай падзеяй у культурным жыцці краіны, бо ўпершыню ў беларускай архітэктуры праектаваўся асобны спецыяльны будынак для музея. Праектаванне патрабавала асаблівых ведаў і навыкаў, па якія Бакланаў адправіўся ў Маскву, каб дэталёва пазнаёміцца з будовай Траццякоўскай галерэі і Музея выяўленчых мастацтваў імя А.С. Пушкіна.
Праектаванне новага будынка галерэі асабіста курыраваў намеснік старшыні Камітэта па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР Лявонцьеў.


14.

Непасрэдныя кансультацыі даваў вядомы беларускі архітэктар Георгій Заборскі, аднак найбольшы ўплыў на Міхаіла Бакланава аказваў яго настаўнік, творца знакавых пабудоў Мінска міжваеннага перыяду Іосіф Лангбард.
Першапачаткова будаўніцтва музея меркавалася на скрыжаванні вуліц Леніна і Першамайскай — на ўзвышшы, над ракой Свіслач. Вялікія прасторы і прыгожы рэльеф дазвалялі разгарнуцца фантазіі і стварыць накід прыгожага палаца ў атачэнні паркавай зоны. Аднак кіраўніцтва краіны палічыла, што раён уздоўж вуліцы Першамайскай знаходзіцца далёка ад цэнтра, музей жа павінен размяшчацца бліжэй да галоўнай гарадской магістралі — вуліцы Савецкай (сёння праспект Незалежнасці). Таму праект перанеслі на вуліцу Леніна, што стварыла дадатковыя цяжкасці ў разліках, бо новы будынак трэба было ўціснуць у абмежаваны раён, дзе ўжо была сфарміраваная забудова.
У адпаведнасці з новымі рэаліямі Бакланаў стварае праект двухпавярховага будынка з каланадай і шкляным купалам. Асноўная задума архітэктара: музей павінен уяўляць з сябе «храм мастацтва», скарбніцу неацэнных твораў жывапісу, скульптуры, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.
Працэс праектавання і будовы расцягнуўся на восем гадоў, не абышлося і без канфліктаў. Напрыканцы будаўнічых работ узніклі гарачыя спрэчкі адносна скульптур на фасадзе будынка. Супраць выкананых твораў катэгарычна выступаў Міхаіл Бакланаў, ён крытыкаваў выканаўцаў за нізкі мастацкі ўзровень і дасылаў лісты ў кіруючыя органы з патрабаваннем адхіліць гэтыя работы. Аднак з архітэктарам не пагадзіліся, бо гэта магло зацягнуць адкрыццё музея, што было запланавана на юбілей 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Так усё і засталося без змен: на верхняй частцы франтона змяшчаецца скульптура Андрэя Бембеля «Слава», злева ад цэнтральнага ўваходу алегарычная фігура «Скульптура» (аўтары — Сяргей Адашкевіч і Павел Белавус), справа — алегарычная фігура «Жывапіс» (аўтары — Марк і Лейба Раберманы).
Пастановай Савета Міністраў БССР № 423 ад 10 ліпеня 1957 года Дзяржаўная карцінная галерэя БССР была перайменаваная ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР, а ўрачыстае адкрыццё новага музейнага будынка адбылося 5 лістапада 1957 года. Гістарычныя этапы маюць свой пункт адліку, ад якога нібыта ўсё ідзе як раней, але ўжо на новым узроўні. Тое самае адбылося ў 1957 годзе: уся краіна, а не толькі музей або сталіца, выйшла на новы ўзровень, бо адбылося нешта большае, чым урачыстае адкрыццё новага музейнага будынка. Быў закладзены грунт, які дае апору кожнаму новаму пакаленню беларусаў.
Мінула ўжо 62 гады з часу пабудовы, аднак галоўны корпус надалей застаецца адзіным у краіне будынкам, спецыяльна спраектаваным для музея мастацкага профілю. І ўвага да яго не змяншаецца, наадварот, ён — самая жаданая выставачная пляцоўка як для музейных куратараў, так і для мастакоў.
Наяўнасць паўнавартаснага спецыялізаванага будынка ў 1960-я адкрыла перад музеем новыя перспектывы: павялічыліся плошчы пастаяннай экспазіцыі, з'явілася магчымасць прынімаць выставы высокага класа з саюзных дзяржаў і краін сацыялістычнага лагера. І гэтыя гады сталі выбуховымі ў культурным жыцці Мінска і Беларусі ў цэлым. Дзяржаўны мастацкі музей наведалі творы Яна Матэйкі з музеяў Польшчы, прыкладное мастацтва Кітая XVII–XIX стст. з Эрмітажа, творы рускага мастацтва XVIII–XX стст. з Траццякоўскай галерэі, творы мастацтва Галандыі і Фландрыі XVII ст., творы французскага мастацтва XVII–XIX стст. з Эрмітажа і Дзяржаўнага музея выяўленчых мастацтваў імя А.С. Пушкіна.
1960-я ў гісторыі музея вылучаюцца не толькі прывазнымі выставамі, але і дарамі вядомых гасцей. У Беларусь з Францыі прыязджае ўраджэнка Віцебшчыны, жонка вядомага мастака Фернана Лежэ, сяброўка міністра культуры СССР Кацярыны Фурцавай мастачка Надзя Хадасевіч-Лежэ. Грамадзянка капіталістычнай краіны, Надзя Лежэ была членам камуністычнай партыі Францыі, што давала ёй магчымасць прыехаць у СССР і «быць прылашчанай» партыяй. Наведванне Дзяржаўнага мастацкага музея насіла не толькі характар візіту ветлівасці. Вядомая беларуска прыехала з падарункамі — унікальнымі рэпрадукцыямі карцін заходнееўрапейскіх жывапісцаў, злепкамі скульптур з Луўра, арыгінальнай керамікай Пікаса і ўласнымі супрэматычнымі кампазіцыямі. Апошнія патрапілі ў музей толькі ў 1980-я, яны доўга захоўваліся дома ў Алены Аладавай, бо для Савецкай Беларусі гэта было занадта авангарднае мастацтва і дырэктара маглі абвінаваціць у папушчальніцтве фармалізму.
За ўсімі яскравымі вышэйпералічанымі эпізодамі-імгненнямі музейнага жыцця стаяць рэальныя асобы. Для некаторых музей быў больш чым праца — гэта было жыццёвым пакліканнем, якое яны выканалі. Менавіта пра такіх людзей сказана ў Евангеллі ад Лукі: «Таксама вы, калі выканаеце ўсё загаданае вам, кажыце: "Мы нікчэмныя слугі, бо зрабілі тое, што павінны былі зрабіць"». Яны — Аладава, Васілеўская, Паньшына, Сакалоў, Бадзін, Герасімовіч, Рэсіна, Назімава, Карповіч і шмат іншых — зрабілі тое, што павінны былі зрабіць. Інакш яны не маглі.

**1. Дом Прафсаюзаў (плошча Свабоды, 23).**
**2. Дзмітрый Лявіцкі. Партрэт Т.П. Разнатоўскай. Алей. 1781.**
**3. Фёдар Рокатаў. Партрэт Г.П. Кутайсавай. Пачатак 1780-х.**
**4. Ілля Рэпін. Партрэт М.Ф. Андрэевай. Алей. 1905.**
**5. Ілля Рэпін. Партрэт М.К. Ценішавай. 1892–1893.**
**6. Архітэктар Міхаіл Бакланаў. Праект будынка ДКГ БССР. 1951.**
**7. Дзяржаўны мастацкі музей БССР.**
**8. Экспедыцыя ў Брэсцкай вобласці. Алена Аладава і рэстаўратар Віктар Філатаў. 1958.**
**9. Алена Аладава і Надзя Хадасевіч-Лежэ ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.**
**10. На фоне новага будынка ДММ БССР злева направа: галоўны інжынер праекта Барыс Шлосберг, міністр культуры БССР Рыгор Кісялёў, архітэктар Міхаіл Бакланаў, дырэктарка Алена Аладава, скульптар Андрэй Бембель.**
**11. Аляксандр Грубэ. Тачачнік.**
**12 Валянцін Сяроў. Партрэт В.Ф. Тамара. Алей. 1892.**
**13. Пабла Пікаса. Твар спакою. 1950.**
**14. Надзя Хадасевіч-Лежэ. Супрэматызм. Кампазіцыя з чорным колам на белым фоне. 1960-я.**



1

# На шляху да **Нацыянальнага**

**Алена Шапашнікава**

СВАІМ ПЕРАЕМНІКАМ АЛЕНА АЛАДАВА АБРАЛА БЛІЗКАГА ЁЙ ПА ДУХУ ЮРЫЯ КАРАЧУНА, МАСТАКА-ГРАФІКА, ЯКІ ПРАЦАВАЎ ЗАГАДЧЫКАМ АДДЗЕЛА РЭКЛАМЫ І ПРАМГРАФІКІ ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ПАЛАТЫ БССР, НАЧАЛЬНІКАМ АДДЗЕЛА МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ. І НЕ ПАМЫЛІЛАСЯ — ЮРЫЙ КАРАЧУН, ПРЫЗНАЧАНЫ ДЫРЭКТАРАМ 12 СНЕЖНЯ 1977 ГОДА, СТАЎ САПРАЎДНЫМ МУЗЕЙШЧЫКАМ.

У тыя дваццаць гадоў, што ён кіраваў установай, адбылося шмат важных падзей: музейператварыўся ў буйны комплекс з філіяламі. Гэта Мазырская раённая карцінная галерэя ў вёсцы Гурыны (1978), Музей народнага мастацтва ў Раўбічах (1979), Музей Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве (1982), архітэктурны комплекс XVI—XVIII стагоддзяў у Гальшанах (1989), Палацава-паркавы комплекс XV—XX стагоддзяў у Міры (1992). У 1984 годзе на баланс музея быў перададзены дом №33 па вуліцы Інтэрнацыянальнай горада Мінска — помнік архітэктуры канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя, дзе меркавалася стварыць дом-музей мастака Ваньковіча. Будынак быў амаль цалкам разбураны. Пачалася яго доўгая рэстаўрацыя, што скончылася ў 2000 годзе. Пры Карачуне калекцыя музея расла, ён падтрымліваў навукова-даследчую і выставачную дзейнасць, удзельнічаў у стварэнні музейных альбомаў.

У 1970—1980-я музей працягваў жыць насычаным жыццём. Так, у 1970 годзе ў Савецкім Саюзе шырока адзначалася стагоддзе з дня нараджэння Леніна. Мастацкі музей быў узнагароджаны дыпломам 2-й ступені Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюзаў работнікаў мастацтваў за ўдзел ва Усесаюзным аглядзе працы музеяў, арганізаваным у адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Леніна. У залах экспанавалася рэспубліканская выстава «Мастакі Беларусі — У.І. Леніну». Больш за 220 аўтараў прадставілі каля 550 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, плаката, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярод іх — жывапісныя палотны Міхаіла Савіцкага «Аднадушнасць», Анатоля Шыбнёва «Кастрычніцкія дні», Віталя Цвіркі «Каложа», скульптурныя кампазіцыі Аляксея Глебава «Сустрэча У.І. Леніна на Фінляндскім вакзале», «Першая конная», Сяргея Вакара «Партрэт Максіма Багдановіча», графічныя серыі Арлена Кашкурэвіча «Партызаны», Пятра Дурчына «Па ленінскіх месцах», дэкаратыўная пласціна Тараса Паражняка «У.І. Ленін».

Навуковыя супрацоўнікі сярэдняга пакалення — Аліса Наркевіч, Таісія Карповіч, Валянціна Чуркіна, Ларыса Белікава — падрыхтавалі лекцыю «Вобраз У.І. Леніна ў выяўленчым мастацтве». Лекцыя карысталася вялікім попытам, яе чыталі ў лекторыі музея, школах, розных установах.

Калектыў музея сфарміраваў камплекты перасоўных выстаў, якія экспанаваліся ў розных населеных пунктах Беларусі. У тым ліку яны накіроўваліся ў вагон-клуб Беларускай чыгункі, іх суправаджалі маладыя супрацоўнікі, што нядаўна прыйшлі на працу ў музей, — Таццяна Рэзнік, Алена Шапашнікава, Наталля Калашнік, Алена Сянькевіч, Марына Шчарбакова. Экспазіцыі ладзіліся ў чыгуначным вагоне, які разам з вагонам-кіназалай пераязджаў з аднаго прыпыначнага пункта ў іншы. Супрацоўнікі праводзілі экскурсіі і чыталі лекцыі непасрэдна ў вагоне-клубе і ў бліжэйшых школах.

На дваццацігадовы перыяд, з 1970-х па 1990-я, прыпадае пік выставачнай дзейнасці мастацкага музея, у тым ліку паказ адметных замежных выстаў. Так, у 1973 годзе мінчане змаглі пазнаёміцца з творамі жывапісу і графікі заходнееўрапейскіх і амерыканскіх мастакоў са збору амерыканскага калекцыянера Арманда Хамера. Акрамя Мінска, яны экспанаваліся ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве. Гэта была першая выстава з прыватных збораў ЗША, якая праходзіла ў Савецкім Саюзе. На ёй былі паказаны творы жывапісу еўрапейскіх мастакоў Рубенса, Рэмбранта, Гоі, Жэрыко, Каро, Рэнуара, Пісаро, Сезана, Гагена, Ван Гога, Мадыльяні, графіка Дзюрэра, Рафаэля, Энгра, Дам'е, Дэга, а таксама працы амерыканскіх майстроў Сарджэнта, Ікінса і іншыя.


2.

Крыху пазней у музеі экспанаваліся выставы з іншых збораў ЗША. У 1976 годзе — заходнееўрапейскі і амерыканскі жывапіс з Нацыянальнай карціннай галерэі і іншых калекцый ЗША, у 1978-м — амерыканскі жывапіс другой паловы XIX—XX стагоддзя з Метраполітэн-музея і іншых збораў ЗША, у 1988-м — выстава «Новыя гарызонты», амерыканскі жывапіс 1840—1910-х са Смітсанаўскага інстытута і Нацыянальнай галерэі мастацтваў ЗША.

У 1975 годзе важнай падзеяй стала выстава «Скарбы Дрэздэнскай галерэі», дзе былі паказаны такія жывапісныя шэдэўры, як «Чатыры сцэны з жыцця Святога Зіновія» Сандра Батычэлі, «Партрэт дачкі» Тыцыяна Вечэліа, «Дзяўчына, якая чытае ліст» Яна Вермеера Дэлфцкага, «Святая Інэса» Хасэ дэ Рыбера.

У 1974 годзе вялікую цікавасць выклікала выстава «Шэдэўры польскага жывапісу XIX — пачатку XX стагоддзя» з музеяў Польшчы. Творы польскіх аўтараў таксама з музеяў Польшчы экспанаваліся ў 1977 годзе на выставе «Польскі партрэт канца XVI — XVIII стагоддзя».

Працы сучасных польскіх мастакоў былі паказаны беларускаму гледачу ў 1971 годзе на выставе «Пейзаж і нацюрморт сучасных польскіх мастакоў» з музеяў і прыватных збораў Польшчы, а таксама ў 1987-м на выставе «Польская кніжная ілюстрацыя для дзяцей і юнацтва» з Цэнтральнага бюро мастацкіх выстаў Польшчы ў Варшаве.

У 1979 годзе Міністэрствам культуры і мастацтваў Польскай Народнай Рэспублікі за заслугі ў прапагандзе польскага мастацтва і культуры Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР прысвоена званне заслужанага перад польскай культурай і ўручаны ўзнагародны знак.

З нямецкім мастацтвам XX стагоддзя беларускага гледача знаёмілі выставы з ГДР: творы Леа Грундзіг з Берлінскай акадэміі мастацтваў (1976), а таксама «Кётэ Кольвіц і нямецкая графіка яе часу» з Дзяржаўнага музея імя Ліндэнау Альтэнбурга (1979).

У 1981 годзе ў нашым музеі экспанавалася выстава «Ліёнскія тканіны XVII—XX стагоддзяў» з музеяў Францыі.

Акрамя замежных, у музеі былі паказаны маштабныя ўсесаюзныя выставы, дзе былі прадстаўлены работы з многіх музеяў Савецкага Саюза. Наш музей таксама выдаваў на гэтыя выставы творы са сваіх фондаў. У 1971 годзе прайшла выстава Мікалая Ге, прымеркаваная да 140-годдзя з дня нараджэння майстра. Да 100-годдзя Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў у 1972 годзе ў музеі можна было ўбачыць «Пейзажны жывапіс перадзвіжнікаў», «Партрэтны жывапіс перадзвіжнікаў», «Жанравы жывапіс перадзвіжнікаў». У 1975-м — выставу твораў Мікалая Рэрыха, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння. У канцы 1982-га ў нашым музеі з вялікім поспехам прайшла ўсесаюзная выстава твораў Івана Шышкіна да 150-годдзя з дня нараджэння.

У 1977 годзе музей прыняў маштабную выставу «Аўтапартрэт у рускім і савецкім мастацтве» з музеяў і прыватных збораў СССР. Яна ўключала больш за 350 жывапісных і графічных аўтапартрэтаў мастакоў ад XVIII стагоддзя і да сучаснасці (у тым ліку і з калекцыі нашага музея). Была арганізавана Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэяй, паказана ў Ленінградзе, Кіеве, а ў Мінску быў канчатковы пункт яе экспанавання.

Безумоўна, музей арганізоўваў выставы і са сваіх фондаў, каб пазнаёміць гледачоў з уласнымі калекцыямі. Гэта былі персанальныя экспазіцыі да юбілейных дат як сучасных беларускіх аўтараў, так і мастакоў мінулых стагоддзяў, тэматычныя выставы. На многіх з іх былі паказаны творы з фондаў нашага музея і з іншых устаноў, прыватных калекцый або з майстэрняў мастакоў. У 1972-м да 100-годдзя з дня нараджэння Вітольда Бялыніцкага-Бірулі быў зладжаны вялікі паказ з фондаў нашага музея, з музеяў і прыватных збораў СССР. Праз год сабралі работы ў экспазіцыю да 100-годдзя Станіслава Жукоўскага з музеяў і прыватных збораў Польшчы і СССР. У 1982 годзе адбылася выстава з фондаў музея «Другое нараджэнне партрэтаў з Нясвіжа і Гродна», якая ў наступным годзе экспанавалася ў Каўнасе і Яраслаўлі. Таксама ў 1983-м музей арганізаваў паказ твораў мастака-беларуса Апалінарыя Гараўскага да 150-годдзя з дня нараджэння, дзе экспанаваліся работы з нашых фондаў, Траццякоўскай галерэі, Рускага музея, з музеяў Казахстана, Пен-

зы, Іркуцка. У 1985 годзе ў музеі паказалі працы Івана Хруцкага, да 175-годдзя з дня нараджэння, з фондаў нашага мастацкага музея, музеяў і прыватных збораў СССР, быў выдадзены каталог.
У 1986 годзе праводзіліся Дні культуры Беларусі ў Эстоніі. У музеі было сфарміравана некалькі выстаў адмыслова для замежнай падзеі. Гэта творы Бялыніцкага-Бірулі, жывапіс, скульптура і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва беларускіх аўтараў у Таліне; беларускія тканіны і саломапляценне ў Кохтла-Ярве; графіка беларускіх мастакоў на востраве Саарэмаа.
Да святкавання 1000-годдзя прыняцця хрысціянства на Русі ў 1988 годзе ў Кіеве зладзілі выставу «Выяўленчае мастацтва Савецкай Беларусі».
У кастрычніку 1973 года ў Мінску быў адкрыты Палац мастацтва. З фондаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР была арганізавана рэтраспектыўная экспазіцыя твораў беларускіх мастакоў — з 1944 па 1973 год. Калі раней рэспубліканскія выставы праходзілі ў музейных залах і даводзілася здымаць пастаянную экспазіцыю, то цяпер музей выдаваў свае экспанаты на выставы ў Палац. Навуковыя супрацоўнікі музея працавалі над каталогамі. Але экспанаты трэба было вазіць на аўтамабільным транспарце, а гэта не заўсёды станоўча адбівалася на іх захаванасці. Так што ў рэстаўратараў Мікалая Куйчыка і Уладзіміра Харанекі праца павялічылася.
Калекцыя музея расла: за дваццаць гадоў (1970—1990) яна папоўнілася амаль на дзесяць тысяч экспанатаў. Перш за ўсё гэта творы беларускіх аўтараў другой паловы мінулага стагоддзя, што закупляліся Міністэрствам культуры БССР з рэспубліканскіх і персанальных выстаў, а таксама падораныя мастакамі музею. У дар паступалі і працы ад сваякоў тых мастакоў, якіх ужо не стала. Так, каля 30 жывапісных работ падаравалі дачка і сын мастака Валянціна Волкава.
Адзін з найбольш значных дароў, якія папоўнілі музейную калекцыю ў пачатку 1970-х, музей атрымаў ад Надзі Хадасевіч-Лежэ. Знакамітая ўраджэнка Беларусі, якая жыла ў Францыі, наведала Мінск і падарыла музею 30 керамічных работ Пікаса і дэкаратыўнае пано свайго мужа Фернана Лежэ. Акрамя гэтага, ёю было перададзена 55 злепкаў з твораў скульптуры Старажытнага Егіпта, Старажытнай Грэцыі, еўрапейскіх майстроў Сярэдніх вякоў і эпохі Адраджэння з майстэрні Луўра. Пазней музею былі падораны 13 графічных аркушаў Фернана Лежэ і 16 работ Надзі Хадасевіч-Лежэ з асабістай калекцыі Алены Аладавай.
Калекцыя рускага жывапісу папоўнілася карцінамі Лявіцкага, Айвазоўскага, Рэпіна, Шышкіна. Акрамя таго, былі набыты жывапісныя работы мастакоў — ураджэнцаў Беларусі: Івана Хруцкага, Апалінарыя і Іпаліта Гараўскіх, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.
Фонды музея павялічваліся і дзякуючы экспедыцыям навуковых супрацоўнікаў па Беларусі. Экспедыцыямі пад кіраўніцтвам Надзеі Высоцкай


3.


4.

з супрацоўнікамі Уладзімірам Харанекам, Алегам Ліхтаровічам, Георгіем Ліхтаровічам, Віталём Чарнабрысавым, Аленай Карпенка, Наталляй Сычовай, Наталляй Трыфанавай і іншымі з нядзейных на той час касцёлаў і цэркваў былі вывезены і фактычна выратаваны ад разбурэння абразы і скульптуры, што знаходзіліся ў вельмі цяжкім стане.
У 1980 годзе Міністэрствам культуры быў зацверджаны аддзел старажытнабеларускага мастацтва, на які быў ускладзены абавязак выяўлення і рэгістрацыі рухомых помнікаў на тэрыторыі Беларусі.
Экспедыцыі пад кіраўніцтвам Ірыны Паньшынай і Таццяны Сцёпінай з супрацоўнікамі Аленай Сянькевіч, Валянцінай Пісарэнка займаліся пошукамі прадметаў народнага мастацтва. Гэта адзенне, ручнікі, абрусы, дэкаратыўныя тканіны з розных рэгіёнаў Беларусі. Прывезеныя з навуковых экспедыцый прадметы экспанаваліся ў філіяле — Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах. У 1983 годзе выстава «Беларускія народныя тканіны» была паказана ў Ленінградзе і Іванаве, у 1984-м — у Каўнасе.
Супрацоўнікі навуковых аддзелаў вывучалі музейныя прадметы, займаліся атрыбуцыяй, працавалі над каталогамі калекцый. Гэты перыяд адзначаны істотнай актывізацыяй выдавецкай дзейнасці музея. У якасці прыкладу можна прывесці альбомы «Дзяржаўны мастацкі музей БССР»


5.


6.

1. Уладзімір Стэльмашонак. Слова аб Беларусі. Алей. 1972.
2. Юрый Карачун.
3. Аляксандр Кішчанка. Паводка. Алей. 1980.
4. Барыс Казакоў. Снежань. Алей. 1980.
5. Георгій Паплаўскі. Ілюстрацыя да паэмы Янкі Купалы «Яна і я». Афорт. 1979.
6. Леў Гумілеўскі. Крылатая. Медзь. 1973.

(укладальнікі Пётр Герасімовіч, Алена Рэсіна), «Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Збор жывапісу XV–XX стагоддзяў» (укладальнікі Надзея Высоцкая, Таісія Карповіч, Тамара Карандашава, Ірына Паньшына), «Музей беларускага народнага мастацтва» (укладальнік Ірына Паньшына), «Музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі» (укладальнік Юрый Карачун).

У 1970–1980-я ў музеі працаваў «Лекторый выхаднога дня», які карыстаўся вялікай папулярнасцю. Для дзіцячай аўдыторыі былі распрацаваны такія лекцыі, як «7 цудаў свету», «Мастацтва Старажытнага Егіпта», «Мастацтва Старажытнай Грэцыі» і іншыя. Для дарослых чыталіся цыклы лекцый па гісторыі заходнееўрапейскага мастацтва, беларускага і рускага мастацтва, а таксама манаграфічныя, напрыклад «Вядучыя майстры выяўленчага мастацтва». Часта жадаючых паслухаць лекцыю было так шмат, што лекцыйная зала не магла змясціць усіх. Тады праз тыдзень гэтую тэму паўтаралі.

У 1980-я ў музеі праходзілі вечары класічнай музыкі, для якіх у вестыбюлі ўладкоўваліся невялікія выставы, блізкія па тэме да выкананых музычных твораў. Часта выступаў Квартэт Саюза кампазітараў БССР.

Музейная калекцыя расла, пашыраўся штат музея. У 1977 годзе ўвялі пасаду вучонага сакратара, на якую была прызначана Надзея Высоцкая, у 1979 годзе яе змяніла Святлана Кітаніна.

З 1975 года змяніўся аддзел уліку і захоўвання. Да гэтага часу за ўсе музейныя экспанаты адказваў галоўны захавальнік Аляксандр Сакалоў. Зараз з'явіліся навуковыя супрацоўнікі – захавальнікі асобных калекцый: захавальнік скульптуры і беларускага жывапісу Аліса Наркевіч, рускага і замежнага жывапісу і графікі, а таксама старажытнабеларускага жывапісу – Алена Шапашнікава, беларускай графікі – Таццяна Акушэвіч, дэкаратыўна-прыкладнога і народнага мастацтва – Таісія Капыльская (праз некалькі гадоў яе змяніла Наталля Калашнік, якая захоўвае частку гэтай калекцыі дагэтуль).

Памяшканні для захоўвання музейных прадметаў ужо не маглі змясціць усе экспанаты. Прыйшлося зачыняць экспазіцыйныя залы першага паверха, дзе выстаўляліся творы беларускіх мастакоў XX стагоддзя, і пераабсталяваць іх пад сховішчы. Экспазіцыя беларускага мастацтва размясцілася на галерэі музея. Акрамя таго, у філіяле «Мазырская карцінная галерэя ў в. Гурыны» была адкрыта пастаянная экспазіцыя беларускага мастацтва 1940–1980-х, якая паказвала асноўныя тэндэнцыі яго развіцця. Там было прадстаўлена 129 твораў жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Да сярэдзіны 1980-х наспела вострая неабходнасць пашырэння экспазіцыйнай прасторы музея. Для вырашэння гэтай праблемы па распараджэнні Савета Міністраў БССР пачалася распрацоўка праекта прыбудовы да Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

# Храм **мастацтва** vs. культурны мол



Кацярына Ізафатава

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ — НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ АДЗІНЫ МУЗЕЙ, ЯКІ ПАКАЗВАЕ ТЫСЯЧАГАДОВУЮ ГІСТОРЫЮ, ПАЧЫНАЮЧЫ З КАЛЕКЦЫІ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА XII—XVIII СТАГОДДЗЯЎ І ЗАВЯРШАЮЧЫ ПРЭЗЕНТАЦЫЯЙ ТВОРАЎ XXI СТАГОДДЗЯ. ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ ІНСТЫТУЦЫЯ, ДЗЕ ЗАХОЎВАЕЦЦА І ПРАДСТАЎЛЯЕЦЦА ПУБЛІЦЫ КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА, АЛЕ І МУЗЕЙ НОВАГА ТЫПУ — САПРАЎДНЫ КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР, ШТО РЭАЛІЗУЕ ФУНКЦЫІ МНОГІХ ІНШЫХ САЦЫЯКУЛЬТУРНЫХ ІНСТЫТУТАЎ.

Трансфармацыя сацыякультурнай рэальнасці перыяду перабудовы, распад Савецкага Саюза, здабыццё суверэнітэту Рэспублікай Беларусь у 1991 годзе адзначылі новы этап і ў музейным развіцці. Пры знешніх неспрыяльных абставінах стагнацыі ў эканамічнай і вытворчай сферах, якая пацягнула за сабой скарачэнне бюджэтнага фінансавання, рэзкае скарачэнне колькасці наведвальнікаў (больш чым у два разы: 1989 г. — 216 899, 1992 г. — 86 959), гэты перыяд пазначаны шэрагам станоўчых момантаў, што тычацца зменаў у агульнай канцэпцыі развіцця музейнай справы. Адна з галоўных ідэй развіцця грамадскай свядомасці гэтага часу — пытанне нацыянальнай культурнай самаідэнтыфікацыі, усвядомленай неабходнасці зразумець сябе ў межах сваёй культуры — стала краевугольным каменем і музейнай работы. Перамены ва ўсіх сферах паставілі перад музеем задачу дэідэалагізацыі, вяртання з забыцця імёнаў мастакоў, з вядомых прычын вынесеных на перыферыю грамадскай увагі, стварэння інтэгральнай карціны беларускага мастацтва XX стагоддзя.

Зварот да нацыянальнай спадчыны выявіўся на розных узроўнях — ад выставачнай дзейнасці, навуковых даследаванняў, асветніцкай работы да рэстаўрацыі і музеефікацыі архітэктурных помнікаў. Гучным акордам у рэалізацыі нацыянальна арыентаванага комплексу ідэй стала пастанова Савета Міністраў ад 30 лістапада 1993 года, згодна з якой музей атрымаў сваю трэцюю назву — Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

Урачыстае адкрыццё ў 1992 годзе экспазіцыі паўднёва-заходняй вежы Мірскага замка — помніка, узятага на баланс Дзяржаўнага мастацкага музея БССР яшчэ ў 1987 годзе з ініцыятывы дырэктара музея Юрыя Карачуна, —


1.

выставы мастакоў і мастачак замежжа: Галіны Русак (ЗША), Мікалая Пашкевіча (ЗША), Тамары Стагановіч «Амерыка – мая Амерыка» (ЗША), Яна Кузьміцкага (Швецыя), Галіны Дакальскай (ЗША), Ірэны Рагалевіч-Дутко(ЗША), Надзеі Кудасавай (ЗША), Янкі Славенюка. Павышаная цікавасць да традыцый этнакультуры абумовіла арганізацыю ў 1994 годзе Першай нацыянальнай выставы самабытных народных мастакоў «Мастацтва-INSITUS» пад куратарствам Вольгі Лабачэўскай і Людмілы Вакар.
Далейшы працэс адкрыцця забытых і невядомых старонак беларускай культуры быў звязаны з актуалізацыяй імені вялікага авангардыста, ураджэнца Віцебска Марка Шагала. У 1997 годзе адбылася першая сустрэча беларускага гледача з мастацтвам майстра, калі яго нашчадкі – унучкі Бэла і Мерэт Меер – прапанавалі адзначыць дзень нараджэння майстра (6 ліпеня 1887 года) у Беларусі выставамі яго работ. Услед за выставай «Марк Шагал. Творы міжземнаморскага перыяду. Гуашы, акварэлі, літаграфіі. 1949–1985» 1997 года былі зладжаны праекты «Марк Шагал. Прысвячэнне Парыжу» (2000),


2.

мела велізарнае сімвалічнае значэнне ў працэсе станаўлення незалежнай дзяржавы. У вежы былі выстаўлены помнікі, знойдзеныя падчас археалагічных даследаванняў, рэчы, падораныя парафіянамі, спецыяльна выробленыя рэканструкцыі зброі, кафля, кераміка і шкло, графіка рэканструкцый фасадаў замка. Экспазіцыя рыхтавалася пад куратарствам загадчыцы старажытнабеларускага аддзела Надзеі Высоцкай, архітэктара Дзмітрыя Бубноўскага, загадчыка аддзела «Мірскі замак» Эдварда Далінскага. У 1995 годзе да знамянальнай даты – 500-гадовага юбілею першай згадкі ў летапісах мястэчка Мір – была адкрыта Цэнтральная, або Уязная, вежа, ярусы якой выкарыстоўваліся як выставачныя памяшканні. Ажыццяўленне сур'ёзных крокаў па рэканструкцыі Мірскага замка садзейнічала таму, што ў 2000 годзе замкавы комплекс быў унесены ў Спіс помнікаў сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА.
Актыўная рэактуалізацыя забытых і невядомых старонак беларускай культуры і мастацтва адбілася і ў выставачнай дзейнасці музея, у мастацкую прастору ўрываецца магутны струмень вернутай спадчыны – творчасці беларусаў свету. У перыяд 1992–1996 гг. адбыліся персанальныя і калектыўныя

«Марк Шагал. Пейзажы» (2002), «Марк Шагал і сцэна» (2004). Творы Марка Шагала (15 літаграфій) былі паказаны на выставе «Марк Шагал і мастакі еўрапейскага авангарду» з калекцыі Музея Марка Шагала ў Віцебску ў 2010 годзе. Працягнула традыцыю знаёмства з наробкам вялікага майстра ў сценах Мастацкага ў 2012 годзе выстава «Марк Шагал: жыццё і каханне» з калекцыі Музея Ізраіля (Іерусалім). У гэтым жа годзе ў сценах НММ у рамках выставы «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі. З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, музейных і прыватных збораў» адбылося знаёмства гледачоў з мастакамі з беларускімі каранямі, якія перасяліліся ў пачатку XX стагоддзя ў Парыж і склалі ядро знакамітай Парыжскай школы, – Хаімам Суціным, Мішэлем Кікоіным, Пінхусам Крэменем, Восіпам Любічам, Сэмам Царфіным і інш. З вялікім поспехам у 2010 годзе прайшла выстава беларускага і французскага жывапісца, графіка і скульптара Барыса Заборава. Такім чынам, гісторыя беларускага мастацтва стала выглядаць значна больш разнастайнай і не такой аднароднай, якой яна падавалася да 1980-х.
Інтэнсіфікацыя выставачнай дзейнасці была звязаная і з прыходам у мастацтва новага пакалення аўтараў. На працягу некалькіх гадоў пад куратарствам


3.

загадчыцы аддзела сучаснага беларускага мастацтва Вольгі Каваленка захоўвалася традыцыя дэманстрацыі творчасці маладых таленавітых эксперыментатараў. У рамках выставачных праектаў «На галерэі» гледачы пазнаёміліся з творчасцю Наталлі Залознай, Ігара Цішына, Андрэя Задорына, Руслана Вашкевіча, Аляксандра Вахрамеева, Уладзіміра Цэслера, Сяргея Войчанкі, Юрыя Дарашкевіча і інш.

Важнай задачай у працы музея з'яўлялася арганізацыя і правядзенне міжнародных выставачных праектаў, знаёмства беларусаў і гасцей сталіцы з замежнымі мастакамі. За гэтыя гады ў музеі прайшлі персанальныя выставы Дэвіда Хокні (1994), Макса Эрнста (1998), калектыўныя выставы нямецкіх неаэкспрэсіяністаў Карла Хёрста Хедыке, Ёрга Імендорфа, Хельмута Мідэндорфа, Саламэ, Маркуса Люперца (1994), сучасных французскіх графікаў Андрэ Масона і Раберта Мата (1994), брытанскіх скульптараў (1993). Гэтая традыцыя працягваецца і сёння. За апошнія 10 гадоў у музеі адбыліся выставы такіх яркіх імёнаў сусветнага мастацтва, як Рэмбрант, Франсіска Гоя, Ніко Пірасмані, Пабла Пікаса, Эрнст Барлах, Кётэ Кольвіц, Сальвадор Далі і інш.

Разам са значнымі праектамі калектыў музея працуе і над невялікімі і персанальнымі выставамі беларускіх мастакоў, якія не менш важныя для нас; музей прадстаўляе свае творы на выставах у рэгіянальных музеях, арганізуе ўнікальныя выставы за мяжой. Апошнім часам стратэгія выставачнай дзейнасці сканцэнтравалася і на прэзентацыі нашых найбагацейшых калекцый беларускага, рускага і замежнага мастацтва, асабліва ўлічваючы той факт, што ў пастаяннай экспазіцыі прадстаўлена толькі каля 4% збору. Таму адной з галоўных мэт апошніх гадоў стала стварэнне буйных тэматычных выставачных праектаў, якія дэманструюць нашы фонды і аб'ядноўваюць нашы калекцыі, як напрыклад, у 2016 — «Мастацтва суверэннай Беларусі»; у 2017 — «Горад. Архітэктура. Мы», прысвечаны 950-годдзю Мінска; у 2018 — «RELAX, або 6 практык расслаблення вачыма мастакоў», «Сучаснікі ХХ. Стагоддзе беларускага партрэта», «Equos. Коń. Лошадь»; у 2019 — «Гульні. Игры. Games» (прысвечаны ІІ Еўрапейскім гульням у Мінску) і многія іншыя.

Змены ў музеі закранулі таксама і сферу навукова-асветніцкай работы. Побач з класічнымі формамі (экскурсіі аглядныя і тэматычныя) знаёмства наведвальнікаў з калекцыямі музея з'явіліся інавацыйныя, у іх аснове ляжалі інтэрактыўныя, тэатралізаваныя і забаўляльныя падыходы. Ментарская місія пачала адыходзіць на другі план, саступаючы дарогу місіі партнёрства — уменню весці культурны дыялог, што стварае новую камунікатыўна-пазнавальную супольнасць у музейнай прасторы.

Першым крокам у развіцці музея як камунікацыйнай сістэмы стала стварэнне ў 1991 годзе клуба для дашкольнікаў і іх бацькоў «У госці да Цюбіка» (кіраўніца Вольга Брыгадная). У рабоце студыі з першых дзён яе існавання пачалі выкарыстоўвацца інтэрактыўныя формы працы: гутаркі на тэмы мастацтва ў форме дыялогу, адлюстраванне на паперы ўражанняў адразу пасля абмеркавання, пераўвасабленне ў герояў карцін, тактыльнае вывучэнне помнікаў архітэктуры ў паездках па Беларусі. Назапашаны вопыт неаднаразова прадстаўляўся на рэспубліканскіх і міжнародных семінарах.

З 2006 года ў Нацыянальным мастацкім музеі пачаў працаваць сектар музейнай педагогікі. Пад кіраўніцтвам загадчыцы сектара Надзеі Красуцкай


4.


5.



6.

(аўтарка і навуковая кіраўніца) было распрацавана і ўкаранёна больш за 20 музейных камунікатыўных праграм для дзяцей і моладзі, што стала асновай сённяшняй шырокай дзейнасці музея па рабоце з маладымі людзьмі. Праграмы падзяляюцца на культурна-адукацыйныя і забаўляльныя і рэалізуюцца ў разнастайных формах: тэматычных сустрэчах, сямейных імпрэзах, вясельных музейных падарожжах, свецкіх візітах у сядзібу Ваньковічаў. Рэалізацыя гэтых праектаў выявіла каштоўнасць дыялогу ў музейнай прасторы, дазволіла пераставіць акцэнты з вучэбна-інфармацыйных адукацыйных падыходаў на новыя спосабы спасціжэння мастацкай культуры, заснаваныя на суперажыванні, далучэнні, пераадкрыцці, саўдзеле, увасабленні.

У 2005 годзе музей прыняў ініцыятыву Міністэрства культуры і камунікацыі Францыі па правядзенні міжнароднай акцыі «Ноч музеяў» і першым у краіне запрасіў мінчан і гасцей паўдзельнічаць у арт-эксперыменце, які стаў штогадовай самай папулярнай акцыяй, разлічанай на моладзь.

Жаданне адпавядаць запытам наведвальніка прывяло сёння да ўкаранення ў музейную практыку правядзення святочных калядных і навагодніх мерапрыемстваў, такіх экзатычных форм, як медытацыі ў музеі, прагляды мастацкіх фільмаў з абмеркаваннем, канцэрты, паказы мод, паказы тэатральных пастановак, арт-праекты, якія аб'ядноўваюць розныя віды мастацтва: напрыклад, «Чатыры вымярэнні», музычныя калядныя вечары, майстар-класы, начныя экскурсіі і г.д.

Забаўляльныя формы музейна-педагагічнай работы ахопліваюць шырокі спектр аўдыторыі, у тым ліку і гледачоў з інваліднасцю. Фарміраванне безбар'ернага асяроддзя стала прыярытэтнай задачай музея ў ХХІ стагоддзі. Стварэнне пандусаў, актыўнае выкарыстанне ліфтаў, а таксама набыццё новага абсталявання: пад'ёмніка для вазочнікаў, які з'явіўся ў рамках Праграмы Урада Японіі «Карані травы — грантавая дапамога для праектаў у сферы культуры і спорту», дазволіла рэзка павялічыць наведванне нашага музея людзьмі з інваліднасцю на вазках.

Пачынаючы з 2003 года ў музеі пачалі актыўна рэалізоўвацца інклюзіўныя праекты, накіраваныя на прыцягненне людзей з інваліднасцю ў сферу музея, а менавіта — цыкл заняткаў для дзяцей са слабым слыхам «Крок насустрач» (2003—2005), штогадовыя тактыльныя выставы і інклюзіўныя фэсты, выставы аўтараў з інваліднасцю, аўдыядэскрыпцыя некалькіх карцін для наведвальнікаў са слабым зрокам (2015), відэасурдагід «Карціны, якія ажылі» для людзей са слабым слыхам (2016—2019). У 2017—2019 гадах у музеі і яго філіялах (у тым ліку і Магілёве) былі праведзены чатыры эксперыментальныя міжнародныя Лабараторыі са шведскай грамадскай арганізацыяй «ShareMusic @ PerformigArts», іх мэта — прывабіць маладых людзей з інваліднасцю, дасягнуць «пражывання» твора мастацтва праз музейны перформанс.

Законы рынку, новая сацыяльна-культурная прастора грамадства масавага спажывання абумовілі і з'яўленне ў такой кансерватыўнай установе, як музей, цалкам новых форм дыялогу з гледачом, якія носяць характар прыемнага і забаўляльнага вольнага часу. У музейных залах стала магчымым убачыць вясельныя працэсіі, правесці карпаратыўны банкет, арганізаваць фотасесію або зняць відэакліп. Але сітуацыя сёння такая, што музей павінен і абавязаны зарабляць грошы, мусіць, як майстэрскі канатаходзец, балансаваць на мяжы паміж традыцыйным прадстаўленнем «храма мастацтва» і музеем-забавай, гэткім молам культуры.

Суцяшае тое, што так робіцца ва ўсім свеце. Бо дзякуючы гэтаму напрацоўваюцца кантакты, з'яўляецца спонсарская дапамога і папаўняецца збор. Асабліва важным гэта стала ў апошні час, калі існуючая сістэма фінансавання дзяржаўных музеяў не прадугледжвае выдзялення аб'ёму сродкаў, неабходных для паўнавартаснага папаўнення калекцыі. Важны фактар у гэтай сітуацыі — дары саміх мастакоў і іх сваякоў, дыпламатаў, выдавецтваў, калекцыянераў, перадачы мытнага камітэта і іншых арганізацый.

З 1991 года музей атрымаў у дар больш за 5000 прадметаў, што складае каля 30 % ад агульнай колькасці твораў, якія паступілі ў збор. Сярод найбольш значных былі два абразы «Маці Божай Адзігітрыі» XVIII стагоддзя і «Хрыста Уседзяржыцеля» 1861 года ад жыхара Мінска Леаніда Новака ў 2012 годзе; пейзажа «К вясне» (1943) класіка беларускага пейзажнага жывапісу Вітоль-

да Бялыніцкага-Бірулі ад Н.А. Кузьміной; двух акватынтаў Марка Шагала ад Белгазпрамбанка; палотнаў Сэма Царфіна з сямейнай калекцыі яго ўнука Іва Дзюлака; дваццаці адной аўталітаграфіі Роберта Геніна ад прыватных калекцыянераў з Санкт-Пецярбурга Аляксея і Марыны Радзівонавых; 290 работ вядомага графіка Анатоля Каплана ад нямецкіх калекцыянераў і сяброў майстра Рудольфа Маера і Анналізы Маер-Мейнчэль; твораў мастакоў Парыжскай школы Мішэля Кікоіна, Восіпа Любіча, Надзі Хадасевіч-Лежэ, Пінхуса Крэменя ад Ганаровага консула Рэспублікі Беларусь у Лазане Андрэя Нажэскіна; твораў Барыса Заборава ад Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Самы вялікі ўклад у гісторыю музейнай калекцыі тыражнай графікі ажыццявіў у 2011 годзе вядомы друкар Беларускага саюза мастакоў Дзмітрый Малаткоў, які падарыў музею сваю асабістую калекцыю — 887 эстампаў сучасных беларускіх, расійскіх і еўрапейскіх графікаў. Каштоўнымі дарамі сталі і цэлыя манаграфічныя калекцыі, перададзеныя мастакамі Аляксандрам Салаўёвым, Уладзімірам Правідохіным, Аляксандрам Мемусам, Феліксам Гуменам і іншымі.

У працэсе папаўнення калекцыі варта канстатаваць і некаторыя сумныя факты. У прыватнасці, на сённяшні дзень у зборы музея адсутнічаюць шматлікія важныя мастацкія творы класікаў сусветнай велічыні, ураджэнцаў Беларусі (жывапіс Марка Шагала, творы Хаіма Суціна, скульптуры Восіпа Цадкіна), і савецкага перыяду (ніводнай работы народнага мастака СССР Яўсея Майсеенкі), а таксама працы сучасных мастакоў перыяду «другога авангарда», або андэграўнду 1980-х. У калекцыі няма работ Артура Клінава, Віктара Пятрова, Валерыя Мартынчыка, Уладзіміра Акулава, Аляксея Жданава, твораў позняга перыяду творчасці Ізраіля Басава і многіх іншых аб'ектаў. Аказалася, што каласальны пласт айчыннага выяўленчага мастацтва апынуўся выключаным з кантэксту натуральнай канвы яго гісторыі па агульнавядомых гістарычных абставінах, якія гэтаму спрыялі. Вызначэнне пазіцый НММ наконт мастацтва нонканфармізму адбылося са спазненнем прыкладна на трыццаць гадоў. Часткова папоўніць лакуны сёння дапамагаюць самі мастакі-нонканфармісты. Так, за апошнія гады наша калекцыя папоўнілася творамі Віталя Чарнабрысава, Уладзіміра Лапо, Аляксандра Малея, Уладзіміра Адамчыка (Адама Глобуса), Валерыя Песіна, Аляксандра Дасужава, Уладзіміра Цэслера.

Іншай, не менш важнай для Нацыянальнага мастацкага музея праблемай з'яўляецца набыццё работ сучасных, актуальных майстроў. Нягледзячы на тое што ў арт-супольнасці часта гучаць папрокі ў кансерватыўнасці, закрытасці музея для сучаснага мастацтва, мы ўсведамляем, што ў нашы дні важна паказаць не толькі гісторыю мастацтва, але і тэндэнцыі, павароты, плыні сённяшняга дня. Цяпер час збіраць іх працы, паколькі сёння пераход з катэгорыі «сучаснае мастацтва» ў катэгорыю «класіка» ажыццяўляецца вельмі хутка ў параўнанні з іншымі эпохамі. Аднак яшчэ не выпрацавана стратэгія, па якіх крытэрыях закупляць актуальнае мастацтва за дзяржаўныя грошы. Таму фарміраваць дадзеную калекцыю можна па новай добрай традыцыі: мастакі могуць падарыць нам свой твор. У 2018 годзе такі жэст зрабіў Захар Кудзін. Мастакі ўсведамляюць, наколькі важна, каб іх працы былі ў Нацыянальным музеі, паколькі цяпер зразумела, што contemporary art можа цудоўна жыць і на базе вялікіх музеяў. Спадзяемся, што, калі ў наступным годзе пачне сваю працу новы корпус музея па вуліцы Карла Маркса, гэты напрамак будзе развівацца ў поўнай меры. Бо, адказваючы на выклікі часу і запыты сучаснага наведвальніка, вылучэнне пэўнай квоты мастацкай практыкі сённяшняга дня ў класічным музеі стала ўжо нормай у нашых суседзяў.

Неабходна адзначыць, што музей мяняўся і мяняецца на працягу гэтых некалькіх дзесяцігоддзяў не толькі канцэптуальна, але і фізічна. Ёсць пэўная сімвалічнасць, што жыццё музея ў перыяд незалежнасці Беларусі пачалося з узвядзення новага будынка. Да канца 1980-х ужо востра стаяла пытанне аб пашырэнні экспазіцыйных плошчаў, стварэнні прыбудовы да будынка музея. Важнай праблемай стала разрастанне калекцый, з прычыны чаго першы паверх галоўнага корпуса (дзе сёння рэалізуюцца буйныя выставачныя праекты) стаў па сутнасці запаснікам. У 1989 годзе музею быў перададзены будынак па вуліцы Кірава, 25, дзе размясціліся лекторый і навуковыя аддзелы. У 1993 годзе пачалося будаўніцтва новага корпуса музея — прыбудовы да


7.


8.

асноўнага будынка. У 1999 годзе для адміністрацыйнай службы быў перададзены будынак па вуліцы Леніна, 22. Чатырохпавярховы корпус прыбудовы, завершаны ў 2006 годзе, дазволіў значна пашырыць пастаянныя экспазіцыі, а таксама выдаліць з экспазіцыйнай залы першага паверха асноўнага корпуса фондасховішчы ў сучасны дэпазітарый. Старажытнабеларускае мастацтва, мастацтва Заходняй Еўропы, мастацтва краін Усходу і беларускае мастацтва XX–XXI стст. размясціліся ў будынку з найноўшымі тэхналогіямі: клімат-кантролем, святлом і г.д.

Праграма па перадачы музею дадатковых будынкаў працягнулася і ў XXI стагоддзі: у 2010 годзе быў аддадзены будынак па вул. Карла Маркса, 24. І як вынік – музей атрымаў новы архітэктурны пейзаж, які ўжо зараз называюць «Музейным кварталам». Цяпер ідзе актыўнае ўзвядзенне новых будынкаў, у музея з'явяцца дадатковыя выставачныя плошчы і Цэнтр рэстаўрацыі (майстэрні), памяшканні для асветніцкай работы і фоталабараторыі, сувенірная крама, артыстычная кавярня. Усё гэта выдатныя і патрэбныя нававўвядзенні.

Ёсць у нас і паралельны варыянт пашырэння прасторы музея, арыентаваны на іншы тып аўдыторыі – віртуальны, бо вельмі вялікая колькасць наведвальнікаў заходзяць на электронны сайт музея, які ўвесь час папаўняецца інфармацыяй, віртуальнымі экскурсіямі і выставамі і многім іншым. За апошнія гады рэзка ўзрасла колькасць людзей, якія камунікуюць з музеем дзякуючы яго прысутнасці ў Instagram, Facebook, Telegram, Twitter, «Вконтакте», што выводзіць яго дзейнасць у новую прастору.

Сёння музей стаў не толькі выставачнай пляцоўкай, але культурна-адукацыйным, забаўляльным цэнтрам, арыентаваным на розную аўдыторыю, эксперыментальнай лабараторыяй для сумежных дысцыплін – тэатра, дызайну, музыкі і кіно, месцам прафесійнага росту творчай моладзі, папулярызатарам нацыянальнай культуры за мяжой. Ён імкнецца прыцягваць, забаўляць, інфармаваць, быць прыемным, прывабным і модным месцам сустрэчы і ў той жа час захоўваць высокі культурны статус. Аб нарошчванні «абаротаў» за апошні час сведчыць не толькі разнастайнасць дадатковых мерапрыемстваў і паслуг, але і пастаянны рост колькасці наведвальнікаў. Мы разумеем, што музей пачынае адыгрываць усё больш прыкметную сацыяльную ролю, ператвараючыся ў месца прыцягнення вялікіх мас людзей і месца іх эмацыянальнай, эстэтычнай і грамадскай адукацыі. Наша задача сёння складаецца ў падтрымцы разумення музея як комплекснага, міждысцыплінарнага феномену, які, па словах Аляксандра Дорнера, уяўляе з сябе Kraftwerk – свайго роду электрастанцыю, здольную дынамічна рэагаваць на зменлівыя запыты. М

**1. Фрагмент экспазіцыі «Эрнст Барлах – Кётэ Кольвіц. Пераадольваючы існаванне». 2017.**
**2. Барыс Забораў. Дзяўчына ў прасторы. Палатно, акрылік. 1993.**
**3. Захар Кудзін. Untitled. Акрыл. 2017.**
**4. Уладзімір Ганчарук. Укрыжаванне. Алей. 1993.**
**5. Уладзімір Лапо. №9. Алей. 1990.**
**6. Фрагмент экспазіцыі «Ізраіль Басаў. Прамудрасць збудавала сабе дом».**
**7. Інклюзіўны фестываль дзіцячай творчасці «Асаблівы сусвет». 2015.**
**8. Праца над экскурсіяй на мове жэстаў са студэнтамі БДАМ з парушэннямі слыху. 2018.**
**9. Праект «Чатыры вымярэнні».**

9.

# Музей-сядзіба **«Дом Ваньковічаў»**

**Святлана Яцэвіч**

МУЗЕІ-СЯДЗІБЫ АДРОЗНІВАЮЦЦА АД ІНШЫХ УСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ, БО Ў ІХ ПАДПАРАДКАВАННІ ЗНАХОДЗЯЦЦА НЕ ТОЛЬКІ МУЗЕЙНЫЯ ПРАДМЕТЫ І КАЛЕКЦЫІ, АЛЕ І НЕРУХОМЫЯ АБ'ЕКТЫ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ. ПАВОДЛЕ СВАІХ ФУНКЦЫЙ МУЗЕІ-СЯДЗІБЫ ЗАКЛІКАНЫ ЗАХОЎВАЦЬ І ЎЛАСНА ГІСТАРЫЧНУЮ ТЭРЫТОРЫЮ, У ТЫМ ЛІКУ КУЛЬТУРНЫЯ І ПРЫРОДНЫЯ ЛАНДШАФТЫ, ГАРАДСКІЯ І СЕЛЬСКІЯ ПАСЕЛІШЧЫ, УКЛАД ЖЫЦЦЯ НАСЕЛЬНІЦТВА, ЯКОЕ ЖЫВЕ НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ.

1. Сядзіба Ваньковічаў. Фота 2009 года.
2. Генеалагічнае дрэва роду Ваньковічаў. 1828. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.
3. Гасцёўня.
4. Мерапрыемствы на адкрытай пляцоўцы на тэрыторыі сядзібы.
5. Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптурная кампазіцыя «Раніца мастака».

1.

Будаваліся сядзібы заўсёды з любоўю і надзеяй, што менавіта тут будуць жыць дзеці, унукі, праўнукі... Некаторым з іх было наканавана стаць самымі сапраўднымі радавымі гнёздамі са шматвяковай гісторыяй, іншым — домам толькі для аднаго пакалення сям'і.

Прадстаўнікі вядомых шляхецкіх родаў Беларусі — Ваньковічы, Агінскія, Радзівілы, Сапегі, Храптовічы, Чапскія — пакінулі пасля сябе ўнікальную спадчыну, былі збіральнікамі архіўных калекцый і карцінных галерэй, найбагацейшых бібліятэк.

Асаблівае месца ў гісторыі займае шляхецкі род Ваньковічаў. Прадстаўнікі роду далі краіне і свету каля 200 выбітных імён. Гэта былі не толькі дзяржаўныя служачыя, але і актыўныя грамадска-палітычныя дзеячы, дзеячы культуры і мастацтва, ваенныя, святары. Імёны выдатнага мастака Валенція Ваньковіча (1800–1842), а таксама пісьменніка і журналіста Мельхіёра Ваньковіча (1892–1974), у гонар якога названая Вышэйшая школа журналістыкі ў Варшаве, прынеслі роду сусветную вядомасць.

Ваньковічы ўнеслі значны ўклад і ў развіццё беларускай архітэктуры. Створаныя імі на тэрыторыі сучаснай Беларусі будынкі, для ўзвядзення якіх запрашаліся таленавітыя і вядомыя дойліды, з'яўляюцца помнікамі сядзібнай, ландшафтнай культуры і архітэктуры.

Сярод іх — філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь музей «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя», што знаходзіцца ў Мінску па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 33а. Ініцыятыва адкрыцця музея-сядзібы ў гарадской мяжы належала Юрыю Карачуну і Ірыне Паньшынай. Пасля працяглай рэканструкцыі залы музея адкрыліся для наведвальнікаў 25 мая 2000 года. Урачыстая падзея была прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння мастака Валенція Ваньковіча.

У аўтараў праекта была мэта адрадзіць сядзібу, зрабіць яе, як і ў XIX стагоддзі, цэнтрам музычнага і культурнага жыцця, якой яна была пры жыцці Эдварда Ваньковіча. У той час у сядзібе гасцявалі многія прадстаўнікі мінскай дваранскай інтэлігенцыі, збіраліся мастакі, музыканты. Дом Эдварда Ваньковіча наведваў яго блізкі сваяк кампазітар Станіслаў Манюшка. Тут часта гасцяваў пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Ваньковічы жылі ў сядзібе да 1920 года. Апошнім яе ўладальнікам быў унук Эдварда Пётр Ваньковіч, які эміграваў у Польшчу, пакінуўшы ўсю сваю маёмасць. У 1920-я ўсе будынкі сядзібы прыстасавалі пад камунальныя кватэры.



2.


5.

Будынкі ўтвараюць замкнёны парадны двор. Акрамя аднапавярховага панскага дома з мансардай і 8-калонным порцікам, у якім размяшчаецца музейная экспазіцыя, у комплекс уваходзяць і гаспадарчыя флігелі. Так, вялікая выцягнутая сядзіба — былая стайня і карэтная Ваньковічаў, флігель з порцікам на 4 калоны, дзе на першым паверсе знаходзілася кухня, а на другім — кватэра кіраўніка, флігель злева за домам — шкляная зімовая ацяплялъная аранжарэя. Цяпер на яе падмурку стаіць цагляны будынак. Раней сядзібу акружаў сад, а пад'язная алея да дома была абсаджана пірамідальнымі таполямі. Вялізны стары вяз у цэнтры музейнага двара — сведка многіх гістарычных падзей, што захаваўся да нашых дзён. Дэндролагі вызначылі ўзрост дрэва — яму больш за 100 гадоў. З 2010-га двор сядзібы ўпрыгожвае скульптурная кампазіцыя «Раніца мастака» работы Уладзіміра Слабодчыкава, які ўвекавечыў вобраз мастака-рамантыка Валенція Ваньковіча.

Паколькі сапраўднае абсталяванне дома Ваньковічаў не захавалася, прадстаўленыя ў музеі экспанаты — мэбля, люстры, дываны, гадзіннік, створаныя ў XVIII — першай палове XIX стагоддзя, перададзены з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

У мемарыяльных залах экспануюцца копіі архіўных дакументаў пра Валенція Ваньковіча, яго род, фатаграфіі, каляровыя рэпрадукцыі і жывапісныя копіі партрэтаў пэндзля мастака з калекцый Нацыянальнага музея ў Варшаве, Літоўскага мастацкага музея і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь (напрыклад, копія «Аўтапартрэта» Валенція Ваньковіча, каля 1840 года, выкананая польскім мастаком Рышардам Прымке ў 1990-м). Аднак сапраўдная каштоўнасць музейнай экспазіцыі — у прадстаўленых арыгінальных жывапісных творах мастакоў першай паловы XIX стагоддзя, сучаснікаў Валенція Ваньковіча. Партрэты «Аляксандр Манюшка» (1816) Яна Рустэма, «Марыя Міцкевіч» (1856) Тадэвуша Гарэцкага, «Зінаіда Дзівава» (1841) Ксаверыя Канеўскага; нацюрморты Івана Хруцкага (1830-я), карціны «Вербніца» (1847) Кануція Русецкага і «Павел I вызваляе Тадэвуша Касцюшку з турмы» (1824) Яна Дамеля, а таксама прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: кніжная шафа, люстра і мармуровыя гадзіннікі XVIII — пачатку XIX ст. Аднаўлена першапачатковая калідорна-анфіладная сістэма будынка і інтэр'еры некаторых памяшканняў у стылі ампір. Грунтуючыся на выяўленчым і літаратурным матэрыяле, атрымалася ўзнавіць абсталяванне кабінета, парадная гасцёўні, «чайнага» пакоя.

Напрыклад, у гасцёўні ўсе прадметы — творы мастацтва: наборнага дрэва камода і авальны столік, лямпа XIX стагоддзя, алебастравыя скульптуры «Дантэ Аліг'еры» працы італьянскага майстра пачатку XIX стагоддзя і «Амур і Псіхея» — свабодная рэпліка французскага скульптара сярэдзіны XIX стагоддзя са знакамітага твора Антоніа Кановы. Гэтая скульптурная група мае непасрэднае дачыненне да дома Ваньковічаў, бо была знойдзена ў зямлі на тэрыторыі сядзібы.

У астатніх пакоях панскага дома дэманструюцца разьбяная мэбля з каштоўных парод дрэва, крыштальныя люстры і кандэлябры, творы з фарфору, мармуровая скульптура і сядзібныя партрэты XVIII — першай паловы XIX стагоддзя. Прадметы, якія склалі музейную экспазіцыю, былі закуплены ў Санкт-Пецярбургу ў 1980—1990-х.

Партрэтная галерэя, хоць і не адносіцца непасрэдна да сям'і Ваньковічаў, уключае 20 сядзібных партрэтаў. Прадстаўнікі розных слаёў шляхты, ад магнатаў да дробнапамеснікаў, іх жонкі і дзеці назаўжды застылі на гэтых палотнах. Партрэты лагічна ўбудаваны ў канцэпцыю музея і істотна дапаўняюць уяўленне пра касцюм, прычоскі, побыт канца XVIII — першай паловы XIX ст.

Сёння музей «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя» працягвае культурныя традыцыі шляхецкай сядзібы. Тут праходзяць выставы, вечары старадаўняй, камернай, духоўнай музыкі, гучаць рамансы. Ладзяцца выступленні калектываў класічнай музыкі, прэзентацыі і канферэнцыі, творчыя сустрэчы з паэтамі, пісьменнікамі, мастакамі.

Мерапрыемствы ў музеі Ваньковічаў уяўляюць з сябе «свецкія вечары» для невялікага кола гасцей, з танцамі, салоннымі гульнямі, дэкламацыяй і іншымі забаўкамі, характэрнымі для той эпохі. Правілы этыкету, касцюмы, забавы ўзнаўляюцца на падставе навуковых даследаванняў, літаратурных і выяўленчых крыніц, знойдзеных у бібліятэках, музейных і архіўных зборах.

Канцэрты ў двары сядзібы, сямейная праграма «Калядкі ў Ваньковічаў», мерапрыемства «Чароўная ноч у Ваньковічаў», прымеркаванае да акцыі «Ноч музеяў», «Дзень нараджэння Валенція Ваньковіча» праводзяцца на адкрытым паветры на тэрыторыі сядзібнага комплексу

Дом Ваньковічаў стаў пляцоўкай і для міжнародных праектаў. Найбольш значныя з іх — выстава «Вобразы эпохі ў творах Чэслава і Станіслава Манюшкаў», прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння кампазітара; прэзентацыя серыі зборнікаў «Знакамітыя мінчане XIX–XX стст.»; прэзентацыя кнігі Сяргея Пясецкага «Гляну я ў аконца» з удзелам польскіх і беларускіх даследчыкаў жыцця і творчасці пісьменніка, арганізаваная сумесна з Польскім інстытутам у Мінску. Згадаем і музычна-творчы вечар «Дамейка ў Ваньковічаў», які быў зладжаны ў рамках візіту ў Рэспубліку Беларусь нашчадкаў Ігната Дамейкі — праўнучкі Пас Дамейка (аўтаркі кнігі «Ігнацы Дамейка: з Мядзведкі — у Сант'яга-дэ-Чылі»), яе дачкі і двух унукаў, адзін з якіх, Джэймс Дамейка, — музыкант.

Новыя камп'ютарныя тэхналогіі пашыраюць магчымасці музея. Віртуальная экскурсія з дакладным выкладам пра размяшчэнне залаў і экспанатаў дазваляе праводзіць заняткі ў розных аўдыторыях па-за сценамі музея. Наведвальнік можа самастойна пазнаёміцца з музеем, яго калекцыямі і родам Ваньковічаў з дапамогай інфармацыйнага кіёска.


3.


4.

# Музей беларускага народнага мастацтва ў **Раўбічах**

Дар'я Ільініч

1. Пастаянная экспазіцыя.
2. Від музея да рэстаўрацыі. 1976.
3. Фрагмент вітрыны з народнымі касцюмамі.
4. Царскія вароты. Брэсцкая вобласць, Пінскі раён, вёска Лемяшэвічы.
*Фота з архіва музея.*

1.

АДЗІНЫ Ў НАШАЙ КРАІНЕ МУЗЕЙ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА МАСТАЦТВА АДЧЫНІЎ ДЛЯ НАВЕДВАЛЬНІКАЎ СВАЕ ДЗВЕРЫ 12 СНЕЖНЯ 1979 ГОДА. ЁН БЫЎ СТВОРАНЫ ЯК ФІЛІЯЛ ДЗЯРЖАЎНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БССР ДЛЯ ДЭМАНСТРАЦЫІ ТВОРАЎ САМЫХ РАСПАЎСЮДЖАНЫХ НА БЕЛАРУСІ ВІДАЎ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА: САЛОМАПЛЯЦЕННЯ, ТКАЦТВА, ВЫШЫЎКІ, ГАНЧАРСТВА І РАЗЬБЫ ПА ДРЭВЕ. БАГАТА ЭКСПАНАТАЎ ЗНАХОДЗІЛАСЯ Ў ФОНДАСХОВІШЧАХ МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ, АЛЕ ВОЛЬНЫХ ПЛОШЧАЎ ДЛЯ НОВАЙ ЭКСПАЗІЦЫІ НЕ БЫЛО.


2.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага мастацкага Ірына Паньшына і Таццяна Сцёпіна прапанавалі прыстасаваць пад музей культавы будынак сярэдзіны XIX стагоддзя, размешчаны на тэрыторыі СК «Раўбічы». Гэтую прапанову ўхвалілі і адміністрацыя музея, і кіраўніцтва рэспублікі. 14 красавіка 1977 года быў выдадзены адпаведны ўказ Міністэрства культуры БССР.

Адкрыццю музея папярэднічала некалькі гадоў напружанай падрыхтоўчай працы: рабіўся тэматыка-экспазіцыйны план і падбіраліся экспанаты, вяліся работы па праектаванні інтэр'ера і музейнага абсталявання. Дзве групы архітэктараў, якія займаліся рэканструкцыяй будынка і праектаваннем абсталявання, а таксама музейныя спецыялісты, што працавалі над экспазіцыяй, знайшлі агульную мову. Гэта дазволіла стварыць музей, які з'яўляецца выдатным прыкладам сінтэзу архітэктуры, абсталявання і музейных экспанатаў.

Музейная мэбля, зробленая з дрэва, таніраванага пад мораны дуб, удала ўпісалася ў інтэр'ер. Асноўная частка вітрын прымыкае да сцен па перыметры залы. Побач, уздоўж самых доўгіх сцен, усталяваны два шэрагі вынасных вітрын. У цэнтры залы размясцілі шэраг дубовых лаў, упрыгожаных трохграннавыемчатай разьбой — самым старажытным відам народнай разьбы па дрэве. У інтэр'еры экспазіцыі лавы выконваюць не толькі дэкаратыўную функцыю. Памяшканне музея мае выдатную акустыку, што дазваляе праводзіць у зале музычныя канцэрты. Дапаўняюць мастацкі вобраз экспазіцыі рознакаляровыя вітражы і каваныя жырандолі, зробленыя па матывах крошынскай жырандолі Паўлюка Багрыма.

У асноўнай экспазіцыі, непасрэдна ў памяшканні былога культавага будынка, прадстаўлены творы звычайных беларускіх сялян, што разам з тым былі не зусім звычайнымі людзьмі. Яны валодалі выдатным мастацкім густам, адчуваннем характва, веданнем матэрыялу, з якім працавалі, і надзвычай высо-

кім узроўнем майстэрства. Гэтыя ўласцівасці дазволілі ім вырабляць рэчы, што праз сотні гадоў былі прызнаны не проста этнаграфічнымі экспанатамі, а ўзорамі беларускага народнага мастацтва. Экспазіцыя музея знаёміць наведвальнікаў не толькі з найлепшымі творамі народных майстроў, але і дазваляе візуальна прасачыць пераемнасць традыцый у народным мастацтве і этапы яго развіцця. Спрыяе гэтаму арыгінальнае размяшчэнне экспанатаў у вітрынах, дзе творы народнага мастацтва XVI – пачатку XX стст. знаходзяцца насупраць вітрын з вырабамі майстроў другой паловы XX ст.

Музей мае ўнікальную калекцыю саломапляцення, гэта гаспадарчыя рэчы другой паловы XIX – пачатку XX стст., якія плялі нашы продкі з саломы: шыяны, саламянікі, карабы, каробкі і інш. Хоць яны і ствараліся выключна для гаспадаркі, ды не пазбаўлены і своеасаблівай прывабнасці: вертыкальныя рыскі чырвонай лазы надзвычай гарманіруюць з гарызантальнымі жгутамі залацістай саломы. Побач з бытавымі рэчамі экспануюцца шэдэўры беларускага саломапляцення канца XVIII – пачатку XIX стст. – знакамітыя царскія вароты з вёсак Вавулічы і Лемяшэвічы, што на Брэстчыне. Гэтае суседства выдатна ілюструе мастацкія магчымасці такога простага і даступнага матэрыялу, як салома. Яе выкарыстоўвалі не толькі для пляцення гаспадарчага посуду, але і для вырабаў, якія займалі цэнтральнае месца ва ўрачыстых і ўзнёслых царкоўных інтэр'ерах. Насупраць – вітрыны з працамі майстроў беларускага саломапляцення другой паловы XX ст. (Вера Гаўрылюк, Кацярына Арцёменка, Ларыса Лось, Лідзія Главацкая і інш.). Творцы не толькі адрадзілі традыцыі папярэднікаў, але і ўзнялі беларускае саломапляценне на якасна новы ўзровень, узбагацілі яго новымі вобразамі, жанрамі і тэхнічнымі прыёмамі.


4.

Самым вялікім раздзелам экспазіцыі з'яўляецца ткацтва. Менавіта ў вырабе ручнікоў, посцілак, адзення і яго асобных элементаў найбольш яскрава выявіўся мастацкі густ беларусаў. У вялікай вітрыне, на месцы алтарнай часткі былога храма, экспануецца традыцыйнае беларускае святочнае адзенне. Тут прадстаўлены ў асноўным жаночыя вясельныя строі канца XIX – першай трэці XX стст. Геаграфічна яны ахопліваюць усе рэгіёны Беларусі і перадаюць рэгіянальныя асаблівасці беларускага традыцыйнага адзення. Нездарма яшчэ сто гадоў таму па тым, як чалавек апрануты, па размяшчэнні і ўзорах арнаменту, па асобных элементах касцюма беспамылкова вызначалі, з якой мясцовасці ён родам. Вясельныя строі разам з дэкаратыўнымі посцілкамі, саламяным корабам для адзення, агоўскім куфрам, калаўротам і калыскай, таксама прадстаўленымі ў вітрыне, ствараюць уражанне своеасаблівага параду рэчаў, што звычайна ўносіліся ў хату маладых у дзень вяселля. Дапаўняюць калекцыю ткацтва ручнікі з Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Ручнікі выконвалі найважнейшую ролю ў знакавых абрадах беларусаў і па разнастайнасці тэхнік ткацтва, арнаментыцы не саступалі традыцыйнаму святочнаму адзенню.


3.

Разьба па дрэве – яшчэ адна яскравая старонка ў беларускім народным мастацтве. Нашы продкі здаўна выкарыстоўвалі дрэва для вырабу як бытавых, так і культавых рэчаў.

У экспазіцыі Музея беларускага народнага мастацтва прадстаўлена драўлянае хатняе начынне і прылады працы, якія, у адрозненне ад большасці падобных рэчаў, мелі ўпрыгожанні: прасніцы, кошык, ступкі. Самым старажытным і адным з самых цікавых экспанатаў гэтага віду народнага мастацтва, безумоўна, з'яўляецца адзіны на Беларусі коўш-браціна, ён датуецца XVI ст. Асобна ад асноўнай экспазіцыі ў паўночным прытворы экспануецца культавая скульптура XVIII – пачатку XX стагоддзяў, выкананая сялянскімі майстрамі для вясковых храмаў і прыдарожных крыжоў. Тут жа можна ўбачыць і тры разныя царскія брамы.

Даволі поўна прадстаўлена ў музеі ганчарнае мастацтва. Калекцыя ўключае вырабы практычна ўсіх найбуйнейшых ганчарных цэнтраў Беларусі. Чорна-дымлёная кераміка з Пружанаў і Поразава, белагліняны посуд з Гарадной, фляндраваныя вырабы з Івянца яскрава сведчаць пра высокі ўзровень майстэрства беларускіх ганчароў. Усе экспанаты датуюцца XX стагоддзем, аднак, дзякуючы трываласці традыцый гэтага віду народнага мастацтва, па іх можна меркаваць, якім быў гліняны посуд і ў больш далёкім мінулым. Спарышы, гаршкі, глякі, збаны прадстаўлены ў музеі на фоне традыцыйных беларускіх ручнікоў і посцілак. Спалучэнне ў вітрынах ткацтва і ганчарства дазваляе ўбачыць, наколькі яны прыгожа глядзеліся побач у сялянскай хаце і як гарманічна ўпісваліся ў яе сціплы, але густоўны інтэр'ер.

На працягу свайго існавання Музей беларускага народнага мастацтва не толькі знаёміць наведвальнікаў з традыцыямі і дасягненнямі айчынных майстроў. Адразу пасля стварэння музея для папаўнення калекцый сталі ладзіцца экспедыцыі па зборы экспанатаў. Наяўнасць выставачнай залы ў адным з памяшканняў прыбудовы, зробленай з заходняга боку касцёла падчас рэстаўрацыі, дазволіла арганізоўваць паводле некаторых экспедыцый выставы-справаздачы: «Ткацтва і адзенне паўночна-ўсходніх раёнаў Магілёўшчыны», «Маларыцкае ткацтва», «Адзенне і ткацтва вёскі Моталь», «Івянецкая кераміка», «Мастацтва Ганцавіцкага раёна». Акрамя таго, у выставачнай зале паказваюць свае калекцыі іншыя музеі. Гэтыя выставы далі магчымасць наведвальнікам пазнаёміцца з народным мастацтвам не толькі Беларусі, але і Азербайджана, Літвы, Узбекістана, Украіны, Расіі, Эстоніі. Музей плённа супрацоўнічае з Саюзам майстроў народнай творчасці, праходзяць тут і персанальныя выставы сучасных аўтараў. Апроч выстаў, у Музеі беларускага народнага мастацтва ладзяцца канцэрты класічнай і народнай музыкі, праводзяцца мерапрыемствы, прымеркаваныя да традыцыйных беларускіх свят.

Нягледзячы на багаты і ўнікальны збор музея, яго сучасную дзейнасць ускладняюць некалькі праблем. Малы памер будынка і аддаленасць ад горада. Буйныя этнаграфічныя комплексы, якія знаходзяцца далей ад вялікіх гарадоў, але маюць унушальную плошчу, прываблівають наведвальнікаў як месца для адпачынку на цэлы дзень з магчымасцю змяніць род дзейнасці, пахарчавацца ды застацца на начлег. Суседства з Рэспубліканскім цэнтрам алімпійскай падрыхтоўкі па зімніх відах спорту «Раўбічы» не дазваляе музею ў поўнай меры ладзіць маштабныя мерапрыемствы для адпачынку. Таму сёння тут распрацаваны некалькі комплексных інтэрактыўных праграм, якія ўключаюць у сябе розныя віды дзейнасці. Напрыклад, экскурсія працягваецца майстар-класам і завяршаецца інтэрактыўнай лекцыяй за зёлкавай гарбатай. Такія праграмы даюць магчымасць правесці ў музеі шмат часу, атрымаць цікавую інфармацыю, карысныя навыкі і не стаміцца.

Музей беларускага народнага мастацтва натхняе вывучаць нашу традыцыйную культуру. Калекцыі ткацтва, саломапляцення, ганчарства і разьбы па дрэве дазваляюць прасачыць асноўныя этапы развіцця і пераемнасць традыцый у беларускім мастацтве, а выставы музея знаёмяць як з народным мастацтвам іншых краін, так і з працамі сучасных народных майстроў Беларусі. М

*Матэрыял створаны на замову Нацыянальнага агенцтва па турызме (www.belarustourism.by, www.belarus.travel)*



# Музей Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў **Магілёве**




Рашэнне аб адкрыцці ў Магілёве філіяла Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, прысвечанага найбуйнейшаму пейзажысту першай паловы ХХ стагоддзя, ураджэнцу Магілёўскай губерні Вітольду Каятанавічу Бялыніцкаму-Бірулю (1872—1957), прынятае ў 1977 годзе, было звязана з тым, што дом у маёнтку Крынкі каля Бялынічаў, дзе нарадзіўся мастак, не захаваўся. Для размяшчэння музея быў вызначаны двухпавярховы асабняк з мансардай — помнік архітэктуры позняга барока і ранняга класіцызму канца XVII — пачатку XVIII ст.

Па адной з версій, дом належаў магілёўскаму бурмістру Захару Анташкевічу, па другой — купцам Аношкам, прозвішча якіх вядома ў Магілёве з пачатку XVII ст. Прадстаўнікі роду згадваюцца ў магілёўскіх інвентарах на працягу некалькіх стагоддзяў як багатыя гандляры, яны шмат разоў выбіраліся членамі магістрата. Дакладна вядома, што губернскія ўлады далі гэты дом як адзін з лепшых у горадзе для пражывання аўстрыйскаму імператару Іосіфу II, які прыбыў у Магілёў для сустрэчы з расійскай імператрыцай Кацярынай II у маі 1780 года.

Пазней, з 1815 да 1917 года, у будынку размяшчаўся Магілёўскі дваранскі сход. З архіўных дакументаў вядома, што ў перыяд паміж 1804 і 1893 гадамі прадстаўнікі роду Бялыніцкага-Бірулі звярталіся ў Сход для пацвярджэння доказаў свайго шляхецтва. У дакументах згадваецца і Каятан Вітавіч, дзед мастака. З 1918-га і да акупацыі горада ў 1941-м у будынку знаходзілася гарадская цэнтральная бібліятэка імя Карла Маркса. Пасля вызвалення Магілёва ў 1944 годзе дом быў прадстаўлены педагагічнаму інстытуту і выкарыстоўваўся пад кватэры для выкладчыкаў. У 1978—1980-я адбывалася рэканструкцыя будынка, у ходзе якой быў надбудаваны трэці паверх.

Мемарыяльны музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі як філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР быў урачыста адкрыты 24 снежня 1982 года. Да часу яго стварэння мастацкі музей меў у сваіх фондах амаль пяцьсот жывапісных твораў Бялыніцкага-Бірулі, сабраных дырэктаркай Аленай Аладавай. У экспазіцыю магілёўскага музея ўвайшлі ўнікальныя экспанаты: прадметы пластыкі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мэбля, асабістыя рэчы жывапісца, перададзеныя яго ўдавой Аленай Аляксееўнай.



**Аляксандр Мараваў. Партрэт Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Алей. 1908.**

За 30-гадовы перыяд камунікацыі будынка прыйшлі ў непрыгоднасць, маральна і фізічна састарэла музейнае абсталяванне. У 2013-м пачаўся капітальны рамонт. У працэсе рэстаўрацыі захаваны структура і элементы канструкцый будынка, аднак унутраная прастора была пераасэнсавана з улікам спецыфікі сучаснага музейнага праектавання. На першым паверсе размясцілася выставачная зала для часовых экспазіцый, у сутарэнні — гардэроб, тэхнічныя і службовыя памяшканні. У залах другога паверха створана мемарыяльная экспазіцыя мастака. На трэцім паверсе — кабінеты супрацоўнікаў музея, службовае памяшканне і яшчэ адна выставачная зала.

Адкрыццё новай экспазіцыі адбылося 1 верасня 2018 года. Музей набыў сучасны дызайн, ва ўсіх залах былі ўстаноўленыя новая мэбля, мультымедыйнае абсталяванне, сістэма клімат-кантролю і пылаўлаўлівання, пандусы. Музейная прастора фармуе ў гледача разуменне характэр-



ных асаблівасцей мастацкага почырку Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, дае ўяўленне пра асноўныя этапы яго жыцця, якія прыйшліся на дзве эпохі — час існавання Расійскай імперыі і СССР. У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя творы Бялыніцкага-Бірулі — вялікія палотны і эцюды, асабістыя рэчы мастака, што знаходзіліся раней на яго дачы «Чайка» ў Цвярской губерні і ў маскоўскім доме, дакументы, узнагароды, работы пластыкі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Музей з утульным унутраным панадворкам стаў пляцоўкай для правядзення розных культурных мерапрыемстваў — фестываляў, канцэртаў, лекцый, майстар-класаў, тэатральных спектакляў, інтэрактыўных выставачных арт-праектаў («Хованкі», «Свет вачыма маладых») і інклюзіўных праграм, якія прыцягваюць месцічаў і гасцей горада.

Музейная пляцоўка стала месцам, дзе праводзяцца і канцэрты класічнай музыкі, і танцавальныя вечары, і кінасеансы шэдэўраў сусветнага кіно. Сёння музей Бялыніцкага-Бірулі — сапраўдны культурны і адукацыйны цэнтр з інтэрактыўным асяроддзем, ён адпавядае сусветным стандартам размяшчэння выставачных праектаў самага высокага ўзроўню. Музей шукае і знаходзіць новыя варыянты развіцця і ўдасканалення, фармуе эстэтычную дасканаласць і добры густ наведвальнікаў.

*Падрыхтавала*
*Святлана Строгіна.*



**г. Магілёў, вул. Ленінская, 37.**
**Час наведвання:**
**серада — нядзеля, 10:00 — 18:00**
**+375 (222) 65 02 03**

# Адкрыццё **сапраўднага**

**Кацярына Ісаева**

ДЗЕЙНАСЦЬ НАВУКОВА-РЭСТАЎРАЦЫЙНАГА АДДЗЕЛА НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З'ЯЎЛЯЕЦЦА АДНОЙ З НАЙВАЖНЕЙШЫХ У ЗАХАВАННІ РУХОМАЙ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ НАШАЙ КРАІНЫ. МАСТАКІ-РЭСТАЎРАТАРЫ ВЫКОНВАЮЦЬ АДКАЗНУЮ МІСІЮ, ВЯРТАЮЧЫ Ў НАВУКОВЫ І КУЛЬТУРНЫ КАНТЭКСТ ВЯЛІКУЮ КОЛЬКАСЦЬ ТВОРАЎ МАСТАЦТВА, ЗАХОЎВАЮЧЫ ІХ ДЛЯ НАШЧАДКАЎ. МЕНАВІТА КАРПАТЛІВАЯ ПРАЦА СУПРАЦОЎНІКАЎ АДДЗЕЛА ДАЗВАЛЯЕ МУЗЕЮ ВЕСЦІ АКТЫЎНУЮ ВЫСТАВАЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ, ЗНАЁМІЦЬ АЙЧЫННАГА І ЗАМЕЖНАГА ГЛЕДАЧА З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦТВАМ.



2.

Цікавы той факт, што яшчэ да афіцыйнага адкрыцця Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР у 1939 годзе разам з падрыхтоўкай новых экспазіцый вялася і рэстаўрацыя некаторых твораў.

У дакладной запісцы «Аб стане работ па падрыхтоўцы да адкрыцця Дзяржаўнай Мастацкай Галерэі», складзенай першым дырэктарам Мікалаем Міхалапам 31 жніўня 1939, чытаем наступнае: *«Праведзены папярэдні адбор карцін для экспазіцыі, з якіх 210 карцін маюць патрэбу ў прамыванні, 35 карцін у нязначнай рэстаўрацыі, 30 карцін у сярэдняй рэстаўрацыі і 30 у моцнай рэстаўрацыі. Рэстаўрацыю будзем праводзіць: прамыванне 210 карцін і нязначную рэстаўрацыю 35 у галерэі. Сярэднюю і моцную рэстаўрацыю — 60 карцін — будзе праводзіць наш супрацоўнік-жывапісец пад кіраўніцтвам вопытных рэстаўратараў у музеях Масквы пачынаючы з 01.09. г.г. Гэтым самым мы падрыхтуем сабе рэстаўратараў на будучыню… і г.д.».* Максіміліян Гугель (1913—1985) — мастак-рэстаўратар Дзяржаўнай карціннай галерэі з 1939 па 1941 год.

У час Вялікай Айчыннай вайны і ў выніку палітыкі акупацыйнай адміністрацыі калекцыя музея панесла значныя страты. Аднак частка даваеннага фонду Дзяржаўнай карціннай галерэі ацалела дзякуючы працы музейных супрацоўнікаў, у тым ліку і рэстаўратараў. У першыя пасляваенныя гады аварыйны стан музейнай калекцыі не даваў часу на распрацоўку асобных тэарэтычных напрамкаў, а вымушаў неадкладна пераходзіць да практычнай рэстаўрацыі.

Пачынаючы з канца 1940-х калекцыя мастацкага музея папаўнялася дзякуючы шматлікім навуковым экспедыцыям, якія праводзіліся з 1946 па 1978 год. Аднак стан многіх твораў, прывезеных у музей, патрабаваў тэрміновых кансервацыйных мерапрыемстваў. У гэты перыяд у музеі працавалі тры мастакі-рэстаўратары, іх можна назваць першымі прафесійнымі спецыялістамі не толькі ў музеі, але і ў Беларусі.

Мастак Барыс Дзмітрыеў пачаў сваю дзейнасць у музеі ў 1957 годзе. Скончыўшы з адзнакай маскоўскія курсы па падрыхтоўцы мастакоў-рэстаўратараў пры Цэнтральных мастацка-рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры СССР, ён прыехаў у Мінск па рэкамендацыі мастака-рэстаўратара тэмпернага жывапісу вышэйшай катэгорыі Віктара Філатава.

1.


3.

За шэсць гадоў працы ў музеі Барыс Дзмітрыеў падрыхтаваў двух калег-вучняў – Уладзіміра Харанеку (у музеі з 1958 года) і Мікалая Куйчыка (у музеі з 1959 года). Абодва рэстаўратары мелі мастацкую адукацыю Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Веды па рэстаўрацыі набывалі на практыцы пад кіраўніцтвам Барыса Дзмітрыева і падчас стажыровак у Дзяржаўнай цэнтральнай рэстаўрацыйнай майстэрні імя Ігара Грабара, ва Усесаюзнай цэнтральнай навукова-даследчай лабараторыі кансервацыі і рэстаўрацыі (УЦНДЛКРЭ), а таксама ў Дзяржаўным Рускім музеі.

Аднак асабліва складаныя рэстаўрацыйныя работы выконваліся ў цэнтрах Масквы і Ленінграда, нярэдка рэстаўрацыю твораў расійскія мастакі рабілі ў сценах нашай установы, даючы магчымасць музейным супрацоўнікам назіраць і – галоўнае – удасканальвацца ў спецыяльнасці мастака-рэстаўратара. Так, у розны час, пачынаючы з 1954 года, рэстаўрацыя твораў старажытнабеларускага жывапісу з калекцыі Дзяржаўнага мастацкага музея выконвалася расійскімі спецыялістамі «маскоўскай школы» Віктарам Філатавым, Мікалаем Баранавым, Іванам Горыным, «ленінградскай школы» – Ірмай Ярыгінай, Сяргеем Голубевым, Міхаілам Малкіным і інш.

Звяртаючы ўвагу на дзяржаўную палітыку ў сферы захавання гісторыка-культурных каштоўнасцей у дадзены перыяд, адзначым, што ў 1948 годзе пры Камітэце па справах культурна-асветніцкіх устаноў пры СНК БССР было створана Упраўленне музеяў, уліку, аховы і рэстаўрацыі археалагічных і гістарычных помнікаў. Тады ж была прынята пастанова Савета міністраў СССР «Аб мерах па паляпшэнні аховы помнікаў культуры» з рэкамендацыямі па арганізацыі Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (СНРВМ), стварэнне якіх у Беларусі зацягнулася да 1968 года.

Галоўная дзейнасць майстэрняў – даследаванне, праектаванне і рэстаўрацыя архітэктурных аб'ектаў, аднак праводзілася таксама рэстаўрацыя твораў керамікі, ляпніны, разьбы і пазалоты, паліхромнай скульптуры, тэмпернага і алейнага жывапісу, манументальных роспісаў. У аснову рэстаўрацыйна-кансервацыйных мерапрыемстваў і фізіка-хімічных даследаванняў быў пакладзены вопыт маскоўскіх рэстаўратараў і навуковых супрацоўнікаў з Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута кансервацыі і рэстаўрацыі ў Маскве. Можна сцвярджаць, што дзякуючы дзейнасці Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў пры Міністэрстве культуры БССР у краіне распачалося фарміраванне музейнай рэстаўрацыі.

З канца 1970-х да пачатку 2000-х СНРВМ, пазней рэарганізаваныя ў Белрэстаўрацыю, – вядучыя майстэрні ў краіне па рэстаўрацыі рухомых помнікаў культуры, у асноўным твораў станковага тэмпернага і алейнага жывапісу. На правах манапалістаў у дадзенай галіне СНРВМ выконвалі рэстаўрацыю твораў для многіх музеяў краіны, у тым ліку і для Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Гэта было звязана ў першую чаргу з тым, што ў штатах толькі некаторых музеяў краіны асобна вылучалася стаўка навуковага супрацоўніка – мастака-рэстаўратара. Да фарміравання самастойных аддзелаў у музеях справа не даходзіла. Доўгі час у гэтай сітуацыі для музейных устаноў было эканамічна выгадна перадаваць творы ў рэстаўрацыю па дамове.

Сярод вядучых рэстаўратараў СНРВМ варта назваць такіх спецыялістаў, як Пётр Журбей і Аркадзь Шпунт – мастакоў-рэстаўратараў паліхромнай скульптуры вышэйшай катэгорыі; Уладзімір Нікіцін – мастак-рэстаўратар станковага алейнага жывапісу вышэйшай катэгорыі; Аляксандр Тарасік – мастак-рэстаўратар станковага тэмпернага жывапісу і паліхромнай скульптуры першай катэгорыі; Ларыса Брагілеўская – мастак-рэстаўратар станковага тэмпернага жывапісу другой катэгорыі; Аляксей Пуцінцаў – мастак-рэстаўратар паліхромнай скульптуры і станковага тэмпернага жывапісу; Мікалай Лёля – мастак-рэстаўратар разьбы і пазалоты і інш.

Сапраўдным прызнаннем дасягненняў рэстаўрацыі ў Беларусі было прысваенне ў 1985 годзе вышэйшай катэгорыі па паліхромнай скульптуры мастакам-рэстаўратарам Пятру Журбею і Аркадзю Шпунту. Выязная Камісія па атэстацыі рэстаўратараў Упраўлення выяўленчых мастацтваў і аховы помнікаў Міністэрства культуры СССР высока ацаніла методыку мастакоў-рэстаў-


4.

ратараў па ўжыванні новага на той момант матэрыялу СВЭД (водная дысперсія супалімера вінілацэтату з этыленам), спецыяльна распрацаваную для разьбяных паліхромных алтароў унікальнага помніка — сабора Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Пінску.

Аднак высокая ацэнка прафесіяналізму беларускіх мастакоў-рэстаўратараў так і засталася на ўзроўні Савецкага Саюза, у суверэннай дзяржаве камісія па атэстацыі мастакоў-рэстаўратараў пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь створана не была.

У 1979 годзе на пасаду мастака-рэстаўратара ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР (пазней — Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь) быў пераведзены Сяргей Сцепаненка. Пасля заканчэння аддзялення рэстаўрацыі ў Ленінградскім мастацкім вучылішчы імя Валянціна Сярова ў 1975 годзе ён быў накіраваны маладым спецыялістам у СНРВМ пры Міністэрстве культуры БССР. За час працы стажыраваўся ва УНДІРЭ, атрымліваў неаднаразовыя кансультацыі ад мастакоў-рэстаўратараў Барыса Брындарава і Івана Горына. За перыяд работы ў музеі Сяргей Сцепаненка правёў рэстаўрацыю звыш 170 твораў алейнага жывапісу, у тым ліку з калекцыі партрэтнага жывапісу XVI—XVIII стагоддзяў з Нясвіжа і Гродна. Пасля праведзеных рэстаўрацыйна-кансервацыйных мерапрыемстваў палотны былі падрыхтаваныя да навуковага вывучэння, даследаванняў і атрыбуцыі.

Асобна варта вылучыць уклад у развіццё музейнай рэстаўрацыі ў Беларусі мастака-рэстаўратара Мікалая Ведзянеева (1957—1998). Акрамя вялікай колькасці адрэстаўраваных палотнаў беларускіх і замежных, у тым ліку рускіх, мастакоў, важным зачынам з'яўляецца падрыхтоўка Мікалаем Ведзянеевым новых кадраў для пашырэння рэстаўрацыйнай базы мастацкага музея. У 1989 годзе з ініцыятывы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР (ДММ) пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь было створана аддзяленне рэстаўрацыі пры Мінскім мастацкім вучылішчы імя Аляксея Глебава. Мікалай Ведзянееў выкладаў на рэстаўрацыйным аддзяленні, першы і адзіны выпуск якога адбыўся ў 1994 годзе. Некаторыя яго вучні сёння пасляхова працуюць у Нацыянальным мастацкім музеі і з'яўляюцца вядучымі спецыялістамі першай катэгорыі ў галіне рэстаўрацыі станковага алейнага жывапісу — Святлана Дзікуць і Святлана Ішмаева.

Аддзел навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь быў створаны ў студзені 1989 года (сёлета аддзел святкуе 30-гадовы юбілей).

У розныя гады кіраўнікамі навукова-рэстаўрацыйнага аддзела Нацыянальнага мастацкага музея былі мастак-рэстаўратар другой катэгорыі станковага алейнага і тэмпернага жывапісу Мікалай Ведзянееў, мастак-рэстаўратар другой катэгорыі па скульптуры Леанід Страццеў, мастак-рэстаўратар першай катэгорыі твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Таццяна Гаравец, з 2008 года аддзел узначальвае мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі паліхромнай скульптуры Аркадзь Шпунт.

На сённяшні дзень аддзел навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў уяўляе з сябе калектыў з 25 спецыялістаў, якія маюць вышэйшую, першую і другую катэгорыі мастака-рэстаўратара твораў станковага алейнага і тэмпернага жывапісу, графікі і старадрукаванай кнігі, паліхромнай скульптуры, мастацкага тэкстылю, металу, мэблі і рам.

Аддзел падзелены на вузкаспецыяльныя сектары. Сектар рэстаўрацыі старажытнабеларускага жывапісу — загадчык мастак-рэстаўратар другой катэгорыі Аляксандр Лагуновіч-Чарапко. Сектар рэстаўрацыі станковага алейнага жывапісу — загадчык мастак-рэстаўратар станковага алейнага жывапісу першай катэгорыі Святлана Дзікуць. Сектар рэстаўрацыі твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — мастак-рэстаўратар паліхромнай скульптуры Дзмітрый Жалевіч. Сектар фізіка-хімічных даследаванняў — навуковы супрацоўнік, рэнтгенолаг Юрый Майсееў.

Сярод вядучых спецыялістаў мастацкага музея можна вылучыць такіх мастакоў-рэстаўратараў, як Гейдар Аліеў, Ілона Карлёнава, Андрэй Крапіўка, Святлана Ішмаева, Эла Пашкіна, Аляксандр Петракоў, Цімафей Палунін, Анжэла Чудзіевіч, Сяргей Шаціла і інш.


5.

У нашы дні ў сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь налічваецца 152 музеі і 60 іх філіялаў. Адзначым, што ў дзяржаўных музеях захоўваецца звыш 3 млн прадметаў асноўнага фонду. Аднак на такі велізарны музейны фонд у рэспубліцы працуюць толькі 72 спецыялісты-рэстаўратары ў 18 музеях.

Магчымасці майстэрняў Нацыянальнага мастацкага музея дазваляюць выконваць у год рэстаўрацыю і кансервацыю да 236 музейных твораў (дадзеныя за 2018 год), а таксама праводзіць фізіка-хімічныя даследаванні твораў з фондаў музея і прыватных збораў — да 40 у год (дадзеныя за 2018 год).

Своеасаблівай справаздачай аб праведзенай рабоце аддзела навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў з'яўляюцца рэстаўрацыйныя выставы. У якасці існуючай традыцыі дадзены праект рэалізуецца кожныя два гады. Варта адзначыць вялікую цікавасць не толькі шырокага кола грамадскасці, але і


7.


6.

Аддзел навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — гэта самая буйная музейная рэстаўрацыйная структура ў нашай краіне.

Усе работы па кансервацыі і рэстаўрацыі твораў матэрыяльнай культуры праводзяцца ў адпаведнасці з рашэннем рэстаўрацыйнага савета; толькі на базе музея ладзяцца стажыроўкі спецыялістаў з усёй Беларусі па розных напрамках (алейны і тэмперны жывапіс, тэкстыль, графіка і старадрукаваная кніга); сектар фізіка-хімічных даследаванняў з'яўляецца ўнікальным у рэспубліцы (у эксплуатацыі спецыяльна сканструяваная «Рэнтгенаўская ўстаноўка для даследавання твораў жывапісу, іканапісу і скульптуры Пульмаскан 760»). У цэлым дзейнасць аддзела накіраваная на развіццё музейнай рэстаўрацыі ў Беларусі, што развіваецца ў адпаведнасці з прынцыпамі, агульнапрынятымі ў сусветнай рэстаўрацыйнай практыцы.


8.

навуковых супрацоўнікаў, якія вывучаюць мастацкую спадчыну нашай краіны. Дзякуючы плённай сумеснай навуковай і рэстаўрацыйнай дзейнасці супрацоўнікаў музея мастацкія аб'екты ўводзяцца ў навуковы зварот, даследуюцца, праводзіцца іх атрыбуцыя. Перадусім на падобных выставах можна ўбачыць унікальныя творы, якія раней не экспанаваліся, многія доўгі час знаходзіліся ў аварыйным стане. Кожная праца суправаджаецца тлумачальным планшэтам з падрабязнай фотафіксацыяй, дзе наглядна паказаны этапы аднаўлення помніка. На выставах у асноўным прадстаўлены творы пасля завяршэння комплексу рэстаўрацыйна-кансервацыйных мерапрыемстваў, а дэталёвая фотафіксацыя на тлумачальных планшэтах дае поўнае ўяўленне аб аб'ёме выкананых мастаком-рэстаўратарам работ. Аднак не меншую цікавасць прадстаўляюць аб'екты, выстаўленыя ў працэсе рэстаўрацыі. Мастак-рэстаўратар прапануе гледачу своеасаблівае «падарожжа ў часе» — зазірнуць праз акно зандажу-раскрыцця ў напластаванні позняга жывапісу і пазнаёміцца з арыгінальнай аўтарскай першапачатковай задумкай.



9.

Выстава «Адкрыццё сапраўднага» (24.01.2019—17.03.2019, куратар Аляксандр Лагуновіч-Чарапко) была прымеркаваная да 80-годдзя вядучай музейнай установы нашай краіны і паказала наведвальнікам адзін з важных напрамкаў музейнай дзейнасці — захаванне і аднаўленне твораў мастацтва ў Беларусі.

У сусветнай практыцы падобныя выставы даюць магчымасць мастакам-рэстаўратарам паказаць свой прафесійны ўзровень. Наведвальнікі ж могуць пазнаёміцца з працэсам рэстаўрацыі і як бы ўвайсці ў майстэрні прадстаўнікоў даволі рэдкай, але надзвычай важнай прафесіі.

Кожная зала выставы «Адкрыццё сапраўднага» ўмоўна прадстаўляла асобны сектар навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў. Так, першая зала сектара фізіка-хімічных даследаванняў раскрыла для наведвальнікаў некаторыя загадкі, якія часам тояць у сабе творы мастацтва. Унікальны алоўкавы падмалёвак мастака Івана Хруцкага на «Партрэце невядомай» (1830-я) бачны толькі на здымках, зробленых у ІЧ-выпраменьванні. Рэнтгенаграма «Партрэта невядомай у блакітным» невядомага мастака паказала кардынальныя кампазіцыйныя змены, што адбыліся з жывапісам за час яго існавання. Складаныя запісы аўтарскага пласта, біяпашкоджанні, пазнейшыя абнаўленні, рэстаўрацыйныя ўмяшанні, атрыбуцыі невядомых твораў, дакументацыя і да т.п. — усё гэта было паказана гледачу.

Выстава стала свайго роду наглядным фонам для першай Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Рэстаўрацыя гісторыка-культурных каштоўнасцей: сучасны стан і перспектывы развіцця» на базе Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і музея «Замкавы комплекс "Мір"», якая праходзіла сёлета ў сакавіку. Прыемна адзначыць вялікую цікавасць замежных калег да пытанняў рэстаўрацыі ў нашай краіне. Даклады на актуальныя тэмы, прысвечаныя сучасным падыходам і тэхналогіям, новыя даследаванні і атрыбуцыі ў сукупнасці аб'ядналі спецыялістаў-рэстаўратараў і навуковых супрацоўнікаў не толькі нашай краіны, але Літвы, Расіі і Украіны. Камунікацыя спецыялістаў у сферы рэстаўрацыі гісторыка-культурных каштоўнасцей на міжнародным узроўні дала свой плён. Так, было наладжана супрацоўніцтва паміж Нацыянальным навукова-даследчым рэстаўрацыйным цэнтрам Украіны і Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь у пытаннях стажыровак мастакоў-рэстаўратараў. Спадзяемся, пазітыўны вопыт правядзення першай рэстаўрацыйнай канферэнцыі пакладзе пачатак штогадоваму праекту, неабходнаму для развіцця рэстаўрацыі ў Беларусі на сучасным этапе.

Сёння аддзел навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў Нацыянальнага мастацкага музея з'яўляецца галоўным і асноўным цэнтрам па правядзенні рэстаўрацыі і кансервацыі твораў матэрыяльнай мастацкай культуры ў Рэспубліцы Беларусь.

**1. Невядомы мастак. «Алегорыя добрага і дрэннага кіравання». Копія (?) з арыгінала Тэадора ван Цюльдэна (1606—1669). Не раней за другую чвэрць XVIII стагоддзя. Алей. Мастачка-рэстаўратарка станковага алейнага жывапісу першай катэгорыі Святлана Ішмаева.**
**2. Невядомы мастак. «Алегорыя добрага і дрэннага кіравання». Копія (?) з арыгінала Тэадора ван Цюльдэна (1606—1669). Не раней за другую чвэрць XVIII стагоддзя. Алей. У працэссе рэстаўрацыі. Мастачка-рэстаўратарка станковага алейнага жывапісу першай катэгорыі Святлана Ішмаева.**
**3—4. Агульны выгляд экспазіцыйных залаў рэстаўрацыйнай выставы «Адкрыццё сапраўднага». 2019.**
**5. Аркадзь Шпунт, мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі паліхромнай скульптуры. Загадчык аддела навукова-рэстаўрацыйных майстэрняў.**
**6. Аляксандр Лагуновіч-Чарапко, мастак-рэстаўратар другой катэгорыі, загадчык сектара рэстаўрацыі старажытнабеларускага мастацтва.**
**7. Эла Пашкіна, мастачка-рэстаўратарка другой катэгорыі станковага алейнага жывапісу.**
**8. Андрэй Крапіўка, мастак-рэстаўратар першай катэгорыі графікі і старадрукаванай кнігі.**
**9. Невядомы майстар сярэдзіны XVIII стагоддзя. Алтарная скульптура «Анёл» (фрагмент). Дрэва, разьба, паліхромія. Беларусь.**
**10. Невядомы майстар сярэдзіны XVIII стагоддзя. Алтарная скульптура «Анёл» (пасля рэстаўрацыі). Мастак-рэстаўратар паліхромнай скульптуры трэцяй катэгорыі Дзмітрый Жалевіч. XVIII ст. (?).**



10.



# **Пазітыўны** вобраз краіны

Любоў Сысоева

1.

У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ ШТОГОД АДБЫВАЕЦЦА БОЛЬШ ЗА 50 ВЫСТАЎ ЯК З УЛАСНЫХ ФОНДАЎ, ТАК І З КАЛЕКЦЫЙ ІНШЫХ МУЗЕЯЎ, ГАЛЕРЭЙ, ПРЫВАТНЫХ ЗБОРАЎ. ІХ НАВЕДВАЕ БОЛЬШ ЗА 150 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК У ГОД.
ВЫСТАВАЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ МУЗЕЯ ВЫЗНАЧАЕЦЦА НЕ ТОЛЬКІ АКТЫЎНАСЦЮ, ЯНА ВЫХОДЗІЦЬ НА ЯКАСНА НОВЫ ЎЗРОВЕНЬ. ВАЛОДАЮЧЫ ЎНІКАЛЬНЫМ ЗБОРАМ (КАЛЕКЦЫЯЙ РУСКАГА МАСТАЦТВА XVIII – ПАЧАТКУ XX СТ., ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКАГА МАСТАЦТВА І МАСТАЦТВА КРАІН УСХОДУ XVI–XX СТСТ., БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА XII–XXI СТСТ.), МУЗЕЙ ПРЫМАЕ ЎДЗЕЛ У МІЖНАРОДНЫХ ПРАЕКТАХ (ВАТЫКАН, ВЕНГРЫЯ, ЗША, ІСПАНІЯ, ІТАЛІЯ, КІТАЙ, ЛАТВІЯ, ЛІТВА, ЛІХТЭНШТЭЙН, ПОЛЬШЧА, ФРАНЦЫЯ), А ТАКСАМА Ў ВЫСТАВАХ, АРГАНІЗАВАНЫХ У РАСІІ І УКРАІНЕ.

У ліку найбольш значных замежных праектаў з удзелам Нацыянальнага мастацкага музея – выставы Wroclaw's Europe (Нацыянальны музей Вроцлава, Польшча, 2016), беларускай скульптуры (Нацыянальны мастацкі музей Кітая, Пекін, 2017), беларускай арыгінальнай графікі, беларускага і рускага жывапісу, жывапісу Беларусі і рускай графікі на выставе, прысвечанай 150-годдзю Віленскай мастацкай школы (Мастацкі музей Літвы, 2017), «Шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» (Нацыянальны мастацкі музей Кітая, Пекін, 2017–2018). Далучым ды гэтага спісу праекты «Архіп Куінджы. Магія святла» (Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква, 2018–2019), «Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля. Пейзажы» (Бранскі абласны мастацкі музейна-выставачны цэнтр, 2018), «Шагал, Малевіч, Лісіцкі. Рускі авангард у Віцебску (1918–1922)» (Нацыянальны цэнтр культуры і мастацтваў Жоржа Пампіду, Парыж, Францыя, 2018); (Яўрэйскі музей, Нью-Ёрк, ЗША, 2018-2019), «Рэрых і Літва» (Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны музей-інстытут сям'і Рэрыхаў, 2019), «Ілья Рэпін» (Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Масква, 2019) і інш.

Адным з найважнейшых напрамкаў міжнароднага культурнага ўзаемадзеяння з'яўляюцца музейныя сувязі. Дыялог у сферы музейнага супрацоўніцтва ўздзейнічае на фарміраванне, падтрымку і ўмацаванне пазітыўнага вобраза краіны. Такі кірунак міжнародных сувязей спрыяе культурнаму ўзаемаўзбагачэнню народаў, умацаванню адносін, актывізацыі кантактаў паміж краінамі. У гэтым сэнсе асаблівую цікавасць уяўляюць замежныя выставы старажытнабеларускага мастацтва, якія музей прадставіў у найбуйнейшых еўрапейскіх музеях з 2014 па 2019 г.: «Іканапіс Беларусі XVII–XVIII стст.» з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (Гістарычны музей, Будапешт, Венгрыя, 2014; Музей імя Янаша Дам'яніча, Сольнак, Венгрыя, 2014; Фонд калекцыі Бажо, Кечкемет, Венгрыя); «Апосталы і пракокі. Беларускія абразы XVII-XVIII стст.» (Музей Эль Грэка, Таледа, Іспанія, 2016–2017); «Іканапіс Беларусі XVII–XXI стст.» з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (Музеі Ватыкана, Пінакатэка, Ватыкан, 2016); «Іканапіс Беларусі XVII–XIX стст. з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» (Нацыянальны музей Ліхтэнштэйна, Вадуц, Ліхтэнштэйн, 2019). Падобныя праекты ладзіліся музеем і раней, але насілі адзінкавы характар (Іспанія, 1999–2000; Італія, 2004–2005). Толькі ў апошнія гады гэта стала мэтанакіраванай палітыкай выставачнай дзейнасці.

Выставы беларускага іканапісу, праведзеныя за апошнія 5 гадоў, зрабіліся сапраўдным адкрыццём для еўрапейскай культуры. Іх наведвальнікі змаглі не толькі ацаніць унікальнасць і прыгажосць твораў нашай іканапіснай школы, але некаторыя з іх упершыню, дзякуючы падобным праектам, даведваліся пра дзяржаву – Рэспубліку Беларусь.

Выстава беларускіх абразоў у Ватыкане, на падрыхтоўку якой спатрэбілася некалькі гадоў, карысталася вялікай папулярнасцю. Упершыню Музеі Ватыкана прадаставілі для часовай выставы залы пастаяннай экспазіцыі Пінакатэкі. На ёй былі паказаны 33 помнікі старажытнабеларускага жывапісу, разнастайныя па іканаграфіі, мастацкім напрамкам і творчым манерам беларускіх іканапісцаў.

Гэтая экспазіцыя – падзея гістарычная: беларускія абразы выстаўляліся ў многіх гарадах свету, але ў цэнтры сусветнага каталіцызму ўпершыню. З традыцыямі айчыннага іканапісу пазнаёміліся і жыхары Рыма, і шматлікія турысты. Апошні раз беларускія абразы дэманстраваліся ў Італіі ў галерэях Мілана і Трыеста ў 2004–2005 гадах. І выклікалі велізарную цікавасць італьянскіх гледачоў да нашага нацыянальнага мастацтва. Яны выявілі агульнасць духоўных памкненняў і мастацкіх канонаў культуры Еўропы – спадчынніцы візантыйскіх традыцый.

Пра непадробны інтарэс, які спарадзіла выстава, сведчыць кніга водгукаў. Геаграфія неверагодна шырокая – Аргенціна, Аўстралія, Бразілія, ЗША, Інданезія, Канада, Карэя, Кітай, Куба, Мексіка, Расія, Японія, практычна ўсе дзяржавы Еўропы. Свае водгукі пакінулі наведвальнікі з Англіі, Германіі, Італіі, Лацінскай Амерыкі, Партугаліі. На адной старонцы злучыліся радкі на беларускай, польскай, іспанскай і многіх іншых мовах. За два месяцы экспанавання выставы каля 2 мільёнаў чалавек змагло пазнаёміцца з унікальнымі мастацкімі каштоўнасцямі Беларусі XVII–XXI стст., атрымаць уяўленне аб своеасаблівасці мясцовай іканапіснай школы.

21 мая 2016 года падчас афіцыйнага візіту ў Ватыкан выставу наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ў суправаджэнні кардынала П'етра Параліна, Дзяржаўнага сакратара Папы Францыска. Аляксандр Лукашэнка высока ацаніў выставу і выказаў упэўненасць, што гэта толькі першы значны крок у развіцці музейнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Ватыканам і за гэтай выставай з'явяцца многія іншыя цікавыя і маштабныя праекты.

Пра запатрабаванасць і цікавасць да нашага нацыянальнага мастацтва сведчыла і выстава ў Іспаніі. Кіраўніцтва музея Эль Грэка (Таледа, Іспанія) прасіла падоўжыць тэрмін экспанавання твораў на месяц з прычыны велізарнага інтарэсу да яе.

Выстава абразоў XVII–XVIII стагоддзяў з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея ўпершыню была прадстаўлена і ў рэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы – у Венгрыі. Гэты праект быў паспяхова рэалізаваны ў найбуйнейшых музеях Будапешта, Сольнака і Кечкемета ў 2014 годзе.

У 2019-м у Нацыянальным музеі Ліхтэнштэйна адбылося ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі «Іканапіс Беларусі XVII–XIX стст. з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь». Беларускія абразы ў Ліхтэнштэйне таксама былі паказаны ўпершыню, таму гэтую выставу можна назваць гістарычнай падзеяй. Прадстаўленыя экспанаты прадэманстравалі разнастайнасць стыляў і кірункаў беларускага абраза – ад помнікаў, якія захоўваюць візантыйскія традыцыі, да твораў перыяду росквіту нацыянальнай культуры – эпохі барока. Яны сведчылі пра своеасаблівасць нацыянальнага мастацтва і значны ўнёсак беларускага народа ў сусветную скарбніцу культурных каштоўнасцей.

У аснове кожнай выставы ляжыць шматгадовая навуковая праца, вынікам якой з'яўляюцца выданні каталогаў выстаў, лекцыі і экскурсіі ад куратараў.

Павага да нацыянальных традыцый, адкрытасць свету, забеспячэнне доступу да калекцый, гатоўнасць да супрацоўніцтва – прынцыпы, на якіх заснавана міжнародная выставачная дзейнасць музея. Усе праекты скіраваны на развіццё сувязяў паміж Беларуссю і іншымі краінамі, што адлюстроўвае міралюбівую знешнюю палітыку нашай дзяржавы.

Выставачная дзейнасць, у тым ліку на міжнародным узроўні, ажыццяўляецца музеем рознабакова – установа прадастаўляе асобныя экспанаты ці групы экспанатаў для выставачных праектаў у замежных музеях, а ў сваіх сценах знаёміць беларускіх наведвальнікаў са зборамі вядучых музеяў свету. М



3.



4.



2.

**1. «Іканапіс Беларусі XVII–XIX стст. з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» у Гістарычным музеі Будапешта. 29 красавіка 2014 г.**

**2. Мантаж выставы «Апосталы і прарокі. Беларускія абразы XVII-XVIII стст.» у Музеі Эль Грэка, Таледа, Іспанія. 2016–2017.**

**3. «Іканапіс Беларусі XVII–XIX стст. з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» у Нацыянальным музеі Ліхтэнштэйна. 2019.**

**4. «Апосталы і прарокі. Беларускія абразы XVII–XVIII стст.» у Музеі Эль Грэка, Таледа, Іспанія. 2016–2017.** *Фота з архіва музея.*

# «Я выбіраю **Мастацкі**!»

**Алёна Машчонак**

МЕНАВІТА ГЭТЫЯ СЛОВЫ ЖАДАЕ ПАЧУЦЬ АД НАВЕДВАЛЬНІКА КОЖНЫ СУПРАЦОЎНІК НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БЕЛАРУСІ. МОЖА ЗДАЦЦА, ШТО ЎСТАНОВЕ З САМЫМ ВЯЛІКІМ У КРАІНЕ ЗБОРАМ АЙЧЫННАГА І ЗАМЕЖНАГА МАСТАЦТВА НЯМА ПРА ШТО ТУРБАВАЦЦА. МАСТАЦКІ — НЕПАЎТОРНЫ І ЎНІКАЛЬНЫ, ГЭТЫМ УЖО І ВАБІЦЬ ДАРОСЛЫХ І МАЛЕНЬКІХ БЕЛАРУСАЎ, ГАСЦЕЙ З РОЗНЫХ КРАІН СВЕТУ.

**1. Праект «Айвазоўскі і марыністы».**
**2. «Прагулкі з куратарам» Надзеяй Усавай па выставе «Адкрыццё сапраўднага».**
**3. Праект «Дзеці ў музеі», прымеркаваны да святкавання Дня абароны дзяцей у Мастацкім**
*Фота аўтаркі і з архіву музея.*

1.

За сваю доўгую гісторыю Мастацкі музей звяртаўся да розных форм асветы і папулярызацыі. Набываў палотны мастакоў з сусветным імем, якія прыцягваюць увагу і да гэтага часу. Наладжваў культурныя сувязі з вядучымі музеямі свету. Арганізоўваў «гастрольныя туры» калекцый з уласных фондаў. Мастацкі заяўляў пра сябе на міжнароднай прасторы. Адказ быў гасцінным і цешыў беларусаў шматлікімі выставамі найвялікшых творцаў усіх часоў — заходнееўрапейскага мастацтва, амерыканскага жывапісу, усходняй культуры.

На пачатку XXI стагоддзя сітуацыя істотна змянілася. Сёння ўжо нікога не здзівіш музейнай калекцыяй, майстэрствам мастака або прывезенай замежнай выставай. Каб убачыць творы Шышкіна або Пікаса, наведаць экспазіцыю Метраполітэн-музея або Траццякоўскай галерэі, не абавязкова набываць уваходны білет і некуды ісці. Інфармацыйны час дыктуе свае правілы: музеі набываюць вядомасць і папулярнасць дзякуючы не столькі калекцыям, колькі яркім праектам і ўдалым рэкламным кампаніям у СМІ.

Сучаснага чалавека, распешчанага багаццем прапаноў і магчымасцяў, неабходна пастаянна здзіўляць, захапляць і заклікаць выбраць. У рэшце рэшт, і музеі, і мастакі хочуць аднаго: каб мастацтва не толькі паказвалі, але і каб на яго глядзелі.

А як музею, які жадае знайсці водгук у наведвальніка, захаваць традыцыі, вечныя каштоўнасці і смела крочыць у будучыню? Складаная задача. Тым не менш Нацыянальны мастацкі музей з ёй спраўляецца, няхай і не заўсёды лёгка.

Фармаванне камунікатыўнай мадэлі ў Мастацкім адбываецца з дапамогай не толькі традыцыйных форм работы (экскурсій і лекцый), але і інавацыйных метадаў: распрацоўваюцца інтэрактыўныя праграмы; праводзяцца майстар-класы, канферэнцыі; ствараюцца музейныя святы, інклюзіўныя і міжнародныя праекты, віртуальныя туры па экспазіцыі.

Сёння акцэнт робіцца на стварэнне музейных праектаў, так званых «спецыяльных падзей», якія ўключаюць у сябе ўласна саму выставу і арганізаваныя ў межах яе розныя мерапрыемствы (лекцыі, семінары, сустрэчы, канцэрты). За апошнія некалькі гадоў у Нацыянальным музеі быў створаны шэраг



2.

унікальных мастацкіх праектаў. Згадаем міжнародны выставачны праект «Сальвадор Далі», выставу карцін вядомага музыкі, лідара гурта «Акварыум» Барыса Грабеншчыкова «Татэмы Зімагораў», праект «Айвазоўскі і марыністы», прымеркаваны да 200-годдзя з дня нараджэння мастака, яркі, стыльны арт-праект «RELAX. Жывапіс. Скульптура. Графіка», напоўнены гармоніяй, пачуццёвасцю, спакоем і ціхамірнасцю. Выстава «Адкрыццё сучаснасці» прыадчыніла гледачу таямніцы мастацтва рэстаўрацыі. Самай яркай падзеяй Культурнай праграмы II Еўрапейскіх гульняў 2019 года стала экспазіцыя НММ «Гульні. Игры. Games». Незвычайная экскурсія «Гоя — рэжысёр тэатра ценяў» дазволіла гасцям музея адчуць атмасферу мяжы XVIII—XIX стагоддзяў і ўбачыць сапраўдныя містычныя творы Франсіска Гоі так, як гэта рабілі аматары мастацтва дзвесце гадоў таму — вечарам, пры свечках або

лямпе... Кожную з пералічаных выстаў суправаджалі лекцыі, канцэрты, майстар-класы, сустрэчы з мастакамі або стваральнікамі праекта.

Нацыянальны музей практыкуе «Зборныя экскурсіі» або «Прагулкі з куратарам»: у прызначаны час кожны жадаючы мае магчымасць не толькі прагуляцца па выставе, але і сустрэцца з яе куратарам, даведацца больш падрабязна пра канцэпцыю і этапы пабудовы экспазіцыі.

Папулярнасцю ў наведвальнікаў Нацыянальнага мастацкага карыстаюцца міжнародныя праекты і акцыі. Несумненна, пальма першынства тут належыць Ночы музеяў. Раз на год каля дзвюх тысяч музеяў у свеце «не спяць», адкрываючы свае дзверы для ўсіх, каму цікава ўбачыць «храм муз» у нязвыклы час.

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ўпершыню прыняў удзел у Ночы ў 2005-м. На працягу ўсёй гісторыі міжнароднай акцыі ў вядучым музеі краіны можна было апынуцца «ў свеце Пікаса», разгадаць таямніцы «Усходняй ночы», прабавіць «Вечар у французскім стылі», трапіць у «Прасторы Жанчыны», пераканацца ў тым, што «Апакаліпсісу не будзе», знайсці нешта новае і цікавае, не разгаданае ў беларускіх традыцыях падчас «Беларускай ночы, або Музея ў фантастычных апавяданнях», не заблукаць у «Лабірынце часу», атрымаць асалоду ад маўклівасці «Ціхай ночы», параўнаць «Музей учора + заўтра», прыняць удзел у «Гульні ў класікі», паглыбіцца ў насычанасць колеравага спектру і вызначыць сваю «Форму колеру». Сёлета падчас міжнароднай акцыі «Ноч музеяў» Мастацкі заклікаў сваіх гасцей: «Адчуваць!».

З кожным годам увага да Ночы музеяў узрастае, а НММ імкнецца прыдумваць цікавую тэматыку і здзіўляць сваіх гасцей. Мабыць, таму Мастацкі не змог спыніцца толькі на адной «ночы» ў год, арганізаваўшы «Вераснёвую ноч» – традыцыйную акцыю, прымеркаваную да святкавання Дня горада Мінска. У адрозненне ад Ночы музеяў, «Вераснёвая» мае больш інтэлектуальны фармат – дзеля такіх падзей ствараюцца выставы, чытаюцца лекцыі, вядуцца дыскусіі. І міжнародная акцыя «Ноч музеяў», і «Вераснёвая ноч» – маштабныя святы, зладжаныя ў музейнай прасторы.

Увогуле святы карыстаюцца ў музеі поспехам. Сёлета цікавасць у гасцей набыў святочны вечар «Навагодні джаз у Мастацкім!», а напярэдадні Новага, 2019 года музей запрасіў маленькіх і дарослых наведвальнікаў на «Ёлку ў Мастацкім». «Веснавое свята – 2019» адбылося ў лютым і ўзнавіла атмасферу святкавання Усходняга Новага года па месяцовым календары. Вясну сустракалі па сонечным календары: святочнай праграмай для дзяцей «Дзень добры, Масленіца!».

Асноўнай мэтавай аўдыторыяй свят у Мастацкім з'яўляюцца сем'і з дзецьмі. Музей надае вялікую ўвагу арганізацыі вольнага часу падрастаючага пакалення. З 1991 года ў Нацыянальным музеі працуе мастацка-адукацыйная студыя «У госці да Цюбіка». У студыі дзяўчаткі і хлопчыкі вучацца ўважліва глядзець і бачыць творы, разумець задуму аўтара, фармуляваць свае пачуцці і ўражанні словамі, а пасля – выказваць іх на паперы ў малюнку. Для юных аматараў таксама ствараюцца дзіцячыя інтэрактыўныя праграмы «Героі маіх карцін...», «У колеры ёсць душа, гатовая раскрыцца...», «Архангел Міхаіл, сіл грозных ваявода», «Пышная раскоша параднага партрэта» і нядаўна створаныя гульні-квэсты «Дзеці ў музеі» (прымеркавана да святкавання Дня абароны дзяцей) і «Падарожжа ў свет спорту» (арганізавана ў межах выставачнага праекта «Гульні. Игры. Games»).

Аднак дзейнасць музея цікавіць не толькі сем'і, дзяцей і моладзевую аўдыторыю. Аматарамі і наведвальнікамі Мастацкага з'яўляюцца людзі старэйшага пакалення. Прадстаўнікам «трэцяга ўзросту» прапануецца як самастойнае наведванне музея, так і разнастайныя тэматычныя экскурсіі, «Прагулкі з куратарам» па экспазіцыі.

Творчасць не мае межаў. Не мае перашкод і наведвальнік Мастацкага. Дзякуючы інклюзіўным праектам, такім як беларуска-шведская інклюзіўная лабараторыя «ArtIncLab», тактыльныя арт-праекты «І адчуваючы, бачыць...» і «Мастацтва на кончыках пальцаў», распрацаваным у Нацыянальным мастацкім, людзі з інваліднасцю могуць не толькі наведваць музей, але і быць актыўнымі ўдзельнікам творчага працэсу.

Мастацкі заваёўвае гарадскую прастору. Падчас свайго 75-гадовага юбілею музей «выйшаў у народ»: на фасадзе асноўнага будынка па вуліцы Карла Маркса, 24, з'явіліся восем рэпрадукцый з жывапіснымі шэдэўрамі Станіслава Жукоўскага, Апалінарыя Гараўскага, Івана Хруцкага, Фердынанда Рушчыца, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Віталя Цвіркі, Іосіфа Аляшкевіча і Валерыі Жолтак. Крыху пазней – у верасні 2014 года – рэпрадукцыі вядомых карцін з Нацыянальнага мастацкага ўпрыгожылі сцены двух вагонаў Мінскага метрапалітэна. І сёння на галоўных праспектах беларускай сталіцы мінчане і госці горада могуць бачыць знакавыя творы са збору Нацыянальнага мастацкага музея.

Мастацкі не застаўся ў баку і ад значных міжнародных праектаў, якія звяртаюць увагу на розныя праблемы чалавецтва. Так, ужо некалькі разоў музей далучаўся да Міжнароднай экалагічнай акцыі Сусветнага фонду дзікай прыроды «Гадзіна зямлі». У 2018 годзе ў падтрымку акцыі музей на 60 хвілін адмовіўся ад асвятлення і прапанаваў наведвальнікам, узброіўшыся ліхтарыкамі, пагуляць па цёмных экспазіцыйных залах. Падчас «Гадзіны зямлі – 2019» адбыліся «экалагічныя» экскурсіі па пастаяннай экспазіцыі. Кожны меў магчымасць убачыць знакамітыя пейзажы Івана Шышкіна, Архіпа Куінджы, Івана Айвазоўскага, Апалінарыя Гараўскага і іншых творцаў з незвычайнага ракурсу – з пункту гледжання сучаснага стану навакольнага асяроддзя.

У XXI стагоддзі немагчыма пакінуць без увагі тэлевізійны фармат і віртуальную прастору. Так, да 80-годдзя Мастацкага на тэлеканале «Беларусь 3» адбылася прэм'ера васьмісерыйнага дакументальнага фільма «Дом, дзе жыве мастацтва», які адлюстроўвае гісторыю галоўнага музея краіны. Дзейнасці Мастацкага музея прысвечаныя, напрыклад, цыкл перадач «Арт-гісторыі» пра яго шэдэўры, тэлепраграмы «Культпрасвет» на канале «Беларусь 3», «АРТіШОК» на канале «Беларусь 24» і іншыя.

Музей усталяваў нефармальны кантакт з аўдыторыяй на інтэрнэт-пляцоўках. Штодня павялічваецца колькасць падпісчыкаў афіцыйных старонак НММ у сацыяльных сетках. Інтэрнэт-карыстальнікі актыўныя і разняволеныя ў рэакцыях на публікацыі і падзеі музея, у водгуках, каментарыях. Імгненныя рэакцыі дазваляюць наведвальніку адчуць, што іх меркаванне пачутае, а гэта стымулюе згадваць музей часцей.

Нацыянальны музей не абмяжоўваецца стварэннем праектаў ва ўласных сценах, а заваёўвае глабальную прастору. У 2018 годзе Мастацкі далучыўся да міжнароднага Дня сэлфі і прапанаваў наведвальнікам зрабіць аўтапартрэты на смартфон у музеі і падзяліцца імі ў сацыяльных сетках.

Спецыяльны курс «Арт-азарт» (блогінг у сферы мастацтва для дзяцей) аб'ядноўвае рэальнае і віртуальнае наведванне Мастацкага. Падлеткі знаёмяцца з экспазіцыяй музея і папулярызуюць яго ў сецiве.

Нацыянальны мастацкі музей крочыць у нагу з часам: змяняе парадыгму падачы інфармацыі пра ўласныя калекцыі і падзеі, стварае ўнікальныя праекты, рассоўвае межы музейнай прасторы, ідзе насустрач наведвальніку і знаходзіць водгук у сваіх гасцей.

Менавіта таму ў кнізе водгукаў усё часцей з'яўляецца запаветны сказ: «Я выбіраю Мастацкі!». М


3.

1. Экспазіцыя рускага мастацтва XVIII–XX стст.
2. Экспазіцыя беларускага мастацтва XII–XXI стст.
3. Экспазіцыя замежнага мастацтва і мастацтва краін Усходу.
4. Фондасховішча і Рэстаўрацыйны цэнтр.
5. Бібліятэка.
6. Пераходная галерэя.
7. Кніжна-сувенірная крама, кавярня і рэстаран «ArtMuseumCafe».
8. Выставачныя залы.
9. Экспазіцыя беларускага народнага мастацтва.
10. Архіў.



На галоўным корпусе Нацыянальнага мастацкага музея ў нішах размясціліся алегарычныя фігуры «Скульптура» (злева) аўтарства Сяргея Адашкевіча і Паўла Белавуса і «Жывапіс» (справа) – Марка і Лейбы Раберманаў. Адкрыццё будынка адбылося ў 1957 годзе.

ISSN 0208-2551




ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ 74958, 749582. РОЗНІЧНЫ КОШТ — ПА ДАМОЎЛЕНАСЦІ.